НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПОЛАЦКІ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ
МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК

# ПОЛАЦКІ МУЗЕЙНЫ ШТОГОДНІК

## 2010

Полацк 2011

УДК 069(476.5)+97(476.5)(082)
ББК 79.1(4Беі)
П49

Друкуецца па рашэнні
навукова-метадычнай рады НПГКМЗ

**Укладальнікі**:
***Т.А. Джумантаева,***
намеснік дырэктара па навуковай рабоце
***А.У. Шумовіч,***
загадчык Музея беларускага кнігадрукавання
***Т.Р. Смірнова,***
старшы навуковы супрацоўнік Дзіцячага музея

П35 **Полацкі музейны штогоднік**: (зборнік навуковых артыкулаў за 2010 г.) / уклад. Т.А. Джумантаева, А.У. Шумовіч, Т.Р. Смірнова. — Полацк: НПГКМЗ, 2011. — 284 с.: іл.

ББК 79.1(4Беі)+63.3(4Беі)я4

# Змест

МАТЭРЫЯЛЫ КАНФЕРЭНЦЫІ
**СКАРЫНАЎСКІЯ ЧЫТАННІ:**
**да 20-годдзя Музея беларускага кнігадрукавання**

МАТЭРЫЯЛЫ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАГА СЕМІНАРА
**«МУЗЕЙ И ДОШКОЛЬНЫЕ УЧРЕЖДЕНИЯ.**
**Современность и перспективы»**



**АРТЫКУЛЫ**

# Уступнае слова

Сярод шматлікіх галін гуманітарных ведаў і відаў сацыякультурнай практыкі пытанні захавання і выкарыстання культурнай спадчыны займаюць сёння асаблівае месца. Ад паспяховай дзейнасці па іх вырашэнні залежыць сама магчымасць забеспячэння сувязі часоў у развіцці грамадства. Апошнімі гадамі да праблем культурнай спадчыны звяртаюцца філосафы, гісторыкі, мастацтвазнаўцы, літаратары, культуролагі, музеязнаўцы. Інтарэс вучоных і практыкаў абумоўлены складваннем сістэмных уяўленняў аб грамадстве і навакольным свеце, пранікненнем экалагічнай канцэпцыі ў шырокія пласты культуры, што ў сваю чаргу прывяло да перамен у разуменні культурнай спадчыны і яе ролі ў развіцці грамадства, да ссоўвання акцэнтаў вывучэння культурнай спадчыны ў бок распрацоўкі спосабаў яе «культурнага ажыўлення».

Спадчына з’яўляецца падмуркам культуры, найважнейшай умовай яе ўзнаўлення і развіцця. Пачынаючы са старажытных часоў (антычныя гарады-дзяржавы) менавіта ў гарадах бесперапынна ішоў працэс назапашвання вялікіх і разнастайных па характары пластоў культурнай спадчыны і, разам з ім — фарміраванне ў грамадскай свядомасці асаблівых адносін да мінулага. Шматвекавая традыцыя асэнсавання і выкарыстання спадчыны атрымала завяршэнне ў стварэнні і функцыянаванні спецыяльных сацыякультурных інстытутаў (музеяў, бібліятэк, архіваў), якія заўсёды захоўвалі, вывучалі і папулярызавалі культурную спадчыну ў адпаведнасці з запытамі і патрэбнасцямі грамадства на кожным з этапаў яго развіцця.

Інтарэс да культурнай спадчыны асабліва востра праяўляецца ў пераломныя гістарычныя эпохі, калі грамадства спрабуе асэнсаваць мінулае і зазірнуць у будучыню. Часцей за ўсё гэта адбываецца на мяжы стагоддзяў. Сёння, калі пачалося новае стагоддзе, гэты працэс вызначаецца асаблівым інтарэсам да айчыннай гісторыі і культуры, актывізацыяй даследаванняў «белых плям» гісторыка-культурнага працэсу, зварот да незаслужана забытых і выкрасленых з гісторыі культуры

імёнаў, шырокай дэманстрацыяй твораў мастацтва з музейных фондаў і асабістых калекцый — гэта важныя крокі да ўспрымання, асэнсавання, а часам і пераасэнсавання духоўнага вопыту нашых папярэднікаў, лепшых традыцый і ўзораў культуры.

Помнік і музейны прадмет — сацыякультурныя з'явы, таму арганізацыя дзейнасці па захаванні культурнай спадчыны павінна будавацца на аснове сінтэзу шматлікіх падыходаў, але з вызначэннем адзінага вектара з пазіцыі сучасных музеялагічных ведаў.

Каб растлумачыць значнасць артэфактаў, кожнаму новаму пакаленню патрэбны пасрэднік, які дапаможа ў спасціжэнні сэнсаў, што знаходзіцца ў сферы сацыяльнай спадчыны і культурнай прасторы. Такім пасрэднікам выступаюць важнейшыя сацыякультурныя інстытуты, і першы з іх — музей, які дае ўстаноўку на засваенне культурнай спадчыны і ўключэнне яе ў кантэкст асабістага жыцця.

На сучасным этапе развіцця грамадства за музеямі, якія пашырылі сваю тыпалогію ад класічных музеяў калекцыйнага тыпу да ўнікальных гісторыка-культурных тэрыторый, замацавалася важная сацыяльная місія, звязаная з роляй культурнай спадчыны ў развіцці грамадства і сацыялізацыі сучаснага чалавека.

Таму ўпершыню зборнік матэрыялаў па выніках навуковай работы ў 2009 г. утрымлівае не толькі падрыхтаваныя навуковымі супрацоўнікамі Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка даклады, але і матэрыялы, якія былі прадстаўлены на Скарынаўскіх чытаннях, прысвечаных 20-годдзю Музея беларускага кнігадрукавання, і на навукова-практычным семінары «Музей і дашкольная ўстанова: сучасны стан узаемадзеяння і перспектывы».

Па рашэнні Навукова-метадычнага савета запаведніка дадзены зборнік выходзіць пад новай назвай «Полацкі музейны штогоднік». Ён будзе выдавацца раз у год і змяшчаць навуковыя артыкулы супрацоўнікаў нашых музеяў, а таксама запрошаных спецыялістаў іншых музейных і акадэмічных устаноў. Як, напрыклад, у дадзеным зборніку вы будзеце мець магчымасць азнаёміцца з навукова абгрунтаваным і вельмі важным для нас артыкулам навуковага супрацоўніка Дзяржаўнага Эрмітажа Вяч. С. Куляшова, які даследуе вядомы Казьянкаўскі скарб арабскіх дырхамаў.

*Андреева Н.А.*

## Теория и практика применения исследовательских методов обучения на музейно-педагогических занятиях (из опыта работы НПИКМЗ)

Никто не станет отрицать, что ребёнок по своей природе исследователь. Любопытство, постоянное стремление экспериментировать, самостоятельно приобретать новые сведения об окружающем мире, традиционно рассматриваются как важнейшие черты детского поведения. Исследовательская, поисковая активность — естественное состояние ребёнка. Это внутреннее стремление к исследованию порождает исследовательское поведение и создаёт условия для того, чтобы психическое развитие ребёнка изначально разворачивалось как процесс саморазвития.

Исследовательское поведение — особый вид поведения и один из важнейших источников получения ребёнком представления о мире. В педагогической психологии и педагогике есть специальный термин — «исследовательское обучение». Так именуется подход к обучению, построенный на основе естественного стремления ребёнка к самостоятельному изучению окружающего мира. Цель исследовательского обучения — формирование у ребёнка способностей самостоятельно, творчески осваивать новые способы деятельности в любой сфере человеческой культуры.

Попытки выстроить образовательную деятельность на основе исследовательских методов в обучении предпринимались с давних времён (Сократ, V в. до н.э.), однако это не привело к их широкому использованию. А вот сам термин «исследовательское обучение» вошёл в профессиональный обиход сравнительно недавно, во второй половине XX в.

Известные специалисты в области теории обучения М.Н. Скаткин и И.Я. Лернер выделяют 5 основных общедидактических методов обучения: объяснительно-иллюстративный (или информационно-рецептивный), собственно-репродуктивный, проблемное изложение, частично поисковый (эвристический), исследовательский. Эти методы

они объединили в две группы: репродуктивные (первый и второй) и продуктивные (четвёртый и пятый). Проблемное изложение предполагает как усвоение готовой информации, так и элементы исследовательского поиска.

К первой группе относятся методы, посредством которых учащиеся усваивают готовые знания и воспроизводят (репродуцируют) уже известные им способы деятельности. Вторая группа методов даёт возможность учащимся самостоятельно открывать субъективно и объективно новые знания. Репродуктивные методы предполагают усвоение готовой информации и действие по образцу. Продуктивные методы вырабатывают умение видеть проблемы, строить собственные доказательства, высказывать предположения и делать выводы. Но, отмечая важность продуктивных методов, не стоит забывать, что репродуктивные методы также необходимы, т.к. с их помощью мы передаём обобщённый и систематизированный опыт, накопленный человечеством, и в некоторых случаях нет необходимости вновь и вновь изобретать велосипед, но важнее, пожалуй, то, что без репродуктивных методов, особенно на начальном этапе, исследовательский метод не даст нужного образовательного результата и, наконец, использование только исследовательских методов требует от учащихся незаурядных творческих способностей. Преобладание репродуктивных методов обучения, направленных на усвоение готового материала, сводит почти к нулю поисковую активность ребёнка. В результате теряется любознательность, способность мыслить самостоятельно, делать выводы.

Частично-поисковый (или эвристический) метод принято рассматривать как этап, предваряющий использование исследовательского метода. В качестве варианта частично-поискового метода рассматривается эвристическая беседа, состоящая из серии взаимосвязанных вопросов, каждый из которых является шагом на пути решения какой-то проблемы, требует определённых знаний. Но в более полном объёме элементы исследовательского поиска представлены в исследовательском методе, который наиболее соответствует и природе ребёнка, и современным задачам обучения.

Исходя из специфики нашей работы с детьми дошкольного и младшего школьного возраста, мы должны обратить внимание на развитие у детей специальных умений и навыков исследовательского поиска. К ним относятся (по А.И. Савенкову) умения:

- видеть проблемы,
- ставить вопросы,
- выдвигать гипотезы,
- давать определения понятиям,
- классифицировать,
- наблюдать,
- проводить эксперименты,
- делать выводы,
- структурировать материал.

Из всего перечня необходимых умений в течение 2008/2009 уч. года на музейно-педагогических занятиях (далее — МПЗ) отслеживалось формирование следующих умений:

- видеть проблемы,
- выдвигать гипотезы,
- наблюдать, сравнивать
- экспериментировать,
- делать выводы.

Итак, умение видеть проблемы. Проблемой является любая теоретическая или практическая ситуация, требующая разрешения, исследования. Чтобы устранить проблему, требуется:

- сформулировать её,
- исследовать вопрос, ситуацию,
- принять решение.

Музейный педагог (далее — МП) берёт на себя самое трудное — формулировку проблемы. Дети, как правило, не знают, какую цель преследует МП, да и результат совместного творчества тоже может быть непредсказуем, поскольку реальный процесс творчества (скорее сотворчества) — это шаг в ранее неизвестное.

Умение видеть проблемы — интегративное свойство мышления. Развивается оно в течение длительного времени и разных видах деятельности, и всё же есть специальные приёмы, которые помогают в решении этой непростой задачи.

В частности, на музейно-педагогических занятиях можно предложить детям продолжить рассказ, начатый МП, представить себя то зрителем, то участником какого-либо действа, можно использовать приём «перемещения» на место другого человека. Таким образом мы учим детей смотреть на одни и те же события или явления с разных точек зрения.

На МПЗ «У краіне майстроў» (ст. н. с. Краеведческого музея Гаврилова С.В.) детям 8-и лет было предложено сначала стать участниками ярмарки, т.е. покупателями, а потом представить себя в роле ремесленников. Этот приём дал возможность посмотреть на объект исследования (предметы археологи) с разных сторон, позволил увидеть детали, которые ускользают при обычном рассматривании музейного предмета.

Задание «Сколько значений у предмета» используется в работе с детьми 4-х лет (ст. н. с. Детского музея Смирнова Т.Р.) и учит ребёнка концентрировать свои мысли на одном предмете, помещая его в разные ситуации. Тем самым ребёнок учится открывать в обыденном новые, иногда неожиданные возможности.

Выявить проблему можно и путём наблюдения. Наблюдение, пожалуй, самый популярный и самый доступный метод исследования. Умение наблюдать — это умение фиксировать предмет, сравнивать его с другими предметами, оценивать. Т.е. наблюдательность — это синтез внимания и мышления.

Метод наблюдения лишь внешне выглядит простым. Наблюдению необходимо учить. Умению смотреть и видеть уделяется много внимания на МПЗ, связанных с изобразительным искусством. И, пожалуй, наиболее показательное в этом плане занятие для детей 5-и лет «В мире волшебных красок». На этом занятии дети знакомятся с жанрами живописи. Но основная задача МП — помочь ребёнку почувствовать всю палитру настроений, динамику чувств, эмоций, запечатлённых художником на полотне, соотнести со своим внутренним миром и жизненным опытом.

А для детей 4-х лет разработана специальная программа, первая часть которой так и называется: «Учимся смотреть и видеть…» (автор ст. н. с. Детского музея Смирнова Т.Р.).

Умение наблюдать хорошо развивает задание «Путаница» (используется в работе с детьми 4-х, 6-и лет), задания с намеренно допущенными ошибками, которые нужно найти: игра «Предметы заблудились» (для детей 7-и лет), игра-тренинг «Найди и исправь» (для детей 4-х лет), игра «Найди ошибку» (для детей 6-и лет).

Умение наблюдать развивают и задания, которые предполагают нахождение аналогии (по форме, назначению), особенно если аналогии устанавливаются по памяти. На занятии «Здравствуй, музей» МП показывает детям незнакомый им предмет — светец. О назначении это-

го предмета нужно догадаться, проанализировав лексическое значение незнакомого слова, форму предмета, сопоставив его с другими предметами, составляющими предметный (в данном случае и логический) ряд: свеча, керосиновая лампа, настольная лампа.

Близок к приёму аналогии приём сравнения, позволяющий выявить сходство и различие предметов, явлений, процессов. Этот приём активно используется МП практически на любом занятии, т.к. с его помощью мы можем «приблизить» далёкое прошлое, понять значимость предметов, вышедших из употребления, осознать определённые исторические события, т.е. ощутить время в его и материальном, и духовном воплощении.

Одним из базовых умений исследователя является умение выдвигать гипотезы, строить предположения. Гипотеза — это научное предположение, выдвигаемое для объяснения какого-либо явления и требующее проверки на опыте и теоретического обоснования для того, чтобы стать достоверной научной теорией; вообще — предположение, требующее подтверждения.

Т.е. изначально гипотеза не истинна и не ложна. Если её подтвердить — она становиться теорией, если опровергнуть — она перестаёт существовать. Но в отличие от простого предположения, гипотеза должна быть обоснованной.

Для детских исследований, направленных на развитие творческих способностей, важно умение вырабатывать гипотезы по принципу чем больше, тем лучше. Годятся даже самые фантастические гипотезы и идеи.

Построение гипотез — основа исследовательского, творческого мышления. Гипотезы возникают как возможные варианты решения проблемы и затем подвергаются проверке в ходе исследования. Ценность гипотез в том, что они заставляют выйти за рамки обыденных представлений, погрузиться в мыслительную игру. При этом МП может использовать приём «провокационной» гипотезы, в которой заключено заведомо неправильное предположение.

Практически на любом МПЗ мы стимулируем детей выдвигать гипотезы, задавая вопросы такого рода: почему одни хищные животные охотятся ночью, а другие днём? почему цветы имеют яркую окраску? для чего нужны были волоки? зачем книге застёжки? и т.д. И на каждый из этих вопросов дети, как правило, выдвигают по несколько гипотез, например, застёжки нужны книге, чтобы чужие книгу не открывали,

чтобы не брали грязными руками, чтобы страницы не мялись, чтобы книга была красивая, потому что эта книга уже экспонат.

В таком варианте самое трудное — «выудить» правильную гипотезу и обосновать её опять-таки с помощью детей.

Важнейшим методом исследования является эксперимент. Эксперимент предполагает проведение практических действий с целью проверки гипотезы или с целью сравнения. И самые интересные эксперименты — опыты с предметами и их свойствами. В качестве примеров можно привести занятия по программе «История привычных вещей» (ст. н. с. Детского музея Смирнова Т.Р.) по темам «Остановись, мгновенье», «Время и мы». Опытно-экспериментальным путём МП раскрывает такие физические свойства светового луча как отражение и преломление. Смена времени года, чередование суток, месяцев — все эти явления можно объяснить детям только путём моделирования. Организация экспериментов широко практикуется в первую очередь на занятиях природно-экологического цикла. Темы занятий «Наш общий дом», «По лесным тропинкам», «Мир насекомых», «Мир аквариумов и воды» предполагают не только поиск ответов на вопросы почему? что будет, если..., но и эксперименты с увеличительным стеклом, микроскопом, водой.

Согласно теории А.И. Савенкова, программа исследовательского обучения должна включать 3 элемента:

а) развитие у детей исследовательских умений и навыков,

б) детскую исследовательскую практику (проведение самостоятельных исследований и выполнение творческих проектов),

в) мониторинг исследовательской деятельности (творческие проекты детей, фестивали, конкурсы детских работ и т.д.).

Мы сегодня поговорили только о первой составляющей программы исследовательского обучения. Но хочется верить, что работа в этом направлении будет продолжаться, тем более что сегодня потенциальные возможности музейного образования становятся предметом исследования учёных и практиков, осознана необходимость поиска новых подходов к музейному образованию.

**Список литературы**

1. Гузеев, В.В. Дидактические обоснования образовательной технологии / В.В. Гузеев. – Минск, 2000.

2. Обухов, А.С. Развитие исследовательской деятельности учащихся / А.С. Обухов // Народное образование. – 2000. – № 2.

3. Савенков, А.И. Детское исследование как метод обучения старших дошкольников / А.И. Савенков // М.: ИД «Первое сентября». 2007. – № 22.

4. Савенков, А.И. Исследовательские методы обучения в дошкольном образовании / А.И. Савенков // Дошкольное воспитание. – 2005. – № 12; 2006. – № 1, 4.

5. Харламаў, I.Ф. Педагогіка / I.Ф. Харламаў. – Мінск: Універсітэцкая, 1998.

6. Большой иллюстрированный словарь иностранных слов. – М.: Русские словари. Астрель. АСТ, 2003.

*Анучына Н.У.*

# Беларускія выданні Беласточчыны 1957–2002 гг. у фондах НПГКМЗ

Беларуская дыяспара — частка беларускага народа, якая жыве па-за межамі Беларусі, але імкнецца захоўваць сваю нацыянальную адметнасць. Найчасцей узнікненне дыяспары з'яўляецца вынікам эміграцыі (ад лац. «emigrare» — высяляцца, перасяляцца). Але для часткі беларусаў, што жывуць на памежных з Рэспублікай Беларусь тэрыторыях і з'яўляюцца карэнным насельніцтвам на гэтых землях, падставаю для фарміравання дыяспары было змяненне афіцыйных межаў беларускай дзяржавы. Так, напрыклад, адбылося з беларусамі Беласточчыны. У верасні 1944 г. Беласток і большая частка вобласці паводле рашэнняў Крымскай канферэнцыі кіраўнікоў урадаў — СССР, ЗША і Англіі — адышлі да Польшчы...

Беласточчына займае ў гісторыі нашага народа важнае месца. Тут знаходзіцца Супрасль, дзе з XVI ст. існаваў Благавешчанскі манастыр, які набыў вядомасць ва ўсім славянскім свеце перш за ўсё бібліятэкай, што налічвала сотні рукапісных кніг і лічылася адной з буйнейшых у Вялікім Княстве Літоўскім. Пры манастыры працавала таксама друкарня.

Вядома ва ўсім свеце і тутэйшае мястэчка Заблудава, дзе Іван Фёдараў разам са сваім памочнікам Пятром Мсціслаўцам выдалі ў 1569 г. багата ілюстраванае «Евангелле вучыцельнае», а ў наступным — 1570 — «Псалтыр з Часасловам». На Беласточчыне ў Мастаўлянах нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, тут ён друкаваў і распаўсюджваў па ўсёй Беларусі газету «Мужыцкая праўда».

Цяпер Беласток — адміністрацыйны цэнтр Падляскага ваяводства (з 1999 г.), у ім пражывае больш за 7 тысяч беларусаў (дадзеныя за 2002 г.). Ёсць у горадзе пачатковая школа і гімназія, дзе (як дадатковы прадмет) вывучаецца беларуская мова, дзейнічае дзіцячы садок, у якім выхаванцы размаўляюць па-беларуску. У Беластоцкім універсітэце плённа працуе кафедра беларускай культуры. На Беласточчыне што-

год праводзяцца Фестываль беларускай песні, Фестываль беларускай альтэрнатыўнай музыкі «Басовішча», адбываюцца Дні беларускай культуры і іншыя акцыі, якія прапагандуюць беларускую культуру. У Беластоку створаны і дзейнічаюць нацыянальныя беларускія арганізацыі: Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы (БГКТ), Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», Беларускае гістарычнае таварыства (кіраўнік Алег Латышонак), Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай, Беларускае аб'яднанне студэнтаў і іншыя.

Адным з асноўных напрамкаў дзейнасці гэтых арганізацый з'яўляецца выдавецкая справа. Нягледзячы на гэта, калекцыя беларускіх выданняў Беласточчыны ў фондах Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка (НПГКМЗ) налічвае ўсяго 64 адзінкі захоўвання. Большасць з іх выдадзена Беларускім грамадска-культурным таварыствам (57 прадметаў) і паступіла ў складзе калекцыі Алеся Матусевіча ў 1987–1988 гг.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства (заснавана ў 1956 г.) – гэта першая грамадская арганізацыя ў Польшчы, якая аб'яднала рух беларусаў да культурнага і нацыянальнага адраджэння. Гэты рух мае цікавую гісторыю. Так, на працягу 1905–1936 гг. у Варшаве ўзніклі розныя арганізацыі, таварыствы, гурткі, якія збіралі вакол сябе свядомых беларусаў, арганізоўвалі беларускія імпрэзы, займаліся асветніцкай і выдавецкай дзейнасцю. Але ўсе яны былі нешматлікія, і большасць з гэтых арганізацый існавала нелегальна.

У 1936 г. быў распрацаваны і прапанаваны польскім уладам Статут «Асветніцкага таварыства беларусаў у Варшаве». Ён быў зацверджаны ў 1937 г. Аднак дзейнасць арганізацыі была абмежавана тэрытарыяльна Варшавай (спачатку меркавалася, што дзейнасць таварыства будзе распаўсюджвацца па ўсёй Польшчы і мець аддзелы і філіі на беларускіх землях) [7, с. 129].

З пачаткам Другой сусветнай вайны распачатая справа надоўга перапынілася. Новае таварыства было створана толькі ў 1956 годзе.

Пашырэнню дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў розных напрамках спрыяла арганізацыя газеты «Ніва», першы нумар якой выйшаў у 1956 г. Значэнне гэтага выдання можна акрэсліць як ролю цэнтра, вакол якога збіраліся ўсе літаратурныя сілы беларусаў. У фондах НПГКМЗ захоўваецца сем камплектаў-падшывак газеты Ніва» за 1970, 1972, 1974–1977, 1984 гг., – усяго 366 нумароў. Сярод

апублікаваных на старонках газет матэрыялаў можна вылучыць артыкулы, прысвечаныя вядомым асобам (М. Сматрыцкаму, Ф. Багушэвічу, К. Чорнаму, В. Быкаву, Б. Тарашкевічу, Я. Купалу, Я. Коласу, М. Шагалу, П. Клімуку, Р. Шырме і інш.), гісторыі кнігадрукавання («Супрасльская друкарня» М. Гайдука — № 6, 1976; «Ля вытокаў беларускага кнігадрукавання» П. Юр'ева — № 13, 1970), звязаныя з Полаччынай (у артыкуле «Авеяныя легендай» узгадваецца З. Тусналобава-Марчанка — № 19, 1975).

Як дадатак да «Нівы» з красавіка 1957 г. пачала выходзіць «газета беларускіх дзяцей у Польшчы» — «Зорка». У фондах знаходзяцца чатыры камплекты-падшыўкі гэтага выдання за 1968, 1975–1977 гг. (186 нумароў). Матэрыял размяшчаецца па рубрыках: «Адгаданка», «Пазнаёмімся», «Паглыбляй свае веды», «Вясёлы куточак», «Зорчына пошта», «Пішуць школьнікі», «Для самых маленькіх», «На школьную сцэну», «Казкі пушчы», «Беларускія народныя гульні», «Зрабі сам». Тут друкуюцца творы Я. Купалы, Я. Коласа, Н. Гілевіча, В. Вольскага, М. Прышвіна, Г.Х. Андэрсена, А. Барто, М. Чарняўскага, Л. Дайнекі, Э. Агняцвет і іншых аўтараў.

У тым жа 1957 г. пабачыў свет першы выпуск штогодніка «Беларускі каляндар», 35 нумароў якога за 1957–1960, 1962–1978, 1980–1985, 1987 гг. захоўваюцца ў фондах НПГКМЗ. Задачу такога календара раскрываюць радкі, змешчаныя ў 1-ым нумары: «...Беларускаму насельніцтву патрэбны свой беларускі каляндар, які з'яўляўся-б дапаможнікам і дарадчыкам у жыцці і працы беларуса-селяніна, рабочага, інтэлігента, беларускай маладзі і дзяцей; у якім беларус знайшоў-бы штосьці цікавае і карыснае, які-б адлюстраваў сучаснае жыццё беларусаў у Польшчы і гісторыю беларускага народа» [**2**, с. 3].

Першай часткай штогодніка з'яўляецца «Каляндарыум», у якім у выглядзе табліцы на кожны месяц змешчаны ўласна каляндар з праваслаўнымі і каталіцкімі святамі і імянінамі, астранамічныя звесткі, народныя прыкметы, памятныя даты. Другая частка ўтрымлівае гістарычныя, краязнаўчыя, навуковыя, крытычныя і іншыя артыкулы, матэрыялы пра культуру і мастацтва, пра дзейнасць БГКТ, гаспадарчыя і земляробчыя парады. Абавязковай з'яўляецца літаратурная частка з творамі беларускіх і мясцовых пісьменнікаў (Я. Коласа, Я. Купалы, М. Чарота, С. Яновіча, М. Гайдука, В. Шведа, А. Барскага), фальклорам.

Цікавымі па змесце з'яўляюцца «Навукова-літаратурны зборнік і беларускі каляндар» (1961) і «Навуковы зборнік» (1974). Сярод матэрыялаў гэтых зборнікаў можна вылучыць наступныя: «Агляд публіцыстычна-літаратурнай спадчыны Кастуся Каліноўскага» (аўтар А. Баршчэўскі); «Беларуская вусная народная творчасць Беласточчыны» (складальнік М. Гайдук); «Невядомыя беларускія творы XVIII стагоддзя» (аўтар А. Мальдзіс).

У 1963 г. убачыла свет кніга «Мой родны кут». Яна адрасавалася ў асноўным вучням пачатковых школ, у якіх вывучаецца беларуская мова. Гэта адпаведным чынам паўплывала і на змест. У першы раздзел увайшлі вершы і апавяданні, фальклорныя творы, што прывіваюць любоў да роднай зямлі. Працягам гэтай гаворкі стаў другі раздзел «Пазнай сваю Бацькаўшчыну». Артыкулы, нарысы, прысвечаныя Белавежскай пушчы, гісторыі краю, адметнасці мясцовых гаворак, пашыралі кругагляд юных чытачоў.

Выдае БГКТ і літаратурныя творы беларускіх пісьменнікаў Польшчы. Мастацкая літаратура прадстаўлена наступнымі выданнямі: зборнік вершаў «Рунь» (1959), зборнікі вершаў Віктара Шведа «Дзяцінства прыстань» (1975), Алеся Барскага «Белавежскія матывы» (1962) і «Блізкасць далёкага» (1983); збор твораў Сакрата Яновіча «Загоны» (1969); кніга «Аб чым шуміць Белавежская пушча» (1982), у якой сабраны казкі і легенды ў апрацоўцы Мікалая Гайдука.

Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» ўтворана 8 чэрвеня 1958 года пры рэдакцыі «Нівы». Сярод заснавальнікаў Ян Чыквін, Віктар Швед, Сакрат Яновіч. Старшынёй быў абраны Георгій Валкавыцкі, рэдактар тыднёвіка «Ніва». У 1989 г. на чале аб'яднання становіцца Ян Чыквін.

У газеце «Ніва» «Белавежа» мела сваю «Літаратурную старонку». Акрамя яе, сябры аб'яднання друкавалі свае творы ў альманаху «Белавежа» (№ 1, 1965; № 2, 1971; № 3, 1980), на старонках «Беларускіх календароў», а з 1998 года змяшчаюць свае творы ў новым часопісе «Тэрмапілы» (№ 1, 1998). Сярод аўтараў апошняга — Я. Брыль, Н. Мацяш, М. Тычына, Л. Рублеўская, М. Сяднёў, С. Яновіч, Я. Чыквін.

Сярод перыядычных выданняў, якія захоўваюцца ў фондах запаведніка, можна яшчэ вылучыць асобныя нумары часопісаў: «Правінцыя» (№ 2–3, 2002), выдавец Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай; «Праваслаўе ў Беларусі і ў сьвеце» (№ 1, 1993), выдаўцы Беларускае

Праваслаўнае Брацтва Трох Віленскіх Пакутнікаў (г. Мінск) і Кірыла-Мяфодзіеўскае Праваслаўнае Брацтва ў Польшчы (г. Беласток); «Часопіс праваслаўнае беларускае моладзі», спецыяльны нумар якога выдадзены ў 1990 годзе да пяцісотгоддзя Ф. Скарыны.

Сярод вышэй названых выданняў вылучаецца кніга «Першы з'езд беларусаў свету». Яна выйшла ў 1997 г. у Мінску, а выдаўцом з'яўляецца Беларускае гістарычнае таварыства (г. Беласток). У кнізе змешчаны матэрыялы і дакументы з'езду, які праходзіў 8–10 ліпеня 1993 года ў Мінску. А менавіта: матэрыялы пленарных пасяджэнняў з'езду (выступленні В. Быкава, С. Шушкевіча, Н. Гілевіча, Я. Запрудніка, А. Трусава), матэрыялы круглых сталоў, выніковыя дакументы. Акрамя гэтага, у зборніку змешчаны фотаздымкі з выявамі ўдзельнікаў і гасцей з'езду.

Беларускія арганізацыі на Беласточчыне існуюць ужо больш за 50 гадоў, зроблена і выдадзена імі нямала. Калекцыя ж беларускіх выданняў Беласточчыны ў фондах НПГКМЗ, як бачым, невялікая і далёка не поўная, але яна з'яўляецца «сведчаннем жывучасці нацыянальнай ідэі ў асяроддзі людзей, якіх лёс адрынуў ад роднай Бацькаўшчыны, але якія ніколі не парывалі душэўнай еднасці з роднай зямлёй» [**9**, с. 161].

**Каментарыі**

**Барскі Алесь** (сапр. Баршчэўскі Аляксандр; н. 2.11.1930, в. Бандары, Беласточчына), беларускі паэт, літаратуразнаўца. Доктар філалогіі (1984), ганаровы прафесар БДУ (1993). Скончыў Лодзінскі ўніверсітэт (1955). Друкуецца з 1956 г. Піша на беларускай і польскай мовах. Аўтар кніг паэзіі «Жнівень слоў» (1967), «Лірычны пульс» (1987), кнігі эсэ «З пабачанага і пражытага» (1992). Даследуе гісторыю беларускай літаратуры, фальклор Беласточчыны.

**Гайдук Мікалай** (29.5.1933, в. Кабылянка, Беласточчына — 2.9.1998, г. Беласток), беларускі пісьменнік, фальклbusарыст, публіцыст, літаратуразнаўца. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У.І. Леніна (1959). У 1986–1988 гг. — намеснік галоўнага рэдактара газеты «Ніва». Аўтар зборніка вершаў «Ціш» (1988), зборніка апавяданняў «Белавежскія паданні» (1990). Збіраў і даследаваў беларускі фальклор Беласточчыны.

**Латышонак Алег** (н. 27.5.1957, г. Эльблонг, Польшча). Скончыў гісторыка-філасофскі факультэт Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве

(1980). Працаваў настаўнікам гісторыі, у Кракаўскім гістарычным музеі і ў Інстытуце даследавання польскай дыяспары Ягелонскага ўніверсітэта. З 1992 па 1994 г. — старшыня галоўнай рады Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання. У 1993–1997 гг. — журналіст тыднёвіка «Ніва». Адзін з заснавальнікаў рок-фэсту «Басовішча». Сябра-заснавальнік Беларускага клуба. Доктар гісторыі, прафесар Беластоцкага ўніверсітэта. Старшыня Беларускага гістарычнага таварыства (з 1996). Аўтар кніг «Жаўнеры БНР» (2009), «Нацыянальнасць — беларус» (2009).

**Чыквін Ян** (н. 18.5.1940, в. Дубічы-Царкоўныя, Беласточчына), беларускі паэт, крытык, літаратуразнаўца, перакладчык. Скончыў філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1964). Доктар гуманітарных навук. З 1988 г. — старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Друкуецца з 1957 г. Піша на беларускай і польскай мовах. Аўтар зборнікаў вершаў «Іду» (1969), «Неспакой» (1977), «Светлы міг» (1989), «Сонечная вязь» (1988). Пераклаў на польскую мову творы А. Разанава, Г. Марчука.

**Швед Віктар** (н. 23.3.1925, в. Мора, Беласточчына), беларускі паэт. Скончыў аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта (1969). Працаваў у газеце Ніва». Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1971). Друкуецца з 1957 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Жыццёвыя сцежкі» (1967), «Дружба» (1976), «Мая зялёная Зубровія» (1990).

**Яновіч Сакрат** (н. 4.9.1936, мяст. Крынкі, Беласточчына), беларускі пісьменнік. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт (1973). Друкуецца з 1956 г. Аўтар зборнікаў прозы «Сярэбраны яздок» (1978), «Самасей» (1992). Старшыня аб'яднання «VILLA SOKRATES», якое выдае гадавік «Annus Albaruthenicus» (з 1999 г.).

**Спіс літаратуры**

1. Беларуская дыяспара // Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы / выд. 2-е, дап.; М. Біч, Р. Гарэцкі і інш. — Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2005. — С. 378–388.

2. Беларускі каляндар на 1957 год / рэдактар М. Баравік. — Беласток: Беларускае грамадска-культурнае таварыства, 1957.

3. Беларускія пісьменнікі (1917–1990): даведнік / склад. А.К. Гардзіцкі. — Мінск: Маст. літ., 1994. — 653 с.

4. Казбярук, У. «Пясняр роднай Беласточчыны» / У. Казбярук // ЛіМ. — 2005. — № 45. — С. 14.

5. Казбярук, У. Сябра «Белавежы» з першых год яе існавання / У. Казбярук // Кантакты і дыялогі. — 2000. — № 1–2. — С. 30.

6. Конан, У. Беларуская «Белавежа» / У. Конан // Кантакты і дыялогі. — 1997. — № 5. — С. 53.

7. Маленка, Л. Дэкаратыўна-прыкладное і выяўленчае мастацтва на старонках «Нівы» / Л. Маленка // Культура беларускага замежжа. Кн. 1 / пад. рэд. А. Сабалеўскага. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — С. 123–146.

8. Мальдзіс, А. Беластоцкай «Белавежы» — паўстагоддзя / А. Мальдзіс // ЛіМ. — 2008. — № 26. — С. 15.

9. Мамонька, У. Чытайце «Беларускі каляндар» / У. Мамонька // Культура беларускага замежжа. Кн. 2 / пад. рэд. А. Сабалеўскага. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — С. 149–162.

10. Марціновіч, А. Раку жывяць ручаіны / А. Марціновіч // Культура беларускага замежжа. Кн. 2 / пад. рэд. А. Сабалеўскага. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — С. 98–123.

11. Сачанка, Б. На зямлі беластоцкай / Б. Сачанка // Сняцца сны аб Беларусі…: літ.-крытыч. арт., інтэрвью / Б. Сачанка. — Мінск: Маст. літ., 1990. — С. 80–103.

*Воднева І.П.*

## Полацкае прыхадское вучылішча (1820–1863)

Развіццё адукацыі і выхавання ў канцы XVIII – першай палове XIX стст. ужо не раз асвятлялася на старонках навуковых выданняў. Гэтай тэме ў апошнія дзесяцігоддзі прысвячалі свае працы С.В. Снапкоўская (Мінск), М.А. Ступакевіч (Гродна), Т.Б. Блінова (Гродна), С.М. Васовіч (Брэст), Н.С. Гардзіенка (Мінск), А. Самусік (Мінск) і іншыя. Імі былі прааналізаваны Загады і пастановы розных ведамстваў, матэрыялы архіваў Беларусі, Расіі, Польшчы, даклады і справаздачы навучальных устаноў, дзённікі былых вучняў. Новыя звесткі сёння могуць быць знойдзены ў большай ступені толькі ў архівах. У дадзенай працы якраз і пойдзе размова аб Полацкім прыхадскім вучылішчы, дзейнасць якога прасочваецца ў нешматлікіх дакументах, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (НГАБ).

У 1772, 1793 і 1795 гг. адбылося далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі. Новая дзяржава патрабавала перагляду палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага становішча. Змены не абмінулі і сістэму адукацыі і выхавання. У часы кіравання Кацярыны II (1762–1796) руская асвета перажывала новы ўздым. Пад уздзеяннем французскіх філасофаў распаўсюджваліся новыя заходнееўрапейскія педагагічныя настроі. Галоўная ўвага ў школе надавалася не столькі адукацыі, колькі выхаванню асобы. Але ваенныя кампаніі і народныя паўстанні не дазволілі да канца рэалізаваць задуманае. У выніку замест трох тыпаў школ для пачатковай адукацыі з 1782 г. у краіне былі адкрыты толькі два – галоўныя і малыя народныя вучылішчы [**9**, с. 110]. У 1789 г. галоўнае народнае вучылішча пачало працаваць і ў губернскім Полацку. Бясплатная адукацыя і губернскі статус спрыялі вялікаму набору вучняў (1789 г. – 117 чал., 1795 г. – 235 чал.) [**2**, с. 21]. Але перанос цэнтра губерні ў Віцебск, адсутнасць падрыхтаваных настаўнікаў, утрыманне ўстановы за кошт мясцовых сродкаў і грошай бацькоў у хуткім часе прывялі да змяншэння колькасці вучняў (1796 г. – 69 чал.).

Пачатак XIX ст. характарызуецца значным развіццём школьнай справы. «Ліберальныя» рэформы Аляксандра І (1801–1825) сталі прычынай новаўвядзенняў у галіне адукацыі. У 1802 г. 23-гадовы рускі імператар выдаў Загад аб стварэнні сямі міністэрстваў, у тым ліку і Міністэрства народнай адукацыі, якому перадаваліся ўсе навучальныя ўстановы, акрамя ваенных, духоўных і жаночых інстытутаў. Загад абвяшчаў прынцыпы бессаслоўнасці, пераемнасці і бясплатнасці. Школы падзяляліся на 4 ступені: 1-гадовыя прыхадскія, 2-гадовыя павятовыя, гімназіі і ўніверсітэты. Да пачатковай адукацыі адносіліся школы 1-й і 2-й ступені. Новая рэформа была даволі перспектыўная. Але, на жаль, на практыцы яна зноў сутыкнулася з недахопам грошай і кадраў, памяшканняў і вучэбнай літаратуры. Дзяржава падтрымлівала толькі сярэднія і вышэйшыя ўстановы, а пачатковыя ўтрымліваліся самі, за мясцовы кошт. Праз дзесяць гадоў Аляксандр І пад уплывам міністраў падпісвае новыя загады і пастановы, адступаючы ад сваіх першапачатковых прынцыпаў. Так, з 1813 г. урад мяняе свае погляды ў адносінах да саслоўнай арыентацыі школы. З гэтага часу забараняецца прымаць у гімназіі сялянскіх дзяцей. Новы статут 1828 г. канчаткова аформіў саслоўнасць адукацыі, калі кожная ступень школы прызначалася для асобнай групы насельніцтва: прыхадскія школы — «для самых низких сословий», павятовыя — для купцоў і рамеснікаў, гімназіі — для дваран [**9**, с. 158]. Спачатку Аляксандр І, а потым і Мікалай І (1825–1855), падпісалі дакументы аб увядзенні аплаты ў гімназіях і вучылішчах. У 1819 г. былі дазволены цялесныя пакаранні вучняў. Мікалай І пасля паўстанняў 1825 і 1830–1831 гг. вылучыў новыя прынцыпы адукацыі — выхаванне ў духу праваслаўя, самадзяржаўя і народнасці.

Стаўшы ў 1802 г. цэнтрам павета, Полацк мог разлічваць на адкрыццё яшчэ адной пачатковай навучальнай установы — прыхадскога вучылішча. У тым жа годзе Расія была падзелена на 6 вучэбных акруг. Згодна з «Высочайшим утвержденным Уставом учебных заведений, подведомых Университетам», у цэнтры кожнай акругі павінен быў размясціцца адзін універсітэт, у цэнтры кожнай губерні — адна гімназія, у кожным прыходзе — адно прыхадское вучылішча, у кожным павеце — адно павятовае вучылішча. Полацкае галоўнае народнае вучылішча было перайменавана ў павятовае (1803), а з 1 лістапада 1820 года ў горадзе пачало працаваць яшчэ і прыхадское вучылішча, якое размясцілася ў цэнтры горада (**мал. 1**). Полацк пасля закрыцця ў



**Мал. 1**. Карта Полацка 1830 г. Прыхадское вучылішча займае пабудову пад № 13.

1820 г. 2-х і 5-і класных вучылішчаў пры езуіцкай акадэміі меў патрэбу ў пачатковых навучальных установах. Паводле статута, вучылішча павінна было стаць першай ступенню ў адукацыі сялян і збяднелых мяшчан: «Приходские училища учреждаются для двоякой цели: 1) чтобы приуготовить юношество для уездных училищ, если родители пожелают, чтобы дети их продолжали в оных учение; 2) чтобы доставить детям земледельческого и других состояний сведения им приличные, сделать их в физических и нравственных отношениях лучшими, дать им точные понятия о явлениях природы и истребить в них суеверия и предрассудки, действия коих столь вредны их благополучию, здоровью и состоянию». Паводле статута, вучылішчы былі бессаслоўнымі. Гэта пацвяржалі і спісы вучняў [7, л. 1–24 ад]. У 1828 г. змены закранулі толькі ўзрост паступаючых: «В приходские училища могут быть допускаемы дети всех состояний и обоего пола, но не моложе 8 лет, а девицы не старее 11. От вступающих не требуется никакой платы и никаких предварительных сведений». Але ў наступныя гады прынцып бессаслоўнасці быў парушаны.




**Мал. 2**. План пабудоў езуіцкага калегіума, перададзеных Полацкаму кадэцкаму корпусу ў 1830 г. Паводле кнігі В.П. Вікенцьева «Полоцкий кадетский корпус. Исторический очерк 75-летия его существования» (Полацк, 1910 г.).

Полацкае 1-класнае прыхадское вучылішча на працягу свайго існавання месцілася ў адной пабудове з Полацкім павятовым вучылішчам [**10**, л. 57]. Паводле дакументаў, якія захаваліся ў НГАБ, у 1833 г. вучылішчы займалі дом на галоўнай плошчы горада (**мал. 2**). Прыхадское вучылішча – пабудова пад літарай J. У двухпавярховым мураваным будынку прыхадскому вучылішчу належала класнае памяшканне, пакоі настаўніка і вартаўніка [**3**, л. 1–ад4]. У 1837 г. вучылішчы размясціліся ў доме яўрэя Гардэна, а ў 1842 г. – пасля рамонту 1840–1841 гг. – мураваны двухпавярховы дом знаходзіўся ўжо на казённым забеспячэнні [**1**, с. 21]. Вядома, што ў 1834–1842 гг. прыхадское вучылішча ўтрымлівалася за кошт віннага водкупу палачан.

Дакументы захавалі звесткі і пра настаўнікаў дадзенай установы. Так, у 1820–1834 гг. у вучылішчы выкладаў асновы граматы, чытання і арыфметыкі выхадзец з дваран Пётр Ляўковіч [**11**, л. 214]. У 1837–1838 гг. дзяцей вучыў Аляксандр Пальчэўскі [**5**, л. 20 ад-22]. У 1863 г. настаўнікам вучылішча быў каталік Людвіг Паплаўскі, які валодаў нямецкай, французскай, польскай і лацінскай мовамі [**7**, л. 258 ад]. Загадчыкам прыхадскіх вучылішчаў з ланкастарскімі класамі па Беларускай вучэбнай акрузе ў 1835 г. быў Іван Аглобін [**6**, л. 274].

У вучылішчы навучанне вялося па метаду вядомага англійскага педагога Дж. Ланкастара. Гэта была сістэма ўзаемнага навучання, якая з’явілася яшчэ ў канцы XVIII ст. і стала практыкавацца ў пачатковых школах у сувязі з неабходнасцю масавага авалодання граматай. У пачатку XIX стагоддзя гэтая методыка атрымала шырокае распаўсюджанне ў многіх краінах, у тым ліку і ў Расіі. У навучанні на першае месца ставіліся асновы рускай славеснасці. Веды дзеці атрымлівалі ў асноўным падчас механічнага шматразовага завучвання. На занятках настаўнік абапіраўся на больш моцных вучняў, якія называліся маніторамі. Акрамя іх, былі яшчэ памочнікі манітораў, тэлеграфныя і першыя вучні. Кожны меў свой знак адрознення. Навучанне па методыцы Ланкастара прадугледжвала спецыяльнае абсталяванне і метадычныя дапаможнікі. Школьнікі ў класе размяшчаліся за вялікімі сталамі па 10 чалавек. У пакоі развешваліся дыдактычныя табліцы. Малодшыя школьнікі пісалі на пяску, а старэйшыя – на аспідных дошках. У рапарце дырэктара аднаго з ланкастарскіх вучылішчаў змяшчаўся падрабязны спіс усіх неабходных прадметаў для ўтрымання ланкастарскага класа. Так, на 50 чалавек патрэбна было закупіць каля 20 найменняў школьных прылад на агульную суму 466 руб. 90 кап. [**6**, л. 214]. У класе падтрымліваліся дысцыпліна і строгі парадак. Гэта спрыяла хуткаму авалодванню навыкамі пісьма і лічэння. У справаздачах поспехі вучняў у полацкім вучылішчы ацэньваліся як добрыя і пасрэдныя. А вось паводзіны былі ў некаторых і не паспяховыя [**4**, л. 32]. Дадзеная методыка выкладання мела не толькі станоўчыя вынікі, але і шэраг недахопаў. Галоўнае – схематычнасць і недастатковасць ведаў для далейшага навучання. Але па такой методыцы навучаліся дзеці ва ўсіх прыхадскіх вучылішчах на тэрыторыі Беларусі да сярэдзіны XIX стагоддзя.

У сувязі з новай школьнай рэформай 1864 г. прыхадскія вучылішчы былі перетвораны ў пачатковыя народныя вучылішчы [**9**, с. 203]. Апошнія дакументы аб дзейнасці Полацкага прыхадскога вучылішча якраз датуюцца 1863 г. [**8**, л. 1]. У справаздачы сярод навучальных установў па Полацку, падведамных Міністэрству народнай асветы, паведамляецца пра Павятовае дваранскае вучылішча і прыхадскі клас пры ім, якія існавалі на грошы прыватных асоб. Згодна з палажэннем ад 14.07.1864 г., пачатковыя школы зноў засталіся пад кантролем мясцовых органаў кіравання, якія ўтрымлівалі іх на свае сродкі і адчынялі па сваёй ініцыятыве. Дзяржава пакідала за сабой толькі права нагляду, асноўнае

кіраванне і адкрыццё ўзорных вучылішчаў. Уводзіць плату альбо не, рабіць школы агульнымі для хлопчыкаў і дзяўчынак вырашаў зараз павятовы вучоны савет. Такое становішча не дазваляла такім невялікім гарадам, як Полацк, ахапіць агульнай пачатковай адукацыяй дастатковую колькасць дзяцей. Становішча пачало паступова мяняцца ўжо ў гады праўлення Аляксандра II (1855–1881) і Аляксандра III (1881–1894).

Такім чынам, да пачатковых навучальных устаноў, падведамных Міністэрству народнай асветы, у Полацку з 1820 па 1863 г. існавала Полацкае павятовае вучылішча. У дадзенай навучальнай установе бясплатна вучыліся дзеці збяднелых дваран, мяшчан і сялян. Вучылішча было першай ступенню ў сістэме пераемнасці навучальных устаноў Расіі першай паловы XIX стагоддзя. Яно размяшчалася ў адной пабудове з павятовым вучылішчам і ўтрымлівалася на грошы палачан. Навучанне ў 1-класнай установе праводзілася па метаду Дж. Ланкастара. Настаўнікамі былі людзі з сярэдняй адукацыяй розных веравызнанняў. Недахоп грошай і педагагічных кадраў паўплываў на колькасць вучняў дадзенай установы: звычайна навучэнцаў было ад 20 да 30 чалавек. Пасля школьнай рэформы 1864 г. прыхадское вучылішча атрымала статус пачатковага народнага.

**Спіс літаратуры і крыніц**


1. Воднева, І.П. Полацкае дваранскае павятовае вучылішча / І.П. Воднева // Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі: (па выніках навукова-даследчай працы ў 2008 г.) / Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік; уклад. Т.А. Джумантаева. – Полацк, 2009. – С. 21–24.

2. Народное образование в России // Исторический альманах / Министерство образования России, Российская академия образования, Педагогическое общество России, Редакция «Народное образование». – М.: Народное образование, 2000. – 400 с.

3. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Фонд 1297. – Воп. 1. – С. 7459. Дело № 63 по отношению Попечителя Белорусской учебной округи Действительного Статского Советника Карташевского о назначении удобного помещения для уездного училища в г. Полоцке. 1833 год.

4. НГАБ. Фонд 3157. – Воп. 1. – С. 80. Отчёт о состоянии учебных заведений Витебской Дирекции с 1.01.1834 по 1.01.1835.

5. НГАБ. Фонд 2507. – Воп. 1. – С. 87. Отчёт о состоянии учебных заведений Витебской Дирекции за 1837–1838 гг.

6. НГАБ. Фонд 3157. – Воп. 1. – С. 85. Рапорт директора Гаритовского Государственному попечителю Белорусской Учебной округи Карташевскому. 1833 год.

7. НГАБ. Фонд 2507. – Воп. 1. – С. 191. Ведомость об учебных заведениях Витебской Дирекции за 1842 год.

8. НГАБ. Фонд 2507. – Воп. 1. – С. 732. Ведомость об учебных заведениях Витебской Дирекции за 1863 год.

9. НГАБ. Фонд 2523. – Воп. 1. – С. 2. Списки домовладений по 2-му кварталу за 1863 год.

10. НГАБ. Фонд 3157. – Воп. 1. – С. 70. Отчёт по Витебской Дирекции училищ за 1831 год по 1 ноября.

11. НГАБ. Фонд 2507. – Воп. 1. – С. 42. Именной список чиновников и учителей Витебской дирекции за 1834 год.

## Дадатак

**Табліца 1.**
Звесткі аб настаўніках Полацкага прыхадского вучылішча.

| Год | Прозвішча і імя настаўніка | Веравызнанне | Што скончыў | З якога часу працуе ў вучылішчы | Узрост. Сямейнае становішча |
|---|---|---|---|---|---|
| 1834 | Пётр Ляўковіч | католік, з дваран | Дынанбургскае павятовае вучылішча | 10.10.20 | 55 год, жанаты |
| 1838 | Аляксандр Пальчэўскі | грэка-расіянін | Магілёўская духоўная семінарыя | 01.08.38 | 30 год, жанаты |
| 1863 | Людвіг Паплаўскі | католік, з дваран | | 1843 | |

**Табліца 2.**
Звесткі аб вучнях Полацкага прыхадскога вучылішча.

| Год | Пол вуч няў | Колькасць вучняў | Колькасць паступіў шых | Колькасць выбыўшых | Паводзіны | Паспяхо васць |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1836–1837 | мужчынскі | 28<br>дваран –12<br>обер-афіцэраў – 12<br>купцоў – 1<br>мяшчан – 3<br>паштальёнаў – 1<br>сялян – 1 | 20<br>дваран –17<br>купцоў – 1<br>мяшчан – 1<br>сялян – 1 | 15<br>дваран – 11<br>мяшчан – 4 | добрыя – 20<br>пасрэдныя – 8 | добрая – 8<br>пасрэдная – 10<br>дрэнная – 10 |
| 1837–1838 | мужчынскі | 26 | 17 | 15 | добрыя – 24<br>пасрэдныя – 2 | добрвя – 19<br>пасрэднвя – 4<br>дрэннвя – 3 |
| 1841–1842 | мужчынскі | 21<br>дваран –12<br>обер-афіцэраў – 2<br>аднадворцаў – 2<br>мяшчан – 2<br>сялян – 1 | 19<br>дваран –13<br>обер-афіцэ-раў – 2<br>аднадворцаў – 1<br>мяшчан – 2<br>сялян – 1 | 11 – выбыла<br>усе дваране<br><br>5 – дакументы забралі бацькі:<br>дваран – 1<br>обер-афіцэраў – 2<br>мяшчан – 2 | добрыя – 15<br>пасрэдныя – 10 | добрвя –16<br>пасрэднвя – 9 |

*Гаўрылава С.В.*

## Аднаўленне жыллёвага фонду г. Полацка ў пасляваенны перыяд (1944–1948 гг.)

Праблемы аднаўлення жыллёвага фонду Полацка пасля Вялікай Айчыннай вайны асвятляліся Г.А. Нікіціным, В.І. Мялешкай, В.Г. Гняўко, С.С. Чарняўскай. Час адраджэння горада апісвалі ў сваіх працах і полацкія краязнаўцы М.А. Маніс і І.П. Дэйніс. У выніку найбольш грунтоўны матэрыял па дадзеным перыядзе змешчаны ў гістарычна-дакументальнай хроніцы «Памяць», гістарычным нарысе «Полацк», а таксама ў артыкулах тагачаснага перыядычнага друку і ў выданнях энцыклапедычнага характару. Шматлікую інфармацыю адносна аднаўлення і развіцця Полацка ў пасляваенны час утрымліваюць дакументы абласнога і гарадскога Саветаў дэпутатаў працоўных, якія захоўваюцца ў Занальным дзяржаўным архіве г. Полацка.

4 ліпеня 1944 г. Полацк быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Панесеныя горадам страты склалі 143 839 600 руб. [**4**; с. 487]. Жыллёвы фонд быў разбураны на 96 %, асабліва пацярпелі цэнтр, Запалоцце, Задзвінне, Грамы [**13**; с. 484]. Усяго па Полацку было поўнасцю разбурана 2328 дамоў [**4**; с. 486].

У першы месяц пасля вызвалення Полацка аднавіў сваю работу гарадскі Савет дэпутатаў працоўных, першае пасяджэнне якога адбылося 29 ліпеня. Пачалі працаваць таксама райвыканкам, раённы камітэт партыі. Першачарговай задачай для кіраўніцтва і насельніцтва стала аднаўленне жыллёвага фонду, прамысловых прадпрыемстваў, устаноў адукацыі і культуры.

Гарсавет разлічваў галоўным чынам на энтузіязм палачан у аднаўленчых работах. 18.10.1944 г. сесія гарадскога Савета дэпутатаў працоўных, разгледзеўшы пытанне «Аб аднаўленні горада Полацка», вырашыла, што ў гэтай справе павінны прымаць удзел усе жыхары горада [**14**; с. 693]. Першы масавы выхад працоўных (1090 чал.) на аднаўленчыя работы па гораду адбыўся 22 кастрычніка; а ўсяго ў нядзельніку прыняло ўдзел 3260 палачан [**7**; с. 494].

У жніўні 1944 г. у горадзе створаны будаўнічы трэст [**15**; с. 492]. Вялікае значэнне для Полацка меў той факт, што 20 верасня 1944 г. была ўтворана Полацкая вобласць. Аднак праблем у аднаўленні горада было шмат. Не хапала будаўнічых матэрыялаў, тэхнікі, транспарту, кваліфікаваных рабочых. Тэрмінова выйшла пастанова СНК СССР № 1606 ад 19.10.1944 г. «Аб мерах па аказанню дапамогі Бабруйскаму, Гродзенскаму і Полацкаму аблвыканкомам» [**14**; с. 693], дзе былі прапісаны як канкрэтныя меры дапамогі (выдзяляліся грузавыя аўтамашыны, паліва, людскія рэсурсы і г.д.), так і прапановы па правядзенні арганізаваных набораў працоўнай сілы і гужавога транспарту. Але аднаўленне ішло марудна і з вялікімі цяжкасцямі. Гэта было адзначана ў пастанове СНК БССР № 221 ад 21.08.1945 г. «Аб мерах дапамогі па аднаўленчым работам г. Полацка» [**14**; с. 693].

Каб дапамагчы палачанам выйсці з цяжкага становішча, СНК БССР вырашыў стварыць у горадзе пры аблбудтрэсце лагер ваеннапалонных на 1200 чалавек і накіраваць у Полацкую папраўча-працоўную калонію, створаную ў канцы 1944 г. у Спаскім гарадку [**15**; с. 493], 500 чалавек асуджаных для выкарыстання на работах па аднаўленні горада [**14**; с. 694]. На аднаўленчыя работы ў Полацк былі накіраваны нямецкія і венгерскія ваеннапалонныя. На пасяджэнні аблсавета 13.04.1945 г. была агучана справаздача: аблбудтрэст да прыёму інтэрніраваных немцаў не падрыхтаваны – жылое памяшканне адрамантавана не поўнасцю, цячэ дах, зусім не абсталяваны санпрапускнік і сталоўка, не нарыхаваны інструмент для будаўнічых работ, не ўкамплектавана вахцёрская служба [**11**]. У жніўні 1945 г. было прынята рашэнне прадаставіць каробку будынка для размяшчэння лагера ваеннапалоных № 243 НКУС СССР у мяжы горада [**11**]. Іх размясцілі ў Спаскім гарадку, дзе захавалася частка казармаў, і ў цэнтры горада ў былым лазнева-пральным камбінаце, ад якога засталіся адны жалезабетонныя перакрыцці [**15**; с. 492].

Для ліквідацыі недахопу будаўнічых матэрылаў, у першую чаргу – цэглы, гарадское кіраўніцтва ў канцы 1944 г. прымае рашэнне арганізаваць камісію па вызначэнні дамоў, прызначаных да разборкі. Па выніках яе работы быў складзены спіс, куды, акрамя каробак жылых будынкаў па вуліцах Леніна, Базарная, Арджанікідзэ, Фрунзэ, К. Маркса, Л. Талстога, Пралетарская, Камуністычная, Вароўскага, М. Горкага, Свярдлова, трапілі каробкі былога касцёла і НКУС па вул. Савецкай, былых школ №№ 9 і 5 і дзіцячага садка ў раёне Задзвіння [**9**]. У сакавіку 1946 г. гэты спіс пашырыўся і ўключыў некаторыя жылыя будынкі, бы-

лыя пошту, аптэку, гасцініцу, дзіцячы дом па вул. К. Маркса, 2-павярховую каробку былой пральні па вул. Леніна і Надзвінскай, 1-павярховую каробку былой хлебапякарні Лебедзева па вул. Леніна, 2-павярховую каробку былой дзіцячай кансультацыі, 1-павярховы корпус былога тэатра па вул. Войкава [**1**]. У сакавіку 1947 г. – будынак былой сінагогі па вул. Камуністычнай [**9**]. 02.02.1948 г. аблбудтрэсту перададзены разбураныя цагляныя каробкі былых цэркваў па вул. Арджанікідзэ ў раёне калгаснага рынку і па вул. Пушкіна для разбору як не падлягаючыя аднаўленню і пагражаючыя абвалам [**10**].

Для паскарэння тэмпаў аднаўлення горада ацалелыя каробкі будынкаў размяркоўваліся паміж гарадскімі і абласнымі арганізацыямі, установамі і прадпрыемствамі (гл. **табл. 1**).

**Табліца 1.**
Спіс размеркавання каробак па абласных і гарадскіх арганізацыях [**11**].

| № № | вуліца | № дома | кольк. паверхаў | наяўнасць падвала | плошча | каму належаў | каму перададзены | заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **1** | **2** | **3** | **4** | **5** | **6** | **7** | **8** | **9** |
| 1 | Ленінская | 32-б | 2 | – | 25×10 | камун. | Аблкамгас Гаркамгас | |
| 2 | –//– | 1/3 | 2 | + | 12×22 | –//– | Прамкамбінат | |
| 3 | –//– | 38 | 2 | + | 30×20 | царква | Клуб моладзі | |
| 4 | Арджанікідзэ | 24 | 2 | паўпадвал | 19×19 | камун. | Дзяржбанк | |
| 5 | –//– | 22/20 | 2 | паўпадвал | 80×12 | –//– | НКУС | |
| 6 | Энгельса | 3 | 2 | – | 12×20 | –//– | Наркамюст | |
| 7 | Арджанікідзэ | 16 | 2 | паўпадвал | 20×16 | –//– | Аблхарчгандаль | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | –//– | 14 | 2 | – | 20×14 | –//– | Лясгас, ляспрамгас | |
| 9 | Бальнічны завулак | 5/10 | 3 | + | 50×12 | НКА | НКА | |
| 10 | –//– | 2/12 | 4 | + | 52×30 | –//– | –//– | |
| 11 | Арджанікідзэ | 8/10 | 2 | – | 21×20 | –//– | –//– | |
| 12 | Арджанікідзэ – Талстога | 7/6 | 2 | + | 28×40 | –//– | –//– | |
| 13 | Карла Маркса | 3 | 2 | + | 26×12 | камун. | Аблсацзабес | |
| 14 | –//– | 7 | 3 | + | 20×12 | –//– | Аблгандальаддзел | 1 паверх – сталоўка |
| 15 | –//– | 5 | 3 | + | 20×12 | –//– | Аблфа | 1 паверх – крама харчгандлю |
| 16 | –//– | 11 | 2 | + | 22×16 | –//– | рэстаран | |
| 17 | –//– | 13 | 2 | + | 44×16 | –//– | гасцініца | |
| 18 | –//– | 15 | 2 | + | 16×12 | –//– | Аблупаўнаркамзаг. | |
| 19 | –//– | 17 | 2 | паўпадвал | 22×24 | –//– | Аблза | 1 паверх – сталоўка ваенгандлю |
| 20 | Карла Маркса – вугал Энгельса | 10/5 | 3 | – | 22×24 | –//– | Аблсавет | |
| 21 | Карла Маркса – вугал Гогаля | 50/4 | 1 | – | 15×15 | –//– | інтэрнат міліцыі | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 22 | Гогаля — вугал Савецкай | 3/48 | 2 | + | 22×12 | –//– | пракура-тура | |
| 23 | Савецкая | 40 | 2 | паў-падвал | 15×20 | –//– | Аблана | |
| 24 | Гогаля — Карла Маркса | 48/3 | 1 | – | 20×24 | –//– | дзіцячыя яслі міліцыі | |
| 25 | Савецкая | 65 | 2 | паў-падвал | 22×10 | –//– | Аблбуд-трэст | |
| 26 | –//– | 5 | 1 | – | 22×10 | –//– | –//– | майстэрні |
| 27 | –//– | | | | | | кіна-тэатр | |
| 28 | –//– | 17/26 | 2 | – | 20×30 | –//– | банк | |
| 29 | Савецкая — вугал Сака і Ванцэці | 41/19 | 3 | паў-падвал | 100×12 | –//– | Гаркам-гас | жылы дом |
| 30 | Савецкая | | 2 | | 24×24 | –//– | Аблхарч-прам | |
| 31 | –//– | 35/20 | 2 | | 35×35 | НКА | Аблваен-камат | |
| 32 | –//– | 40 | 2 | | 25×20 | Гарсавет | Гарсавет | |
| 33 | Камуні-стычная | | 2 | | 50×40 | Сталін-ская школа | –//– | |
| 34 | Пушкіна | | 2 | + | 50×40 | –//– | –//– | |
| 35 | Камуні-стычная | 45 | 2 | + | 25×12 | быў МСПА | МСПА | |
| 36 | Пушкіна | | 1 | | 15×20 | царква стара-абрад-цаў | Масла-прам | масла-завод |
| 37 | –//– | 29 | 1 | | 20×15 | камун. | Ушсдар 721 | |
| 38 | –//– | 16 | 2 | | 10×10 | –//– | Масла-прам | кантора |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 39 | Янкі Купалы | | 2 | – | 20×20 | Масла-прам | –//– | жылы дом |
| 40 | Карла Маркса | 61 | 2 | – | 16×10 | камун. | Аблсуд | |
| 41 | –//– | 70 | 1 | – | 18×16 | –//– | пракура-тура | |
| 42 | –//– | 66 | 2 | + | 15×15 | –//– | Прам-каапера-цыя | |
| 43 | –//– | 20/62 | 2 | – | 14×14 | –//– | Аблкам-гас | жылы дом |
| 44 | Пушкіна | 34 | 1 | – | 20×40 | дзіцячыя яслі | дзіцячыя яслі | |
| 45 | М. Горка-га | 42 | 1 | + | 17×15 | камун. | арцель інвалідаў | майстэр-ня |
| 46 | –//– | 26 | 1 | + | 14×15 | –//– | –//– | кантора |
| 47 | М. Горка-га — вугал Савецкай | 2/2 | 1 | – | 6×15 | –//– | крама харч-гандлю | |
| 48 | М. Горкага | 4 | 2 | – | 12×22 | –//– | Аблздраў | |
| 49 | В. Набя-рэжная | | 2 | – | 12×20 | школа № 5 | школа № 5 | |
| 50 | Фрунзэ | | 2 | – | 30×12 | сельгас-тэхнікум | сельгас-тэхнікум | |
| 51 | –//– | | 2 | + | 30×10 | –//– | –//– | |
| 52 | Гогаля | | 2 | + | 60×50 | паштамт | паштамт | |
| 53 | Красіна | | 1 | – | 25×12 | мэблевы | Гарпрам-камбінат, завод буддэта-лей і мэблі | |
| 54 | –//– | | 1 | + | 20×8 | сушы-льня | –//– | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 55 | Фрунзэ | 7 | 2 | – | | кіраў-ніцтва | Аблбуд-трэст | |
| 56 | Базарная плошча | | | – | | сталоўка | –//– | |
| 57 | Вароў-скага | 1 | 2 | – | | кіраў-ніцтва АРЗ | –//– | |
| 58 | Ленін-ская | 46 | 2 | паў-падвал | 30×12 | камун. | Прам-саюз | |
| 59 | –//– | 44 | 3 | | 30×12 | –//– | «Пище-вик» | |
| 60 | –//– | 94 | 1 | | 7×8 | –//– | в/ч 97680 | |
| 61 | –//– | 72 | 1 | | 15×12 | –//– | | |
| 62 | –//– | 80 | 1 | | 15×12 | –//– | | |
| 63 | Арджа-нікідзэ | 3 | 2 | | 30×12 | –//– | цэн-тральная ашчад-каса і кіраў-ніцтва ашчад-кас | |
| 64 | –//– | 5 | 2 | | 30×12 | –//– | Абл-сувязь | |
| 65 | –//– | 7 | 2 | | 30×12 | –//– | Аблпал | |
| 66 | Свярд-лова | 25 | 2 | | 15×12 | МСПА | МСПА | |

14.06.1945 г. гарсавет прыняў рашэнне аб арганізацыі 6 груп самаабароны жыллёвай сістэмы на тэрыторыі Полацка з членаў абодвух палоў: жанчын ва ўзросце 18–50 і мужчын 16–60 гадоў [**9**].

Стан жыллёвага фонду г. Полацка пасля вызвалення не адзін год заставаўся катастрафічным. На дзень вызвалення ў зямлянках і прыстасаваных пад жыллё памяшканнях жыло 239 сем’яў [**13**; с. 485]. Жылля на ўсіх не хапала. Насельніцтва горада займала пад жылыя памяшканні зямлянкі і падвалы, помнікі архітэктуры і водаразборныя збудаванні,

манастырскія пакоі і палаты бальніцы імя Леніна і г.д. Тых, хто самавольна ўсяліўся, высялялі; прашэнні аб высяленні жыхароў паступалі ў выканкамы як ад арганізацый, так і ад прыватных асоб. У канцы сакавіка 1945 г. пры правядзенні агляду на месцы ў Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры былі знойдзены 2 грамадзян, якія ўсялілся ў дом, дзе пражывалі манахіні, чым парушылі ўказ СНК; іх выселілі як незаконна заселеных [**8**]. У маі 1946 г. былі выселены грамадзяне, якія пражывалі ў воданапорных пунктах Полацкага гарвадаправода. Рашэннем гарсавета ад 19.09.1945 г. памяшканне распраналкі гарадскога катка было вызвалена ад жыхароў і перададзена ў распараджэнне гарадскога камітэта фізкультуры [**9**].

На пасяджэнні гарсавета 28.04.1945 г. разглядалася пытанне аб прыняцці мер па захаванні зямлянак зенітнай часці. У гэтых зямлянках у раёне Запалоцця размяшчалася часць, якая 23.09.1945 г. перадыслацыравалася. Аднак байцы і камандзіры перад гэтым пачалі распрадаваць зямлянкі прыватнікам. Было прынята рашэнне аб перадачы іх гаркамгасу [**8**].

06.04.1945 г. па распараджэнні СНК БССР ад 07.03.1945 г. аблсаветам было дадзена распараджэнне правесці адначасовы ўлік гарадскога жыллёвага фонду па стане на 01.05.1945 г. Найменей пашкоджанымі, па выніках абследавання горада, з'явіліся будынкі былога кадэцкага корпуса. У яго памяшканнях размясціліся шматлікія арганізацыі і ўстановы гарадскога і абласнога падпарадкавання. Многія пакоі былі адведзены пад жыллё. Такое становішча захоўвалася працяглы час. 06.04.1945 г. па загадзе абласнога кіраўніцтва некалькі пакояў адвялі пад абласную бібліятэку [**11**]. Не аднойчы да кіраўніцтва горада паступала інфармацыя аб неабходнасці вызвалення памяшканняў кадэцкага корпуса, аднак прынятыя рашэнні заставаліся нявыкананымі з-за адсутнасці вольных памяшканняў для перасялення жыхароў і пераводу ўстаноў і арганізацый. Нават калі ў снежні 1945 г. было прынята рашэнне аб вызваленні будынка пад рамонт для размяшчэння Сувораўскай школы, стан корпуса застаўся без змяненняў. 20.06.1946 г. была створана камісія ў мэтах праверкі стану памяшканняў былога кадэцкага корпуса, устанаўлення прыдатнасці іх для далейшай эксплуатацыі. Па заканчэнні праверкі камісія прадставіла наступную справаздачу: памяшканні кадэцкага корпуса знаходзяцца ў пагражаючым тэхнічным, супрацьпажарным і антысанітарным стане; далейшая эксплуатацыя не магчыма.

Для папярэджання разбурэння і пагрозы абвалаў перакрыццяў столі неабходны тэрміновы капітальны рамонт. Усім арганізацыям і ўстановам з 2–3 паверхаў было дадзена прадпісанне выехаць [**9**]. У мэтах захавання ад разбурэння і навядзення парадку ў размяшчэнні гарадскіх і абласных арганізацый і ўстаноў 07.04.1947 г. будынак былога кадэцкага корпуса перадалі гарсавету на ўтрыманне [**12**].

Для аховы і аднаўлення гістарычных і архітэктурных помнікаў і ўвекавечання знамянальных мясцін і падзей, звязаных з вызваленнем Полацка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 28.08.1945 г. пры аблсавеце была арганізавана камісія, якой адразу было даручана намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па ахове і рамонце Сафійскага сабора, што быў заняты прыватнымі асобамі пад жыллё [**11**]. У верасні 1945 г. правялі ачыстку сабора ад смецця, рамонт даху, забілі вокны, адрамантавалі падлогу, устанавілі ахову з 2-х вартаўнікоў. Камандзіру авіяпалка Кастыгаву забаранілі паліць факелы на купалах сабора. Жалеза, якое засталося ад пакрыцця гідраэлектрастанцыі, было адпраўлена ў сабор [**9**]. Гарадскія ўлады не аднойчы спрабавалі вызваліць памяшканні ад жыльцоў і катэгарычна забараніць пражываць прыватнікам. Аднак жыльцы так і не былі выселены, а парадак наводзіўся вельмі марудна. У пачатку ліпеня 1946 г. прыступілі да састаўлення праекта і каштарыса на рамонт Сафійскага сабора і арганізацыі ў ім Краязнаўчага музея. Заяву вернікаў аб выкарыстанні Сафійскага сабора пад богаслужэнні адхілілі. У канцы 1947 г. на рамонт помніка архітэктуры было выдзелена 53,3 тыс. руб. [**11**].

Адносна нядрэнна захаваўся Домік Пятра І па вул. Сака і Ванцэці, які ў сакавіку 1945 г. быў уключаны ў лік аб'ектаў, пастаўленых у чаргу на аднаўленне ў гэтым годзе. Па заканчэнні рамонту ў ім планавалася адкрыць гарадскую публічную бібліятэку з чытальнай залай [**8**]. 24.08.1945 г. памяшканні па вул. Леніна ў Доміку Пятра І былі перададзены ў часовае карыстанне сярэдняй рускай школе № 1 для абсталявання пад класы [**9**]. Аднак у пачатку 1946 г. у ім пражывалі работнікі абласной канторы сувязі, а сам Домік знаходзіўся ў запушчаным стане, падвяргаўся разбурэнню. Аблсавет 15.02.1946 г. прыняў рашэнне перадаць гэтую пабудову абладдзелу культасветработы і стварыць там абласны гісторыка-краязнаўчы музей [**11**]. У красавіку 1948 г., згодна з рашэннем гарсавета, Домік Пятра І пачалі аднаўляць пад музей і гарадскую бібліятэку [**10**].

Іншая сітуацыя склалася з аднаўленнем помніка архітэктуры XIX ст. — былога зямельнага банка з казначэйствам — па вул. Леніна 1/8 («былое казначэйства»). За 2 гады — з 1945 па 1947 г. — яго 8 разоў перадавалі розным установам і арганізацыям, але ніводная з іх не ўзялася за рамонт. 25.04.1945 г. памяшканне былога казначэйства было перададзена аблфа для аднаўлення пад службовае памяшканне, аднак па прычыне зацягвання тэрміну пачатку рамонтных работ перадалі гарпрамкамбінату. 12.03.1946 г. каробку былога банка перадалі Полацкаму аблсельбудтрэсту пад кватэры рабочых. 06.04.1946 г. яна перайшла ва ўладанне нарсуда, але ўжо ў самым канцы таго ж года была перададзена Полацкаму трэсту саўгасаў жывёлаводства. 21.03.1947 г. казначэйства перайшло да аблюста, 23.07.1947 г. — да школы медсясцёр, 26.12.1947 г. — да арцелі «Чырвоны пенсіянер» [**9**].

Пры аднаўленні жыллёвага фонду вялікая ўвага надавалася індывідуальным забудоўшчыкам, для іх адпускаўся будаўнічы лес і выдаваліся доўгатэрміновыя пазыкі. За першы год імі былі пабудаваны 154 дамы і распачата будаўніцтва 127 дамоў [**5**; с. 233]. Адвод зямельных участкаў праводзіўся без апоры на план. У сувязі з адсутнасцю генплана рэканструкцыі горада і з вялікім наплывам індывідуальных забудоўшчыкаў органы кіравання, як гарадскія, так і абласныя, вымушаны былі да пэўнага часу адводзіць вуліцы і раёны пад індывідуальную забудову: раён левага берага Зах. Дзвіны поўнасцю, раён Грамы, выключыўшы ўчастак станцыі, Запалоцце поўнасцю і нават некаторыя вуліцы ў цэнтры горада [**9**]. Гэты спіс павялічваўся прапарцыянальна наплыву людзей у Полацк.

З 15 верасня 1945 г. рашэннем Гарсавета ўсім арганізацыям, прадпрыемствам і ўстановам, а таксама індывідуальным забудоўшчыкам было забаронена прыступаць да будаўніцтва да поўнага дазволу Упраўлення галоўнага архітэктара горада. Усялякага роду новая будоўля і аднаўленне разбураных будынкаў, а таксама закладка зялёных насаджэнняў дапускаліся толькі з дазволу выканкама гарадскога Савета. Ніводны з будуючыхся дамоў не мог быць уведзены ў эксплуатацыю да прыёмкі яго спецыяльнай камісіяй. Парушальнікі прыцягваліся да адміністрытыўнай адказнасці — штраф 100 руб. ці прымусовыя работы да 14 дзён. Да 25.09.1945 г. усе будынкі павінны былі быць зарэгістраваны [**9**].

У мэтах упарадкавання карыстання лесам і папярэджання спусташэння драўнінных запасаў вакол Полацка, захавання лясных масіваў для адпачынку працоўных з 28.06.1945 г. была ўстаноўлена зялёная зона ў радыусе 13 км ад мяжы горада [**11**].

Усё ж працэс індывідуальнай забудовы ішоў нездавальняюча, мелі месца выпадкі самавольнай забудовы і парушэнні правілаў вядзення будаўніцтва. На адным з пасяджэнняў аблсавета ў лістападзе 1945 г. былі адзначаны наступныя прычыны нездавальняючага ходу індывідуальнага будаўніцтва ў г. Полацку: адсутнасць генплана аднаўлення і рэканструкцыі горада, цвёрдага кіраўніцтва і кантролю за ходам будаўніцтва з боку гарсавета, дапамогі забудоўшчыкам у выдзяленні будматэрыялаў і іх транспарціроўцы як з боку гарадскіх арганізацый (гаркамгас, гарсавет), так і з боку дырэктараў прадпрыемстваў і ўстаноў, зацягнуты характар разбору заяў забудоўшчыкаў, асабліва ў адводзе ўчасткаў на месцы, непрыняцце мер да самавольнай забудовы і парушэння правілаў будаўніцтва [**11**]. На пасяджэнні гарсавета ў канцы 1945 г. адзначалася, што органы міліцыі не выконваюць рашэнні гарсавета па барацьбе з самавольнай будоўляй. Галоўнае ўпраўленне архітэктуры несвоечасова выяўляе такія факты і не прымае ніякіх мер. У выніку без дазволу гарсавета ўзнік шэраг будынкаў з парушэннямі правілаў рэканструкцыі горада. У ліку парушальнікаў апынуліся не толькі індывідуальныя забудоўшчыкі, але і прадпрыемствы і арганізацыі горада (мясакамбінат, хлебакамбінат, аблпракуратура, аблбудтрэст); пабудаваны з парушэннямі правілаў былі не толькі канторы і жылыя будынкі, але і Сталінская школа па вул. Пушкіна [**9**].

У сувязі з адсутнасцю генплана рэканструкцыі горада і вялікім наплывам індывідуальных забудоўшчыкаў 05.10.1945 г. быў атрыманы дазвол на забудову да атрымання генплана левага берага Зах. Дзвіны, Грамоў, выключыўшы ўчастак станцыі, Запалоцця поўнасцю, Лазоўкі (акрамя ўчасткаў цэглавага завода) і асобных вуліц [**9**].

З мэтай пазбегнуць магчымых разыходжанняў паміж забудовай і праектнай схемай 04.02.1946 г. Упраўленню галоўнага архітэктара г. Полацка было дазволена адводзіць зямельныя ўчасткі пад індывідуальную забудову толькі ў раёнах Задзвінне і Грамы, а 09.07.1946 г. было забаронена будаўніцтва ў цэнтральнай частцы горада па вул. К. Маркса ад плошчы Свабоды да чыгуначнага моста, па вул. Арджанікідзэ, Леніна, Савецкай, Камуністычнай, Войкава, Пралетарскай, Пушкіна, Гогаля, Інтэрнацыянальнай і Свярдлова, за-

баронена ўзвядзенне дамоў сельскага тыпу, дазволена праводзіць забудову вул. Валадарскага і Рэспубліканскай індывідуальнымі дамамі гарадскога тыпу; раёны Грамы, Задзвінне, Лазоўка, Ноўка зацверджаны для індывідуальнага будаўніцтва. З 16.04.1946 г. участкі паміж вул. Пралетарскай і Валадарскага адвялі пад будаўніцтва дзяржустаноў. З 07.08.1946 г. індывідуальнымі дамамі забудоўваліся асобныя вуліцы ў цэнтры, раён Запалоцця і новыя вуліцы ў раёне Грамоў і Задзвіння [**9**].

На пасяджэнні аблсавета 13.11.1945 г. было прынята рашэнне прасіць СНК БССР аб скорай арганізацыі брыгады архітэктараў і камандзіраванні яе ў Полацк для распрацоўкі генплана аднаўлення і рэканструкцыі горада. Гарсавету было даручана намеціць месцы (раёны, вуліцы, кварталы) для адводу пад індывідуальнае будаўніцтва, звязаўшы іх з праектамі будучага плана, забараніць адвод участкаў на левым баку вул. Леніна (набярэжная ракі Зах. Дзвіна) [**11**]. 22.03.1946 г. была заключана дамова на складанне апорнага плана цэнтральнай часткі г. Полацка ў маштабе 1:5000 з нанясеннем на план на плошчы 300 га ўсіх каменных будынкаў (існуючых), якую падпісалі галоўны архітэктар горада Глазуноў Мікалай Пятровіч і кіраўнік брыгады архітэктар Хегай Аляксей Чыбонавіч. Тэрмін выканання – 1 мая 1946 г., кошт – 15 тыс. руб. [**2**]. Пасля зацвярджэння апорнага плана горада пачалася планавая забудова. У сувязі з рэканструкцыяй і аднаўленнем горада па новым генплане, распрацаваным архітэктурна-planіровачнай майстэрняй «Белдзяржпраекта», было забаронена будаўніцтва і адвод земляў пад індывідуальнае будаўніцтва і будаўніцтва кантор устаноў па вул. Валадарскага, Рэспубліканскай, Войкава, Першамайскай, М. Астроўскага, Рэвалюцыйнай, Свярдлова, Гогаля, Пралетарскай, Пушкіна, К. Маркса, Леніна, М. Горкага. 30.11.1946 г. было вырашана, згодна з генпланам, забудаваць тэрыторыю былога 5-га артылерыйскага дывізіёна ў раёне Грамы індывідуальнымі дамамі, а 21.03.1947 г. зямельныя тэрыторыі паміж вул. Себежскай, Фрунзэ, Себежскім завулкам і шашой Смаленск-Рыга ад мясакамбіната былі перададзены для індывідуальнага будаўніцтва кантор гарадскіх арганізацый [**9**].

У сувязі з вялікай колькасцю індывідуальных забудоўшчыкаў і наяўнасцю ў асобных месцах горада раней адведзеных ўчасткаў з памерам па лініі вуліцы больш за 25 м з 16.04.1946 г. у такіх месцах выдзяляліся новыя ўчасткі і праводзілася забудова з захаваннем супрацьпажарнага разрыву паміж дамамі. 27.04.1946 г. пад індывідуальную забудову

адвялі паласу шырынёй 50 м былой тэрыторыі цагельнага завода па вул. Лагернай на ўсім працягу [**9**].

У грамадзян, якія не прыступілі да будаўніцтва на працягу 6 месяцаў з моманту выдзялення ўчастка, па распараджэнні гарсавета зямля канфіскоўвалася і перадавалася іншым забудоўшчыкам. Адразу пасля прыняцця новага плана былі ўстаноўлены і новыя тэрміны пачатку будоўлі на адведзеных участках: з 6 месяцаў тэрмін знізіўся да 2 месяцаў [**9**].

Са з'яўленнем новабудоўлі пракладваліся новыя вуліцы. Гарадская тэрыторыя ў раёне Задзвіння была адведзена пад індывідуальную забудову воінскай часці № 67166, і пракладзеная ў сувязі з гэтым новая, паралельная вул. Дзяржынскага, вуліца 27.04.1946 г. атрымала назву вул. Сапёрная [**9**]. З'явіліся новыя вуліцы: паміж вул. Лепельскай і 2-м Лепельскім завулкам – вул. Чарняхоўскага, завулак паміж вул. Южнай, Красіна, Піянерскай і Краснаномённай – Краснаномённы (07.09.1948 г.) [**10**], вул. Гвардзейская ў раёне Запалоцце, паралельная Махіраўскай, 1-ы і 2-і Партызанскія завулкі, вул. Партызанская ў раёне Задзвіння (07.08.1946 г.), вуліцы з захаду на паўночны ўсход – Ракасоўскага, Баграмяна, Варашылава, з поўдня на захад – Бабахіна, Калініна (30.10.1946 г.), вул. Гастэла ў раёне Запалоцце, 7-ы завулак Фрунзэ паміж 5-ым завулкам і тэрыторыяй плодапітомніка, вул. Заслонава ад вул. Ленінградскай паралельна вул. Бязбожнай (30.11.1946 г.) [**9**].

Індывідуальнае будаўніцтва разгортвалася хуткімі тэмпамі, і ў сярэдзіне 1946 г. вольныя зямельныя ўчасткі ў межах горада былі вычарпаны. Узнікла неабходнасць у далучэнні дадатковай тэрыторыі шляхам пашырэння за кошт прылеглых земляў сельсаветаў: Грамоўскага, Саланіцкага, Экіманскага і Махіроўскага. Тэрыторыя горада ў ліпені 1946 г. была пашырана за кошт вольных земляў прылеглых сельсаветаў: Грамоўскага, Саланіцкага, Экіманскага і Махіроўскага, па 100 га ад кожнага. 13.06.1947 г. былі далучаны новыя зямельныя плошчы да раёнаў Задзвінне і Запалоцце (па 100 га), Грамы (Спас-Слабада) (200 га) [**9**]. Праз год, у ліпені 1947 г., тэрыторыя горада павялічылася яшчэ на 400 га [**11**].

Акрамя індывідуальнага, вялося і камунальнае будаўніцтва сіламі гарадскіх і абласных будаўнічых арганізацый, а таксама самімі прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі, якія аднаўлялі свае цэхі, канторы, што належалі ім да вайны, або каробкі, якія горад перадаваў пад размяшчэнне вытворчых памяшканняў і кантор. Яны ж павінны былі забяспечыць сваіх работнікаў жыллём. Пад будаўніцтва жылля ім

адводзіліся не толькі каробкі дамоў, але і вуліцы, і нават цэлыя кварталы. 28.06.1945 г. 7-му будаўніча-аднаўленчаму ўчастку Заходняй чыгункі было дазволена ўстанавіць стандартныя дашчатыя баракі для рабочых і служачых па вул. Ленінградскай. А 24.08.1945 г. вул. Інтэрнацыянальную адвялі пад забудову 32-кватэрнымі дамамі з бярвёнаў для размяшчэння афіцэрскага саставу Полацкага гарнізона [**9**]. Аднак праблема рассялення работнікаў вырашалася вельмі марудна. Так, 82 работнікі цагельнага завода № 39 пражывалі ў 3 пакоях, адведзеных пад інтэрнат, агульнай плошчай 150 м$^2$. А для работнікаў завода буддэталяў інтэрнат увогуле адсутнічаў, і ім прыходзілася жыць на кватэрах у аддаленасці ад завода [**11**]. Згодна з распараджэннем Савета Міністраў БССР (ад 26.6.47 № 862) 03.06.1947 г. было аб'яўлена аб правядзенні ўліку грамадска-жыллёвага фонду ўсіх ведамстваў і арганізацый па стане на 15.07.1947 г. [**12**].

Гарадская гасцініца, якая магла б часткова вырашыць праблему з жыллём, мела вялікі недахоп вольных месцаў, знаходзілася ў антысанітарным стане, назіраліся адсутнасць дроў, нерэгулярнае спагнанне аплаты і запушчанасць ва ўліку і справаздачах. З існуючых 27 месцаў на пачатак 1946 г. 19 – займаліся са жніўня-снежня 1945 г. пастаяннымі жыхарамі. Вольныя 8 месцаў не маглі забяспечыць усіх камандзіраваных. Некаторыя жыхары выкарыстоўвалі нумары пад рабочыя кабінеты [**9**].

У верасні 1944 г. у якасці часовай меры па пакрыцці расходаў па мясцоваму бюджэту былі прыняты таксы за 1 м$^2$: з усіх асоб – 2 руб., з інвалідаў ВАВ – 1 руб. 50 кап. На 01.11.1945 г. у Полацку налічвалася 226 камунальных і безгаспадарчых дамоў з 354 кватэранаймальнікамі [**9**]. У маі 1946 г. гарсавет зацвердзіў памер аплаты кватэры ў памеры 1 руб. 32 кап. за 1 м$^2$ жылой плошчы з рабочых і служачых; у асоб, якія знаходзіліся на сацзабеспячэнні, а таксама ардэнаносцаў меліся ільготы на аплату. Праўда, і гэтыя грошы ў бюджэт у поўным аб'ёме не паступалі. Запазычанасць па аплаце кватэр на 01.07.1945 г. складала 28000 руб., на 01.01.1946 г. – 6580 руб., на 20.06.1946 г. – 1200 руб. З 304 кватэранаймальнікаў – 106 мелі запазычанасць ад 2 да 5 месяцаў. Не аднойчы на пасяджэннях аблсавета адзначалася, што спагнанне кватэрнай платы гаржылупраўленнем знаходзіцца ў запушчаным стане. Злосным неплацельшчыкам іскі не прад'яўляліся, улік камунальных і кінутых дамоў, а таксама жыхароў у іх вёўся недастаткова. Выяўляліся факты прысваення работнікамі гаржылупраўлення грошаў [**9**].

19.09.1945 г. да гарсавета было даведзена, што будаўнічая кантора працавала не здавальняюча, не спраўлялася з задачамі, працавала бессістэмна і незаймалася рамонтам жыллёвага фонду, рабочая сіла выкарыстоўвалася немэтазгодна і неарганізавана, перакідвалася з аб'екта на аб'ект. Аплата працы праводзілася бессістэмна [**9**]. Нягледзячы на недахоп жыллёвай плошчы, не праяўлялася дастатковага клопату аб захаванні жыллёвага фонду, рамонт жылых дамоў быў пушчаны на самацёк, і ў выніку гэтага большасць будынкаў знаходзілася ў запушчаным стане, падвяргалася разбурэнню [**11**].

У тытульны спіс капітальных затрат па жыллёваму фонду г. Полацка на 1945 г. былі ўключаны толькі 7 каробак будынкаў і асігнавана 2400 руб. Па выніках праверкі работы Полацкага аблбудтрэста ў гарсавеце было агучана наступнае: план капітальнага будаўніцтва Полацкага аблбудтрэста на 1945 г. (9,965 тыс. руб.) за 10 месяцаў выкананы на 10 %, не скончаны і не здадзены ў эксплуатацыю ні адзін аб'ект, матэрыяльна-тэхнічная база не складзена, дапушчаны растрата і продаж на бок асноўных будматэрыялаў [**11**].

З 20 дамоў, уключаных у план рамонту на 1947 г., поўнасцю не адрамантаваны ніводны. З асігнаваных 226 тыс. руб. асвоена на 01.09.1947 г. толькі 76,4 тыс. руб., ці 33,8 % [**11**]. У 1947 г. будаўніцтва асноўнага аб'екта аднаўлення — жылфонду — горадам выканана на 44,2 %. Больш за 200 сем'яў жылі ў зямлянках і падвалах. З моманту вызвалення пабудаваны 1831 індывідуальны дом, 149 — у працэсе будаўніцтва [**9**]. На 12.02.1948 г. 284 сям'і (852 чал.) жылі ў зямлянках, якіх налічвалася 191, і падвалах; у былым кадэцкім корпусе — 95 сем'яў (305 чал.); у аварыйным доме па вул. Талстога 16/1 — 24 сям'і (74 чал.). З агульнай колькасці 403 сям'і (1231 чал.) было неабходна тэрмінова перасяліць 107 сем'яў (331 чал.). У гаржылупраўленні 104 камунальныя жылыя дамы з 433 сем'ямі з сярэдняй жылой плошчай 3,6 м$^2$ на 1 чал. 20.07.1948 г. было прынята рашэнне з аварыйнага дома па вул. Л. Талстога ўсіх жыхароў выселіць у будынак лазнева-пральнага камбіната да заканчэння будаўніцтва дамоў па вул. Камуністычнай [**10**].

К 1 мая 1946 г. была арганізавана камісія па прыёме капітальнага рамонту жылфонду, які праведзены самімі кватэранаймальнікамі, у адпаведнасці з інструкцыяй Міністэрства камунальнага жыллёвага будаўніцтва БССР і Белкамунбанка ад 20.03.1946 г. № 51286 [**9**]. Але камісія не спяшалася прыступіць да ацэнкі праведзеных грамадзянамі работ.

З мэтай паляпшэння якасці архітэктурнага праектавання аднаўляемых і новабудуючыхся дамоў у Полацку, а таксама іх афармлення, 27.04.1946 г. арганізаваны архітэктурна-пландіровачныя майстэрні, у якіх стала магчымым высакаякаснае архітэктурна-мастацкае праектаванне па стварэнні новага горада Полацка [**9**].

30.08.1948 г. Савет Міністраў БССР зацвердзіў генплан рэканструкцыі і аднаўлення г. Полацка, які распрацавалі архітэктары Г. Заборскі, Л. Мацкевіч, А. Хегай. План развіцця горада быў разлічаны на 20 гадоў, і на працягу гэтага тэрміну насельніцтва Полацка павінна было дасягнуць лічбы ў 70 тыс. чалавек. На месцы гістарычнага цэнтра горада планавалася размясціць цэнтральны парк культуры і адпачынку, як элемент выкарыстаць вал Івана Грознага і маляўнічыя берагі р. Палата; у парку – абсталяваць фізкультурны комплекс. Ніжэй моста на правым беразе р. Зах. Дзвіна размясцілася б рачная прыстань, а грузавая – у заходняй частцы горада ніжэй цэнтра. Праект быў распрацаваны з улікам найбольш значных помнікаў даўніны і архітэктуры. У гарадскую прастору ўключаліся Сафійскі сабор і вялікі сквер на Верхнім замку, Мікалаеўскі сабор і былы езуіцкі калегіум, Богаяўленскі сабор і абодва жылыя будынкі манастыра [**3**].

На сесіі гарсавета пасля прыняцця генплана былі акрэслены першачарговыя мерапрыемствы: будаўніцтва і аднаўленне жылых грамадскіх будынкаў і добраўпарадкаванне горада (дарогі, азеляненне, водазабеспячэнне, каналізацыя, электразабеспячэнне, транспарт і інш.), забудова і добраўпарадкаванне цэнтра і галоўнейшых плошчаў (плошчаў галоўнай магістралі, пры вакзале), галоўнейшых вуліц (К. Маркса, Леніна, Арджанікідзэ, Гогаля), ажыццяўленне жылога будаўніцтва ў прамысловых раёнах горада [**3**].

Такім чынам, у 1944–48 гг. перад горадам паўстаў шэраг праблем па аднаўленні жыллёвага фонду. Гэтыя праблемы вырашаліся пад пільным кантролем з боку абласнога і гарадскога кіраўніцтва, аб чым сведчаць архіўныя матэрыялы. Саветы дэпутаў працоўных спадзяваліся ў першую чаргу на энтузіязм палачан. Але аднаго гэтага не хапала. Пасля атрымання ад краіны падтрымкі ў выглядзе тэхнікі і працоўнай сілы тэмпы аднаўленчых работ паскорыліся. Гэтаму садзейнічалі індывідуальныя забудоўшчыкі і камунальныя службы. У вялікай колькасці выдзяляліся зямельныя ўчасткі, будаўнічыя матэрыялы, банкаўскія пазыкі. Крыніцай цэглы, напрыклад, служылі каробкі

будынкаў, якія ўжо нельга было аднавіць. У іх лік траплялі не толькі жылыя пабудовы, але і культавыя збудаванні.

Праблема адводу зямель вырашылася пасля прыняцця генплана. Цэнтральная частка Полацка адводзілася пад забудову шматпавярховымі дамамі, адміністрацыйнымі будынкамі, установамі асветы і культуры, апошнія з якіх маглі быць размешчаны ў помніках архітэктуры старажытнага Полацка. Аднак ажыццявілася толькі частка праекта.

**Спіс літаратуры і крыніц**

1. Акт от 7 марта 46 г. // Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 658. – Воп. 1. – С. 33. – Л. 9.

2. Договор от 22 марта 46 г. // Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 658. – Воп. 1. – С. 33. – Л. 10.

3. Доклад на VIII Сессии Полоцкого Городского Совета депутатов трудящихся 29 сентября 48 г. // Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 658. – Воп. 1. – С. 51. – Л. 48–54.

4. З дакладной запіскі аб разбурэннях і злачынствах, здзейсненых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў г. Полацку і раёнах Полацкай вобласці // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Полацка / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн, 2002. – С. 486–487.

5. Мелешко, В.И. Город меняет свой облик. Улучшение жилищно-бытовых условий / В.И. Мелешко // Полоцк: ист. очерк / АН БССР. ИН-т истории; редкол.: П.Т. Петриков (отв. ред.) и др. – 2-е изд., перераб. и доп. – Минск: Наука и техника, 1987. – С. 233–238.

6. Никитин, Г.А. Возрождение из руин и пепла / Г.А. Никитин // Полоцк: ист. очерк / АН БССР. ИН-т истории; редкол.: П.Т. Петриков (отв. ред.) и др. – 2-е изд., перераб. и доп. – Минск: Наука и техника, 1987. – С. 225–233.

7. Па старонках газеты «Бальшавіцкі шлях» // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Полацка / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн, 2002. – С. 493–494.

8. Постановления исполкома Полоцкого горсовета депутатов трудящихся и Полоцкого горкома КПБ // Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 658. – Воп. 1. – С. 22.

9. Протоколы заседаний исполкома Полоцкого горсовета депутатов трудящихся // Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 658. – Воп. 1. – С. 2, 11–12, 23–24, 41–42, 50.

10. Протоколы заседаний исполкома Полоцкого горсовета депутатов трудящихся и решения к ним // Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 658. – Воп. 1. – С. 52–53.

11. Протоколы заседаний исполнительного комитета Полоцкой области Совета депутатов трудящихся // Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 686. – Воп. 1. – С. 29–31, 53–55, 85–86.

12. Распоряжения облисполкома по основной деятельности // Занальны дзяржаўны архіў у г. Полацку. – Фонд 686. – Воп. 1. – С. 81.

13. Чарняўская, С.С. Пасля вызвалення / С.С. Чарняўская // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Полацка / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн, 2002. – С. 484–485.

14. Яноўская, В.В. У мірнай працы / В.В. Яноўская // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Полацка / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн, 2002. – С. 693–700.

15. Яшчэ грымелі баі. З успамінаў І.П. Дэйніса // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Полацка / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн, 2002. – С. 491–493.

*Магалінскі І.У.*

# Металічныя ювелірныя інструменты X–XVII стагоддзяў у фондах НПГКМЗ

## Уводзіны

Найлепшым маркерам узроўню развіцця матэрыяльнай культуры сярэднявечнага горада з’яўляюцца вырабы ювелірнага рамяства. Упрыгажэнні, якія насілі насельнікі горада, выконвалі не толькі эстэтычныя і сімвалічныя функцыі, але і з’яўляліся своеасаблівым індыкатарам сацыяльнай прыналежнасці іх носьбітаў. Наяўнасць у культурным слоі вялікай колькасці вырабаў з каляровых металаў, а таксама вытворчых ювелірных комплексаў дазваляе з упэўненасцю казаць пра высокі сацыяльны, маёмасны і гандлёва-эканамічны статус таго ці іншага населенага пункта, значны ўзровень развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры яго жыхароў [**10**, с. *335*].

Да гарадоў такога кшталту адносіўся і старажытны Полацк. На яго тэрыторыі за перыяд археалагічнага вывучэння было адкрыта некалькі розначасовых вытворчых ювелірных комплексаў, што з’яўляецца сведчаннем існавання самастойнай ювелірнай вытворчасці. На значны ўзровень развіцця ювелірнага рамяства ўказвае і набор рамесных тэхнік, якія выкарыстоўвалі мясцовыя майстры ў сваёй практыцы. Полацкім ювелірам былі вядомы такія найбольш прагрэсіўныя для свайго часу рамесныя прыёмы, як чаканка, цісненне, валачэнне, філігрань, зернь і інш. [**28**, с. 66]. Ёсць падставы лічыць, што на тэрыторыі старажытнага горада існавала ўласная вытворчасць вырабаў з перагародчатымі эмалямі [**13**]. Такая высокая канцэнтрацыя рэшткаў ювелірнай вытворчасці дазваляе меркаваць аб значнай ролі дадзенага віду рамеснай дзейнасці ў эканамічным жыцці Полацка.

Вывучэнне ўсяго комплексу пытанняў, звязаных з ювелірным рамяством, дазволіць пашырыць нашы ўяўленні пра эканамічнае жыццё

Полацка, сацыяльны статус яго жыхароў і гандлёвыя сувязі з іншымі населенымі пунктамі.

Дадзеная работа прысвечана аднаму аспекту гэтага віду рамеснай дзейнасці, а менавіта металічным прыладам працы ювеліраў. Даследаванне гэтага пытання дазволіць рэканструяваць тэхналагічныя працэсы, звязаныя з вырабам упрыгажэнняў, убачыць характэрныя асаблівасці выкарыстання таго ці іншага інструмента, а таксама выявіць ступень распаўсюджанасці ўпрыгажэнняў, зробленых з дапамогай пэўнага набору інструментаў. Шырокія храналагічныя межы работы дазволяць убачыць пераемнасць рамесных традыцый, а таксама прасачыць эвалюцыю формаў інструментаў, якія выкарыстоўваліся ў ювелірнай справе.

Такім чынам, мэтай работы з’яўляецца тыпалагічна-храналагічны аналіз металічных ювелірных інструментаў X–XVII стст., якія захоўваюцца ў фондах НПГКМЗ. Адпаведна, асноўным матэрыялам для напісання артыкула паслужылі прадметы, якія знаходзяцца ў фондах НПГКМЗ на часовым ці пастаянным захоўванні.

**Асноўная частка**

Галоўнай галіной апрацоўкі каляровых металаў з’яўлялася ліцейная справа. Асноўнымі інструментамі ліцейшчыка з’яўляліся тыглі і ліцейныя формы, якія рабіліся з вогнетрывалай гліны і з мяккіх парод каменю адпаведна. Рэшткі развітой ліцейнай справы былі выяўлены і на тэрыторыі старажытнага Полацка. Так, толькі ў слаях XIII ст. падчас раскопак Г.В. Штыхава на тэрыторыі Верхняга замка была выяўлена 21 ліцейная форма, а на ўсёй плошчы ўсходняга раскопу было знойдзена 53 тыглі, з якіх 19 захаваліся поўнасцю [**28**, с. 63, 64]. Далейшыя археалагічныя даследаванні пацвердзілі тэзіс пра шырокае распаўсюджванне дадзенага накірунку рамеснай дзейнасці на тэрыторыі горада.

Вельмі важным кампанентам ювелірнай вытворчасці з’яўлялася механічная апрацоўка каляровых металаў — чаканка, коўка, цісненне і інш. Менавіта з комплексам гэтых мерапрыемстваў і звязваецца большасць знаходак металічных інструментаў ювеліра.

Асаблівасці тэхналагічных аперацый, звязаных з апрацоўкай каляровых металаў, абумовілі неабходнасць існавання значнай колькасці

інструментаў, форма якіх была ў найбольшай ступені прыстасаваная да азначаных патрэб [**8**]. Да такога кшталту інструментаў варта аднесці кавадлы, малаткі, чаканы, абцугі, кусачкі, пінцэты, напільнікі і інш.

Акрамя спецыялізаваных інструментаў, нельга выключаць і магчымасць ужывання ювелірамі ў сваёй практыцы і такіх прыстасаванняў, якія насілі ўніверсальны характар і маглі выкарыстоўвацца ў іншых галінах рамеснай дзейнасці і ў побыце. Да такіх вырабаў у першую чаргу варта аднесці прабойнікі, нажы, нажніцы, шылы і інш. Ступень выкарыстання дадзенай групы прадметаў у працэсе вытворчасці і апрацоўкі вырабаў з каляровых металаў установіць дастаткова цяжка, што абумоўлена дрэннай захаванасцю металічных (у першую чаргу жалезных) рэчаў у культурных напластаваннях старажытнага Полацка, а таксама складанасцю выяўлення слядоў іх выкарыстання на канкрэтных прадметах.

У сувязі з гэтым у дадзенай рабоце асноўную ўвагу варта надаць тым інструментам, якія маюць непасрэднае дачыненне да ювелірнага рамяства і былі знойдзены ў комплексах ювелірных майстэрняў, а таксама ў месцах выяўлення значнай колькасці прадметаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да ювелірнай вытворчасці.

Галоўным інструментам, звязаным з механічнай апрацоўкай каляровых металаў, з'яўляецца кавадла. Кавадлы ўжываюцца падчас вольнай коўкі ці чаканкі і выконваюць функцыю апоры, на якую кладуць апрацоўваемы выраб падчас нанясення па ім удараў [**19**, с. 10].

Ювелірныя кавадлы адрозніваліся формай і памерамі ад кавадлаў кавальскіх, якія былі прызначаны для грубых работ па апрацоўцы чорных металаў. Задачы ювелірнай справы абумовілі выпрацоўку спецыфічнай формы прылад такога кшталту. Звычайна вылучаюць два віды ювелірных кавадлаў паводле іх марфалагічных і функцыянальных асаблівасцяў: 1) простыя; 2) фігурныя [**18**, с. 221]. Рабілі дадзены від ювелірных прыстасаванняў з розных матэрыялаў. Сярод артэфактаў, атрыманых падчас раскопак старажытнага Ноўгарада, былі выяўлены жалезныя, драўляныя і гліняныя кавадлы [**20**]. Выраб кавадлаў з мяккіх матэрыялаў быў абумоўлены неабходнасцю выканання такіх тэхналагічных аперацый, як выпуклая чаканка і цісненне.

У калекцыі матэрыялаў, выяўленых падчас археалагічных даследаванняў старажытнага Полацка, знаходзяцца два экзэмпляры ювелірных кавадлаў. Яны адносяцца да тыпу простых і ўяўляюць сабой




**Мал. 1**. Металічныя ювелірныя інструменты X–XVII стст. з Полацка:
1–4 — пінцэты; 5–6 — кавадлы; 7 — ніжняе зубіла (падсечка); 8 — зубіла;
9 — раўнаплечныя вагі; 10–12 — гіркі-разнавагі; 13 — малаток-цвікадзёр.

невялікія цыліндры з круглай ці авальнай рабочай пляцоўкай, якія маюць чатырохгранную ці акруглую ножку (**мал. 1.5–6**). Зроблены дадзеныя прыстасаванні з дастаткова трывалага меднага сплаву.

Першае кавадлачка (КП7-3956/63; памеры 61,0x12,0 мм) захавалася амаль поўнасцю (**мал. 1.6**). Яно было выяўлена ў 1987 г. падчас археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Вялікага пасада старажытнага Полацка, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам С.В. Тарасава. Дадзеная прылада была знойдзена на ўзроўні 10 пласта, які адпавядае XII–XIII стст., і можа быць звязаная з комплексам пабудоў, што адносяцца да сядзібы ювеліра [**25**, с. 11–12].

Другая прылада была выяўлена падчас археалагічных раскопак на тэрыторыі Ніжняга замка ў 1989 г. Кавадла (КДФ3-1185/16; памеры 56,0x15,0 мм) знойдзена на ўзроўні трэцяга пласта разам з іншымі матэрыяламі, якія сведчаць пра існаванне на дадзеным месцы ювелірнай майстэрні (пінцэт, фрагменты тыгляў, нарыхтоўкі і гатовыя вырабы) (**мал. 1.5**). Між тым, перамяшаны характар культурнага слоя на гэтым участку не дазваляе адназначна датаваць прадмет з дапамогай стратыграфічнага метаду, бо «выразныя стратыграфічныя асаблівасці культурнага слою былі заўважаны толькі на глыбіні 0,6–0,8 м ад дзённай паверхні, а часам і ў передмацерыку» [**24**, с. 4]. Знаходкі з трэцяга пласта канцэнтраваліся пераважна ў межах квадратаў 64–67 і аўтарам раскопак датаваліся XI–XII стст. [**23**, с. 3].

У передмацерыковым пласце былі выяўлены рэшткі каркасна-слупавой пабудовы і комплекс звязаных з ёй мацерыковых ям. Паблізу канструкцыі знойдзены рэшткі ювелірнай вытворчасці, што дазволіла аўтару раскопак, С.В. Тарасаву, вызначыць пабудову як ювелірную майстэрню. Комплекс датуецца канцом X – пачаткам XI стст. [**23**, с. 9]. Знаходкі дадзенага экзэмпляра ювелірнага кавадла варта звязваць ці з гэтай рамеснай майстэрняй (у такім выпадку рэчы трапілі ў вышэйшы гарызонт праз перамешванне культурнага слоя), ці з іншым рамесным комплексам, які мог існаваць на гэтым жа месцы ў больш позні час. Такім чынам, прадмет можна датаваць у дастаткова шырокім храналагічным дыяпазоне ад X да XII стст.

Гэтыя прыстасаванні выкарыстоўваліся для дробных работ па механічнай апрацоўцы каляровых металаў. Яны ўстаўляліся ў драўляныя апоры ці ў спецыяльныя адтуліны ў большых па памерах кавадлах. Аналогіі полацкім матэрыялам сустракаюцца ў Ноўгарадзе,

дзе былі знойдзены два экзэмпляры блізкіх па форме кавадлаў у слаях другой паловы XIII – пачатку XV стст. [**22**]. Выяўленне полацкіх кавадлачак разам з комплексам рэчаў больш ранняга часу дазваляе меркаваць, што мясцовыя рамеснікі пачалі выкарыстоўваць прыстасаванні дадзенага тыпу ўжо ў X–XIII стст.

Цэлы шэраг тэхналагічных аперацый па механічнай апрацоўцы каляровых металаў звязаны з такім відам рамеснага інструменту, як малаток. Малаток – гэта прыстасаванне для механічнай дэфармацыі прадметаў. Ювелірныя малаточкі адрозніваюцца сваімі невялікімі памерамі, прыстасаванымі для выканання дробных аперацый. У ювелірнай вытворчасці малаточкі выкарыстоўваліся са старажытнарускага часу, а іх форма і памеры супадалі з заходнееўрапейскімі, апісанымі ў трактаце манаха Тэафіла [**18**, с. 222].

Полацкі экзэмпляр дадзенай катэгорыі вырабаў паходзіць з матэрыялаў археалагічных раскопак 2005 г. на тэрыторыі Вялікага пасада, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам Д.У. Дука. Малаточак (КП19-23878; памер 62,0х33,0х13,0 мм) выкананы з жалеза і ўяўляе сабой цэльнаметалічны выраб з чатырохграннай у сячэнні ручкай і размешчанай на ёй перпендыкулярна рабочай часткай з пляскатым байком на адным канцы і падвоеным наском для выцягвання цвікоў на другім (**мал. 1.13**). Выраб быў знойдзены на ўзроўні 11 пласта, стратыграфічна датуецца XVII ст. і можа быць суаднесены з комплексам выяўленай на месцы раскопу ювелірнай майстэрні пачатку XVII ст. [**3**, с. 9]. Памеры прыстасавання ўказваюць на той факт, што яно выкарыстоўвалася падчас выканання вельмі тонкіх аперацый па вырабу упрыгажэнняў, а рогападобныя выступы маглі ўжывацца для выдзірання цвікоў.

Да катэгорыі прыстасаванняў, якія былі прызначаныя для механічнай дэфармацыі прадметаў, варта аднесці малаточак-кіянку (КП20-258594; памер 40,0х24,0х23,0 мм), які быў выяўлены на тэрыторыі Гарадзішча ў 2007 г. экспедыцыяй УА «ПДУ» пад кіраўніцтвам Д.У. Дука [**4, мал. 25.4**]. Дадзены выраб выкананы з бронзы і ўяўляе сабой трапецападобны ў вертыкальным сячэнні брусок са скразной адтулінай для мацавання рукаяці. Прамых аналогій гэтаму вырабу ў старажытнарускіх матэрыялах намі не знойдзена. Абуховая частка вырабу скошаная, баёк моцна спрацаваны, уся паверхня ўтрымлівае сляды работы з сякучымі прыладамі. Прыстасаванне было выяўлена

ў межах трэцяга ўмоўнага пласта і можа быць датаванае X–XIII стст. [**4**, с. 19].

Малаточак, верагодна, ужываўся для такіх рамесных аперацый, як чаканка і вальцоўка. Акрамя таго, наяўнасць выразных слядоў спрацаванасці на паверхні можа сведчыць аб магчымасці выкарыстання дадзенага прыстасавання ў якасці падкладкі ці кавадла. Адкрытым застаецца пытанне адносна характару дачынення малаточка да ювелірнай вытворчасці. На тэрыторыі раскопу 2007 г. не было выяўлена слядоў існавання ювелірнай майстэрні (акрамя некалькіх дробных фрагментаў тыгляў), аднак знойдзены комплекс элементаў ахоўнай зброі разам з нарыхтоўкамі можа быць інтэрпрэтаваны як рэшткі майстэрні па вытворчасці элементаў пласцінкавага даспеха. У сувязі з гэтым вельмі верагодным уяўляецца суаднясенне малаточка-кіянкі менавіта з гэтым відам рамеснай дзейнасці. Між тым, нельга выключаць магчымасці выкарыстання дадзенага інструмента ў ювелірнай справе.

Асобную групу металічных інструментаў ювеліра складаюць пінцэты – прыстасаванні для заціску і трымання ювелірных вырабаў падчас іх апрацоўкі [**12**, с. 22]. Дадзеная група прадметаў у калекцыі НПГКМЗ прадстаўлена некалькімі тыпамі паводле функцыянальнага прынцыпу: 1) пінцэты-шчыпцы; 2) пінцэты-ціскі.

Заціскны пінцэт у матэрыялах раскопак старажытнага Полацка прадстаўлены адным экзэмплярам (КДФ31185/9; памер 49,0х45,0х65,0 мм). Выраб уяўляе сабой сагнутую ўдвая бронзавую пласцінку (**мал. 1.1**). Выгнутыя пад прамым вуглом канцы пласціны ўтвараюць Г-падобныя губы. На ножкі пінцэта насаджана фіксуючае кольца, якое прызначалася для нерухомага заціску прадмета. Падобныя прыстасаванні ўжываліся для ўтрымання нарыхтоўкі падчас правядзення такіх аперацый, як чаканка, коўка і інш. Пінцэт быў выяўлены ў 1989 г. на тэрыторыі Ніжняга замка разам з ювелірным кавадлам і пінцэтам іншага тыпу. Дадзеныя матэрыялы датуюцца С.В. Тарасавым XI–XII стст. [**23**, с. 3]. Аналогіі прыстасаванню маюцца ў матэрыялах раскопак Ноўгарада і іншых старажытнарускіх населеных пунктаў. Цікава, што з трох наўгародскіх пінцэтаў дадзенага тыпу толькі адзін быў выкананы з бронзы [**18**, с. 224]. Бронзавым з’яўляецца і полацкі экзэмпляр.

Найбольш пашыранымі формамі пінцэтаў з’яўляліся пінцэты-шчыпцы. Яны прызначаліся для захопу камянёў і розных дробных

прадметаў, для выгіну дроту падчас філігранных ці эмальерных работ **16**]. У фондах НПГКМЗ захоўваюцца некалькі пінцэтаў гэтага тыпу.

Першы выраб (знаходзіцца на часовым захоўванні; памеры 39,0х25,0х6,0 мм) быў выяўлены на тэрыторыі Запалоцця ў 2006 г., выкананы з бронзы і ўяўляе сабой сагнутую ўдвая пласціну з загнутымі ва ўнутр канцамі (**мал. 1.4**). Прылада была знойдзена ў межах трэцяга пласта і стратыграфічна можа быць датаваная XI–XIII стст. На думку аўтара раскопак, Д.У. Дука, выяўленыя на месцы раскопу рэчы з каляровых металаў, а таксама характэрны набор інструментаў (тыглі, пінцэт) сведчаць аб наяўнасці на дадзенай тэрыторыі ювелірнай вытворчасці. На карысць дадзенай гіпотэзы гаворыць і той факт, што разам з гатовымі ювелірнымі рэчамі былі знойдзены іх нарыхтоўкі і бракаваныя вырабы (бракаваная бразготка), а таксама сыравінны запас ювеліра [**2**; **6**, с. 11].

Падчас археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Вялікага пасада ў 1988 г., якія праводзіліся пад кіраўніцтвам С.В. Тарасава, быў выяўлены яшчэ адзін бронзавы пінцэт-шчыпчык (КП7-3956/46; памеры 51,0х7,0х1,0 мм) (**мал. 1.3**). Прадмет быў знойдзены на ўзроўні 13 пласта, які стратыграфічна і тэрытарыяльна адпавядае сядзібе ювеліра і датуецца XII–XIII стст. [**25**, с. 11, 12].

У матэрыялах раскопак 1989 г. на тэрыторыі Ніжняга замка ў межах трэцяга ўмоўнага пласта быў выяўлены бронзавы ювелірны пінцэт (КДФЗ-1185/10; выраб фрагментаваны, складаецца з трох частак: 18,0х15,0х3 мм; 39,0х8,0х2,0 мм; 47,0х9,0х4,0 мм) з пашыранымі канцамі, завяршэнне якіх утварае Г-падобныя губы (**мал. 1.2**). Выраб быў знойдзены на адным узроўні з ювелірным кавадлачкам, яшчэ адным пінцэтам і фрагментамі тыгляў [**23**, с. 3]. Адметнасцю дадзенага пінцэта з'яўляецца наяўнасць арнаментацыі на ножках. Арнамент носіць геаметрычны характар і ахоплівае ўсю плошчу прадмета. Найбольшая колькасць арнаментальных элементаў фіксуецца ў верхняй частцы вырабу, бліжэй да месца перагібу пласціны, і ўяўляе сабой дзве перакрыжаваныя лініі, якія абмежаваныя з двух бакоў арнаментальнымі паяскамі. Астатняя паверхня прадмета па краях арнаментаваная зубчастым штампам.

Форма пінцэтаў з пашыранымі канцамі дастаткова архаічная і на тэрыторыі Беларусі фіксуецца ўжо ў матэрыялах V–VIII стст. Падобны выраб быў выяўлены на селішчы каля в. Лужасна Віцебскай вобласці разам з характэрнай банцараўскай керамікай V–VIII стст. Прадмет быў знойдзены разам з комплексам рэчаў, якія сведчаць аб існаванні на

дадзеным месцы вытворчасці па апрацоўцы каляровых металаў [**27**, с. 33]. Полацкі пінцэт адрозніваецца меншай шырынёй канцоў, а таксама больш выразна абазначанымі Г-падобнымі губамі. Стратыграфічна дадзены прадмет датуецца XI–XII стст. Між тым, архаічнасць формы прылады дазваляе аднесці яе да больш ранняга часу і атаясамліваць выраб з адкрытай на тэрыторыі раскопу ювелірнай майстэрняй, якая найбольш актыўна дзейнічала ў X ст. [**24**, с. 9].

Неабходным інструментам у ювелірнай справе з'яўлялася зубіла – прыстасаванне для адсякання кавалкаў металу, дроту і інш. Дадзены від інструмента характарызуецца ўніверсальнасцю выкарыстання. Пераважная большасць зубіл магла ўжывацца ў кавальскім ці слясарным рамястве для выканання грубых аперацый з чорнымі металамі [**17**, с. 213]. Ювелірныя зубілы звычайна характарызаваліся значна меншымі памерамі.

Да ліку зубіл, якія маглі выкарыстоўвацца ў ювелірнай справе, можна аднесці выраб, выяўлены ў 2001 г. на тэрыторыі Вялікага пасада археалагічнай экспедыцыяй УА «ПДУ» пад кіраўніцтвам Д.У. Дука. Прыстасаванне (знаходзіцца на часовым захоўванні; памеры 82,0х27,0х23,0 мм) уяўляе сабой чатырохгранны стрыжань, які з аднаго боку мае завостраную рабочую частку, а з другога – ударную пляцоўку (**мал. 1.8**). На карысць магчымасці выкарыстання дадзенага прыстасавання ў ювелірнай справе гавораць адносна невялікія памеры прадмета. Стратыгрыфічна выраб датуецца ў межах XVI–XVII стст. [**1**, с. 161; 7, с. 12].

Да інструментаў слесара і ювеліра можа быць аднесена таксама і невялікае прыстасаванне, выяўленае ў 2001 г. на тэрыторыі Вялікага пасада. Яно ўяўляе сабой авальную металічную пласціну з вострым рабром пасярэдзіне (мал. 1.7). Дадзены выраб мог ужывацца ў якасці кавадла. Між тым, больш верагодна яго выкарыстанне ў якасці так званага ніжняга зубіла (падсечкі), якое было шырока распаўсюджана ў металаапрацоўчых рамёствах з часоў старажытнай Русі. Прыстасаванне адрозніваецца ад класічных формаў ніжніх зубіл, але яно мае поўны набор функцыянальных элементаў, характэрных для прылад такога кшталту (вострае рабро, мацавальная аснова). Стратыграфічна выраб датуецца XVII ст. [**1**, с. 161; 7, с. 12]. Нягледзячы на тое, што на плошчы раскопу не былі выяўлены рэшткі функцыянавання ювелірнай майстэрні, падобнае прыстасаванне магло выкарыстоўвацца рамеснікамі для не-

каторых відаў аперацый з мяккімі металамі (адсяканне дроту і інш.).

Падчас вырабу некаторых катэгорый пласцінчатых бранзалетаў, ціснення бляшак, для прабіцця адтулін у метале ўжываліся барадкі [**18**, с. 224]. Дадзеныя прыстасаванні ў большасці сваёй з'яўляліся інструментамі кавалёў і слесараў, між тым вельмі верагодным падаецца і магчымасць выкарыстання некаторых з іх і ў ювелірнай справе. У фондах НПГКМЗ захоўваецца толькі адзін экзэмпляр вырабаў такога кшталту (КП8-4383/164; памеры 55,0х20,0х16,0 мм), які быў выяўлены падчас археалагічных раскопак Г.В. Штыхава на тэрыторыі Верхняга замка ў 1960-ыя гг. і датуецца XIII ст. Невялікія памеры барадка дазваляюць дапусціць магчымасць яго выкарыстання ў ювелірнай справе, сляды якой былі выяўлены на плошчы раскопу [**28**, мал. 29.16].

Канчатковая апрацоўка ювелірных вырабаў прадугледжвала такія тэхналагічныя аперацыі, як шліфоўка, паліроўка і інш. Пры гэтым шырока выкарыстоўваўся напільнік, які дазваляў здымаць ліцейныя швы, выдаляць завусеніцы, здымаць невялікія слаі металу. Неабходнасць работы з каштоўнымі каляровымі металамі абумоўлівала выкарыстанне ў ювелірнай справе толькі такіх напільнікаў, якія мелі неглыбокія і частыя насечкі, што дазваляла эканоміць сыравіну і рабіць больш незаўважнымі сляды выкарыстання дадзенага інструмента на гатовых вырабах.

У полацкай калекцыі выяўлены адзін напільнік, які можна звязаць з апрацоўкай каляровых металаў (КП19-23893; памеры 187,0х15,0х5 мм). Дадзены выраб быў знойдзены ў 2002 г. на тэрыторыі Вялікага пасада і стратыграфічна датуецца XVII–XVIII стст. [**1**, с. 162; 5, с. 31]. Гэты прадмет уяўляе сабой невялікую металічную пласціну на доўгай стрыжнёвай рукаяці з паўкруглым завяршэннем [**1**, мал. 63.3]. Насечкі, зробленыя на абодвух баках і тарцах пласціны, уяўляюць сабой шэраг узаемна перпендыкулярных ліній, якія ўтвараюць дробныя ромбападобныя ці квадратныя зубцы. Невялікія памеры рабочай часткі вырабу (70,0х10,0 мм), а таксама характар насечак могуць указваць на магчымасць выкарыстання дадзенай прылады для дробных аперацый з мяккімі металамі, магчыма, у ювелірнай справе.

Напрыканцы агляду металічных інструментаў ювеліраў варта спыніцца на такой катэгорыі рэчаў, як бронзавыя вагі і гіркі, якія служылі для ўзважвання металічнага лому ці для састаўлення розных сплаваў. З'яўленне вагаў звязана з выкарыстаннем у грашовым абарачэнні

абрэзкаў і розных вагавых нормаў куфіцкіх дырхемаў [**22**]. Адпаведна, раўнаплечыя ювелірныя вагі з’яўляюцца на старажытнарускіх тэрыторыях у сярэдзіне X ст., але працягваюць бытаваць і ў больш позні час [**15**]. Дадзенае датаванне пацвярджаюць і полацкія знаходкі.

У фондах НПГКМЗ захоўваюцца два экзэмпляры раўнаплечных ювелірных вагаў. Адзін з іх быў выяўлены на тэрыторыі Вялікага пасада старажытнага горада ў 1988 г. (КП9-5195/3; памеры 93,0х3,0 мм). Вагі былі знойдзены ў межах 14 умоўнага пласта і ўяўляюць сабой рухома замацаваныя ў трымальніку стрыжні з замкнутымі колцамі на канцах (**мал. 1.9**). 13–15 пласты з’яўляюцца фактычна перадмацерыковымі, і матэрыялы з іх (пераважна кераміка) не выходзяць за межы X–XI стст. [**25**, с. 14]. Яшчэ адзін фрагмент раўнаплечых вагаў (КДФ3-1185/8; памеры 31,0х д. 3,0 мм) быў выяўлены на тэрыторыі Ніжняга замка ў 1989 г. разам з ювелірным кавадлачкам і двума пінцэтамі. Комплекс гэтых матэрыялаў датуецца аўтарам раскопак XI–XII стст. Між тым, вельмі верагодна, што дадзеныя рэчы мелі дачыненне да ювелірнай майстэрні, якая была знойдзена на месцы раскопу і найбольш актыўна дзейнічала ў X — пачатку XI стст. [**23**, с. 3].

На плошчы раскопу 1987–1988 гг. былі знойдзены тры гіркі-разнавагі, якія таксама могуць быць атаясамлены з пэўным колам аперацый ювеліра (КП8-4347/21, памеры 15,0х11,0 мм; КП9-5195/4,5; памеры: 14,0х18,0 мм, 10,0х13,0 мм). Гіркі ўяўляюць сабой усечаныя з двух бакоў сферы і маюць на плоскіх баках знакі кратнасці (**мал. 1.10–12**). Падобныя вырабы з’яўляюцца ў X ст., але працягваюць ужывацца і пазней. Полацкія экзэмпляры стратыграфічна могуць быць датаваныя XI–XIII стст. [**26**, с. 13]. Другой паловай X ст. датуецца і гірка-разнавага, знойдзеная археалагічнай экспедыцыяй ІГ НАН Беларусі пад кіраўніцтвам М.В. Клімава на тэрыторыі Запалоцця ў 2008 г. [**11**, с. 13].

Яшчэ дзве гіркі паходзяць з прыватнай калекцыі С.Л. Міхейкі, якая на сённяшні момант захоўваецца ў фондах НПГКМЗ (КП20-27409; памеры 11,0х14,0 мм). Гэтыя вырабы аналагічныя тым, што паходзяць з матэрыялаў раскопак, але з’яўляюцца выпадковымі знаходкамі і не маюць надзейнай стратыграфічнай і тэрытарыяльнай прывязкі.

Дадзены пералік металічных ювелірных інструментаў, якія былі выяўлены на тэрыторыі Полацка, далёка не поўны. Пэўная колькасць такога кшталту прылад раскідана па музеях рэспублікі, а іх улік і на-

вуковы аналіз павінны стаць справай будучыні. У дадзеным артыкуле спынімся на кароткай характарыстыцы прадметаў гэтай катэгорыі, якія фіксуюцца ў археалагічных справаздачах даследчыкаў, што ў розныя часы займаліся вывучэннем старажытнага Полацка.

Згадкі пра выяўленне ювелірнага інструментарыя сустракаем ужо ў матэрыялах раскопак А.Г. Мітрафанава. Акрамя выяўлення пэўнай колькасці барадкоў і зубіл, даследчык узгадвае аб знаходцы ювелірных абцугоў XI ст. (малюнак прылады размешчаны ў дзённіку экспедыцыі), поўная аналогія якім была выяўлена ў Ноўгарадзе [**14**, с. 11]. Мяркуючы па малюнку, гэта так званыя ліцейныя абцугі, што выкарыстоўваліся для трымання плавільных тыгляў.

Раскопкі 1960-ых гг. на тэрыторыі Верхняга замка пад кіраўніцтвам Г.В. Штыхава далі новы матэрыял для даследавання старажытнага полацкага ювелірнага рамяства. Сярод матэрыялаў знаходзяцца і металічныя ювелірныя інструменты. Найбольшую цікавасць выклікаюць знаходкі барадкоў XIII ст., ювелірнага малаточка канца X ст. і абцугоў. Усе прадметы ўяўляюць сабой шырока распаўсюджаныя на ўсёй старажытнарускай тэрыторыі тыпы [**28, мал. 29.5, 10, 11, 15, 16, 17**].

Згадку пра знаходку ювелірнага пінцэта на тэрыторыі Вялікага пасада старажытнага горада ў раёне дома № 35 па вуліцы Ніжне-Пакроўскай сустракаем у справаздачы Н.І. Здановіч за 1992 г. Выраб моцна каразіраваны, аднак па малюнку можна меркаваць, што прадмет адносіцца да тыпу пінцэтаў-шчыпцоў. Стратыграфічна прылада датуецца XVI–XVII стст. [**9**, с. 22].

**Заключэнне**

У выніку праведзенага даследавання можна зрабіць наступныя высновы:

1. Прадстаўленыя ў полацкай калекцыі металічныя інструменты маюць непасрэднае дачыненне амаль да кожнага тэхналагічнага этапу вырабу прадметаў з каляровых металаў, што відавочна ўказвае на шырокае развіццё ювелірнага рамяства на тэрыторыі горада ў X–XVII стст.

2. Спецыяльныя ювелірныя інструменты полацкіх рамеснікаў выраблялiся пераважна з бронзы ці з іншых сплаваў на аснове медзі. У сувязі з гэтым найбольш верагодным уяўляецца іх выраб самімі ювелірамі, якія працавалі з такой сыравінай. У той жа час, жалезныя інструменты, якія насілі ўніверсальны характар, хутчэй за ўсё з'яўляліся

прадукцыяй мясцовых кавалёў.

3. Да найбольш частых знаходак інструментаў ювеліраў варта аднесці пінцэты. Дадзеная катэгорыя рэчаў прадстаўлена ў полацкай калекцыі ўсімі найбольш распаўсюджанымі тыпамі. У большасці выпадкаў знаходка пінцэта непасрэдным чынам указвае на існаванне на той ці іншай тэрыторыі рэштკаў вытворчасці па вырабу прадметаў з каляровых металаў, што робіць яго важнай прыкметай ювелірнай майстэрні. Выяўленне такіх катэгорый інструментаў, як кавадлы, малаточкі і інш., з’ява больш рэдкая. Гэта сітуацыя тлумачыцца большай колькасцю металу, які ішоў на выраб гэтых прадметаў.

4. Дастаткова складаным уяўляецца пытанне тыпалагічнай пераемнасці металічных ювелірных інструментаў і, адпаведна, пераемнасці традыцый у асяроддзі полацкіх рамеснікаў. Такая сітуацыя ўзнікае ў сувязі са значным храналагічным дысбалансам выяўленых артэфактаў. Большая частка металічных інструментаў ювеліраў адносіцца да старажытнарускага часу і датуецца X–XIII стст., у той жа час артэфактаў навачасных значна менш. Дадзеная акалічнасць не дазваляе выказаць адназначнае меркаванне адносна тыпалагічнай эвалюцыі марфалагічных характарыстык таго ці іншага рамеснага інструмента і з ўпэўненасцю казаць пра дыскрэтнасць ці латэнтнасць мясцовай рамеснай традыцыі.

Такім чынам, знаходкі металічных ювелірных інструментаў у культурных напластаваннях старажытнага Полацка сведчаць пра высокі ўзровень развіцця дадзенага віду рамеснай дзейнасці. Існаванне развітога самастойнага ювелірнага рамяства на тэрыторыі горада было абумоўлена высокім сацыяльным статусам палачан, а таксама вялікай гандлёва-эканамічнай і палітычнай роляй, якую адыгрываў Полацк у жыцці старажытных беларускіх зямель.

**Спіс літаратуры**

1. Дук, Д.У. Полацк XVI – XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д.У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2007. – 268 с.

2. Дук, Д.У. Рэчавы комплекс з раскопак на Запалоцкім пасадзе старажытнага Полацка ў 2004 і 2006 гадах / Д.У. Дук // Acta archaeologica Albaruthenica. – 2009. – № 5. – С. 19–45.

3. Дук, Д.У. Справаздача аб археалагічных раскопках і наглядзе ў горадзе Полацку ў 2005 годзе / Д.У. Дук // ААНД ІГ НАНБ. – № 2284.

4. Дук, Д.У. Справаздача аб археалагічных раскопках на полацкім гарадзішчы ў 2007 годзе: у 2-х ч. / Д.У. Дук // ААНД ІГ НАНБ. – № 2537. – Ч. 1: Тэкст.

5. Дук, Д.У. Справаздача аб археалагічных раскопках у горадзе Полацку ў 2002 годзе: у 2-х ч. / Д.У. Дук // ААНД ІГ НАНБ. – Спр. 2046. – Ч. 1: Тэкст і ілюстрацыі.

6. Дук, Д.У. Справаздача аб археалагічных раскопках ў горадзе Полацку і Полацкім раёне ў 2006 годзе / Д.У. Дук // ААНД ІГ НАНБ. – № 2368.

7. Дук, Д.У. Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у Полацку ў 2001 г. / Д.У. Дук // ААНД ІГ НАНБ. – № 1921.

8. Ениосова, Н.В. Древнерусские ювелирные инструменты из цветных металлов (результаты химико-технологического исследования) / Н.В. Ениосова, Т.Г Саргачёва // КСИА. – 2006. – Вып. 220. – С. 86–101.

9. Здановіч, Н.І. Справаздача пра археалагічныя даследаванні па вул. Леніна, 35 у г. Полацку ўлетку 1992 г. Кн. 1 / Н.І. Здановіч // ААНД ІГ НАНБ. – № 1450.

10. Каргер, М.К. Древний Киев / М.К. Каргер // Очерки по истории материальной культуры древнерусского города: в 2 т. Т. 1. – М.-Л.: Издательство АН СССР, 1958. – 579 с.

11. Клімаў, М.В. Справаздача пра археалагічныя даследаванні ў г. Полацку ў 2008 г. / М.В. Клімаў // ААНД ІГ НАНБ. – № 2596.

12. Колчин, Б.А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого / Б.А. Колчин // Труды новгородской археологической экспедиции. – М., 1959. – № 65: Материалы и исследования по археологии СССР. – С. 7–120.

13. Макарова, Т.И. Украшения с перегородчатой эмалью / Т.И. Макарова // Древняя Русь. Быт и культура / под ред. Б.А. Рыбакова. – М.: Наука, 1997. – С. 55–60.

14. Митрофанов, А.Г. Дневник археологических раскопок в г. Полоцке / А.Г. Митрофанов // ААНД ІГ НАНБ. — № 89.

15. Недошивина, Н.Г. Торговый инвентарь / Н.Г. Недошивина // Ярославское Поволжье X–XI вв. (по материалам Тимеревского, Михайловского и Петровского могильников) / под ред. А.П. Смирнова. — М.: Госстройиздат, 1963. — С. 71–75.

16. Никольская, Т.Н. Кузнецы железу, меди и серебру от вятич / Т.Н. Никольская // Славяне и Русь. — М.: Наука, 1968. — С. 122–132.

17. Рыбаков, Б.А. Ремесло древней Руси / Б.А. Рыбаков. — М.: Издательство АН СССР, 1948. — 784 с.

18. Рындина, Н.В. Технология производства новгородских ювелиров X–XV вв. / Н.В. Рындина // Труды новгородской археологической экспедиции. — М., 1959. — № 65: Материалы и исследования по археологии СССР. — С. 200–247

19. Сингх, В.К. Железный инструментарий средневекового Новгорода. Автореф. дис. … канд. истор. наук: 07.00.06 / В.К. Сингх; Моск. гос. ун-т, 2009. — 26 с.

20. Сингх, В.К. Инструменты новгородских ювелиров / В.К. Сингх // Родина. — 2009. — № 9. — С. 72–79.

21. Сингх, В.К. Наковальни из раскопок в Новгороде / В.К. Сингх // Труды II (XVIII) Всероссийского археологического съезда в Суздале. — М.: Институт археологии РАН, 2008. — С. 385–389.

22. Сінчук, І.І. Вагі / І.І. Сінчук // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. / Беларус. Энцыклапед.; рэдкал.: В.В. Гетаў і інш. — Мінск: БелЭн., 1993. — С. 110–111.

23. Тарасаў, С.В. Справаздача аб археалагічных доследах у Полацку і Полацкай акрузе ў 1990 г. / С.В. Тарасаў // ААНД ІГ НАНБ. — № 1205.

24. Тарасов, С.В. Отчёт о раскопках в Полоцке в 1988 г. / С.В. Тарасов // ААНД ІГ НАНБ. — № 1084.

25. Тарасов, С.В. Отчёт о раскопках в Полоцке в 1989 г. / С.В. Тарасов // ААНД ІГ НАНБ. — 1165.

26. Тарасов, С.В. Отчёт о раскопках в Полоцке и Полоцкой округе в 1987 г. / С.В. Тарасов // ААНД ІГ НАНБ. — № 1014.

27. Штыхаў, Г.В. Крывічы: па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі / Г.В. Штыхаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1992. — 191 с.

28. Штыхов, Г.В. Древний Полоцк IX–XIII вв. / Г.В. Штыхов. — Минск: Наука и техника, 1975. — 136 с.

*Салаўёў А.А.*

# Рэканструкцыя першапачатковай планіроўкі і функцыянальнай структуры корпуса «В» полацкага езуіцкага калегіума (па выніках археалагічных даследаванняў 2006–2008 гг.)

Падчас назіранняў за будаўнічымі работамі на корпусе «В» было высветлена, што ён шмат разоў перабудоўваўся і мае ў сваёй структуры больш старажытныя будынкі, якія ўпершыню былі выяўлены В.В. Гліннікам і зараз даследаваны болей дэталёва. Таксама вёўся збор звестак і пра першапачатковую планіроўку «старога калегіума», як называлі корпус «В» у памяць аб гэтых першых мураваных пабудовах самі езуіты [**1**, с. 4]. Назіранні паказалі, што ён узводзіўся адначасова з трохпавярховымі карпусамі. Сцены і скляпенні на ўзроўні першага паверха маюць перавязку муроўкі. Другі паверх быў узведзены пазней і шмат разоў дабудоўваўся. Нумарацыя памяшканняў для прывязкі знаходак зроблена умоўна, на падставе абмернага плана будынка 2006 г. **(мал. 1 і 2)**.

На месцы корпуса «В», згодна з выявамі, датаванымі 1707 г., праведзенымі архітэктурна-археалагічнымі даследаваннямі, знаходзіліся драўляная вежа на цагляным сутарэнні і вялікі аднапавярховы каменны будынак з глыбокімі масіўнымі сутарэннямі. Апошні неаднаразова значна перабудоўваўся. Самі езуіты называлі гэты будынак «сціплы калегіум».

У прыватнасці, быў высветлены магчымы выгляд некаторых яго печаў, характар падлогі і некаторыя пераробкі, праведзеныя да сярэдзіны XVIII ст. Таксама ўдалося высветліць, што ўсе памяшканні старога каменнага будынка былі скляпеністымі і падзеленымі капітальнымі сценамі, у якіх былі пячныя праёмы, глыбокія нішы і дымаходы [**3**, с. 70–79].

На падставе праведзеных даследаванняў і параўнання з выявамі калегіума на планах Полацка, датаваных 1707 г., стала магчымым прапанаваць частковую, але досыць дакладную рэканструкцыю верагоднай планіроўкі і інтэр’ераў падвалаў і паверха каменнага будынка, які папярэднічаў будаўніцтву корпуса «В» **(мал. 3)**.




**Мал. 1**. План падвала і падмуркаў корпуса «В», складзены на аснове планаў 1828 і 2006 гг. і назіранняў 2006–2008 гг. з пазначэннем нумарацыі памяшканняў і месцаў даследаванняў.




**Умоўныя пазначэнні:**

– Існуючыя і выяўленыя муры «старога калегіума» (да сярэдзіны XVIII ст.).

– Мяркуемыя і страчаныя муры «старога калегіума» (да сярэдзіны XVIII ст.).

– Муры новага калегіума (сярэдзіны – канца XVIII ст.).

– Мяркуемыя і страчаныя муры новага калегіума (сярэдзіны – канца XVIII ст.).

– Існуючыя і выяўленыя муры кадэцкага корпуса і шпіталя XIX – XX стст.

– Мяркуемыя і страчаныя муры кадэцкага корпуса і шпіталя XIX – XX стст.

– Розначасовыя пераробкі.

– Розначасовыя пліткавыя падлогі.

**Мал. 2**. План першага паверха корпуса «В», складзены на аснове планаў 1828 і 2006 гг. і назіранняў 2006–2008 гг. з пазначэннем нумарацыі памяшканняў і месцаў даследаванняў.




**Умоўныя пазначэнні**:

– Фрагменты будынкаў сярэдзіны XVII ст.

– Выяўленыя пліткі падлогі.

– Падмуркі печаў.

– Розначасовыя пераробкі XVII – XVIII стст.

– Частка будынка апошняй трэці XVII ст.

– Мяркуемыя часткі сцен.

– Мяркуемае размяшчэнне печаў і верагодныя абрысы скляпенняў.

– Часткі будынка канца XVII – першай паловы XVIII стст.

**Мал. 3.** Рэканструкцыя магчымай планіроўкі падвала і першага паверха старых пабудоў XVII – пачатку XVIII стст., якія папярэднічалі ўзвядзенню існуючага зараз корпуса «В», зробленая на аснове назіранняў 2006–2008 гг.

Верагодна, менавіта гэты каменны будынак, пазначаны ў артыкуле Ежы Пашэнды як «murowana część biblioteczna», і быў узведзены пасля пажару 1682 г., які знішчыў кнігі прафесараў [**5**, s. 526]. У выніку перабудоў гэтага будынка к сярэдзіне XVIII ст. у ім было 3–4 вялікія скляпеністыя памяшканні для захавання кніг. Яны мелі кафляныя печы і пліткавыя падлогі. Падчас даследавання апошніх быў выяўлены слой попелу і вуголляў. На паверхні плітак моцны нагар. Гэта рэшткі пажару сярэдзіны XVIII ст., які знішчыў «сціплы калегіум» і паклаў пачатак узвядзенню існуючага зараз ансамбля. Падчас яго ўзвядзення гэты будынак быў перакрыты корпусам «В» сярэдзіны XVIII ст. на $^3/_4$. Пры гэтым будаўнікам давялося спрамляць старую пабудову, вось чаму паўночны фасад корпуса «В» і зараз мае ламаную лінію, часткова «схаваную» руставанымі пілястрамі **(мал. 4 і 5)**.

Назіранні паказалі, што корпус «В» сярэдзіны XVIII ст. першапачаткова быў аднапавярховым, толькі ва ўнутраны дворык «глядзелі» дзве мансарды над усходнім і заходнім канцамі будынка.

Сёння гэта адзіны корпус калегіума, дзе зафіксаваны вельмі шырокі ўжытак лякальнай цэглы. Знойдзеныя ўзоры цаглін з увагнутымі і выпуклымі тарцамі прызначаліся для карнізаў і павінны былі палепшыць і паскорыць іх выцягванне падчас тынкоўкі будынка. Карнізы з цэглы падобнага кшталту былі як звонку, так і ў інтэр'ерах памяшканняў. У інтэр'ерах карнізы мелі не толькі дэкаратыўны, але і канструктыўны характар – на іх абапіралася апалубка пад скляпенні. На фасадах лякальнай цэглай быў аздоблены завяршаючы карніз над першым паверхам і завяршэнні руставаных пілястраў, таксама яны былі і ў карнізах мансардаў **(мал. 6 і 7)**. Гэтыя карнізы ёсць у памяшканнях № 1 і 3.

Падчас будаўніцтва корпуса асноўны цяжар будынка быў размеркаваны на падмуркі прадольных сцен, а папярочныя, у тых месцах, дзе не было падвалаў, замяніліся магутнымі разгрузачнымі аркамі таўшчынёй у 1,5–2 цагліны. Пры гэтым памяшканні ў дадзеных частках корпуса мелі склепы вышынёй да 1,2 м, а падлогі пакояў былі драўляныя і, магчыма, дадаткова пакрытыя керамічнымі пліткамі ў мэтах супрацьпажарнай бяспекі. Падобныя склепы мелі памяшканні № 1, 3–5. Там жа, каля падвала, праз увесь корпус праходзіў скляпеністы каналізацыйны тунэль, праз яго за межы будынка выводзіліся сцёкі з квасной і пякарні **(мал. 4 і 8)**. Вышыня гэтага тунэля была каля 1,0–1,2 м, і ён меў ухіл у паўночным накірунку. З паўднёвага фасада ён меў аркавае акенца вышынёй каля



**Умоўныя пазначэнні:**

 – Часткі сцен і скляпенняў «сціплага» (старога) калегіума, збудаванага да сярэдзіны XVIII ст.

 – Сцены, збудаваныя ў сярэдзіне XVIII ст., пасля гэтага будынак набыў назву «стары калегіум» у процівагу новаму трохпавярховаму.

**Мал. 4**. Рэканструкцыя магчымай першапачатковай планіроўкі падвала корпуса «В» у сярэдзіне XVIII ст., зробленая на аснове плана 1828 г. і назіранняў 2006–2008 гг.




**Умоўныя пазначэнні**:

– Часткі сцен і скляпенняў «сціплага» (старога) калегіума, збудаванага да сярэдзіны XVIII ст.

– Сцены, збудаваныя ў сярэдзіне XVIII ст., пасля гэтага будынак набыў назву «стары калегіум» у процівагу новаму трохпавярховаму.

– Цагляныя і пліткавыя падлогі сярэдзіны XVIII ст.

– Пліткавыя падлогі, збудаваныя з матэрыялаў ад разборкі «сціплага калегіума».

**Мал. 5**. Рэканструкцыя магчымай першапачатковай планіроўкі першага паверха корпуса ў сярэдзіне XVIII ст., зробленая на аснове плана 1828 г. і назіранняў 2006–2008 гг.



**Мал. 6**. Завяршэнне руставанай пілястры з лякальнай цэглы на заходнім фасадзе будынка.



**Мал. 7**. Вянчальны карніз з лякальнай цэглы на паўночным фасадзе будынка.



**Мал. 8**. Скляпенне каналізацыйнага тунэля.

1,0 м. Праз яго можна было, схіліўшыся, прайсці да паўночнай сценкі будынка. Дзякуючы гэтаму яго зручна было прачышчаць. У паўночнай сцяне аркавы праём, які вёў у тунэль, быў больш за паўднёвы і першапачаткова пераходзіў у драўляны латок, які знаходзіўся ў той час пад самым брукам двара [**4**, с. 44].

Новыя памяшканні падвала былі дабудаваны паміж падвалам старога будынка і сутарэннем былой вежы. Мuроўка сцен некаторых з іх змешаная – рады камянёў 20–50 см у дыяметры перамяжаліся з 3–4 радамі цаглін. Першапачаткова стары і новы падвал былі ізаляванымі адзін ад аднаго. Уваход у новы падвал першапачаткова знаходзіўся ў памяшканні № 7, а стары – у памяшканні № 10, побач з ім і зараз пад зямлёй захаваліся рэшткі сценак лесвіцы **(мал. 4)**. Паміж памяшканняў падвала, што засталіся ад старога будынка, было зроблена ізаляванае ад усіх астатніх дадатковае памяшканне. Яно з’яўлялася патаемным і мела асобны ўваход з вуліцы. Да яго вяла цагляная лесвіца, што знаходзілася пад усходнімі дзвярамі калідора. Пазней гэтае памяшканне было ліквідавана, і на плане 1828 г. уваход у яго ўжо не пазначаны. На яго месцы зафіксаваны ганак перад усходнімі дзвярамі калідора пер-

шага паверха. Над засыпанай зямлёй лесвіцай была зроблена адмостка з лякальнай і звычайнай цэглы-пальчаткі, якая не мела слядоў рошчыны (памяшканне № 18) [**4**, с. 44].

Збудаваны корпус першапачаткова быў аднапавярховым і ў цэнтральнай частцы меў калідорную планіроўку з памяшканнямі. З абодвух бакоў у калідор выходзілі дзверы келляў і некаторыя пячныя праёмы. Памяшканні № 1–4, 10–13, 16 былі ізаляваны ад калідора. Назіранні за пашкоджаннай муроўкай сцен паказалі, што ён мог мець перагародкі, якія яго падзялялі на тры часткі. Ва ўсходняй і заходняй частках знаходзіліся цагляныя лесвіцы. Для іх падчас будаўніцтва ніжэй ўзроўню падлогі былі зроблены магутныя аркі таўшчынёй у цагліну і шырынёй каля 1,5–1,6 м. Самі лесвіцы таксама ўяўлялі сабой аркі ў чвэрць круга, якія адным канцом абапіраліся на аркі-перамычкі, а другім – на скляпенне калідора. У заходняй частцы калідора была толькі лесвіца ў мансарду, ва ўсходняй – лесвіца вяла не толькі ў мансарду, але, магчыма, і ў падвал. Падлога ў калідоры першапачаткова, верагодна, была часткова драўлянай, часткова пліткавай. У тарцах калідора былі дзверы; іх рамы, магчыма, мелі ўверсе зашклёныя фрамугі для асвятлення.

Печы келляў корпуса «В» практычна не адрозніваліся па канструкцыі і аздабленні ад печаў карпусоў «А» і «Г». Большасць з іх ацяплялася з боку калідора ці суседняга памяшкання. Лепей захаваліся печы ў памяшканнях № 1, 4, 14 і 16, якія ацяпляліся з саміх памяшканняў. Ад печаў ў памяканнях № 1 і 16 ацалелі толькі падмуркі. Падчас іх вывучэння ўдалося высветліць, што яны былі прастакутнымі.

Найлепей захавалася печка ў памяшканні № 4, там, акрамя часткі падмурка, знойдзена праслойка бітай кафлі. Гэтыя рэшткі захаваліся дзякуючы існаванню пад гэтым памяшканнем вялікага склепа 1,2 м вышынёй, які пасля зносу печы быў хутка ліквідаваны. Падмурак гэтай печы, верагодна, меў выгляд паўцыркульнай аркі на каменных падэшвах. Таму пад печкай заставалася вольная прастора. З усходняга боку з камянёў быў выкладзены своеасаблівы кантрафорс, які не даваў падмурку «спаўзці» пад разгрузачную арку ўсходняй сцяны памяшкання. Знойдзеная праслойка бітай кафлі і чырвонай гліны перакрывала падмуркі. Уся цэлая кафля і цэгла былі выбраны. Сценавыя пласціны мелі незвычайны выгляд. Яны былі бязрамачныя і мелі прастакутныя неглыбокія нішы з прафіляванымі бакамі. Памеры пласцін сцена-

вых вырабаў былі 34х20х8,5 см. Знойдзены таксама тры віды карнізаў, даўжыня самага вялікага з іх дасягала 42 см. Гэтыя вырабы мелі дадатковыя гліняныя перагародкі ў румпе. Назіранні паказалі, што печка, верагодна, «глядзела» вусцем на поўдзень, дзе першапачаткова была вялікая ніша ў сцяне. Завяршаў печ высокі цагляны шацёр, пабелены крэйдай. Праз яго і праз дзірку ў скляпенні дым выходзіў у трубу. Адна сценка печы была з тэракотавай кафлі. Вельмі спецыфічнае размяшчэнне печы – паміж двума слупамі пасярэдзіне памяшкання. Гэта звязана з размяшчэннем сцяны мансарды амаль па цэнтральнай восі скляпення (па яго рабры жорсткасці). Таму будаўнікі былі вымушаны ссунуць печ з такім разлікам, каб яе дымаход прымыкаў да дымахода ў сцяне над першым паверхам [**4**, с. 45–46].

Няма практычна ніякіх звестак пра канструкцыю і аздобу пякарскай печы, што была ў памяшканні № 14. Вядома толькі, што яна мела падмурак з разгрузачных арак, кшталту тых, што пад сценамі корпуса. Верагодна, крыху пазней пад ёй быў зроблены склеп з цаглянай падлогай. Уваход туды быў з боку квасная.

Падлогі памяшканняў былі пераважна цаглянымі або пліткавымі, рабіліся яны на пясчанай альбо пясчана-глінянай падушцы. Толькі ў калідоры (яго заходняй частцы), як і ў памяшканні № 1–5, верагодна, мелася драўляная падлога, якая зверху магла быць абкладзена пліткамі. Таксама ў памяшканнях № 9 і 10 выкарыстоўвалася плітка ад разабраных старых пабудоў «сціплага калегіума».

Сцены і скляпенні ўсіх памяшканняў бяліліся крэйдай.

На падставе натурных назіранняў была праведзена спроба рэканструкцыі верагоднай першапачатковай планіроўкі падвала і першага паверха корпуса «В» [**4**, с. 51: Мал. 10]. Пры гэтым стала магчымым вылучыць рэшткі старых пабудоў, якія папярэднічалі ўзвядзенню корпуса і затым былі ўключаны ў яго структуру **(Мал. 4 і 5)**.

Згодна з інвентаром 1807 г., у будынку жылі хлебапёкі і музыкі, а таксама знаходзілася пякарня і частка сховішчаў для мукі і прадуктаў [**2**, с. 10].

Назіранні за размяшчэннем першапачатковых ніш і дзвярных праёмаў дазваляюць вызначыць і паспрабаваць зрабіць больш дакладную функцыянальную прывязку канкрэтных памяшканняў да сярэдзіны – другой паловы XVIII ст.

Так, памяшканне № 1 з'яўлялася келляй брамніка, адкуль можна было трапіць як ў трохпавярховы будынак, так і ў праязную арку.



**Мал. 9.** Рэканструкцыя часткі інтэр'ера памяшкання № 4 на аснове плана 1828 г. і даследаванняў 2006–2008 гг.

Сам праезд (памяшканне № 2) меў высокае скляпенне і нізкія праёмы з лучковымі перамычкамі. У сцяне паміж памяшканнямі № 1 і 2 была невялікая ніша, куды брамнік хаваў ліхтар і ключы. Зараз першапачатковыя абрысы арак праёмаў брам зменены – нязначна расчасаны, аб чым сведчаць фрагменты іх аздаблення. Далей было жылое памяшканне № 3, злучанае з памяшканнем № 4. Абодва мелі кафляныя печы і склепы пад драўлянымі падлогамі. Памяшканне № 3 першапачаткова мела тры глыбокія нішы ў заходняй сцяне і прафіляваныя вапнавыя карнізы, зробленыя па лякальнай цэгле [**4**, с. 43].

Памяшканне № 4 з двума слупамі, відаць, таксама першапачаткова было жылым альбо вытворчым, аб чым сведчаць рэшткі кафлянай печы. Яно злучалася з памяшканнем № 5 **(мал. 9)**. Верагодна, праз апошняе можна было трапіць у галоўны калідор корпуса.

Далей за ім размяшчаліся аднолькавыя келлі з цыліндрычнымі скляпеннямі – гэта памяшканні № 6, 8, 9. Гэтыя келлі былі падоб-

ны на келлі карпусоў «А» і «Г», але мелі меншую колькасць нішаў і цыліндрычныя тонкія скляпенні. Падобныя да іх келлі, толькі больш вузкія, знаходзіліся на другім паўднёвым баку калідора. Частка іх была жылой, частка выкарыстоўвалася пад сховішчы. Падлогі іх былі пліткавымі ці цаглянымі, як, напрыклад, у памяшканнях № 9 і 16. Тут жылі хлебапёкі. Кожная келля мела адно акно і глыбокую нішу побач з ім, справа ці злева ад дзвярэй знаходзілася печ, якая палілася з боку калідора. Форма, аздабленне і канструкцыя печаў гэтых памяшканняў былі падобны на печы келляў карпусоў «А» і «Г».

Памяшканне № 14 было пякарняй і квасной, першапачаткова мела чатыры вакны і цагляна-пліткавую падлогу. Пасярэдзіне знаходзіўся слуп для падтрымкі скляпенняў, за якім была схавана вялікая печ. Яна мела некалькі вялікіх дымаходаў, для якіх на паддашшы меліся акенцы для прачысткі. На поўдзень ад печы была квасная, адтуль можна было трапіць у склеп пад яе падмуркамі, там жа, магчыма, былі адтуліны і латкі-злівы ў каналізацыйны тунэль, які праходзіў праз увесь будынак.

Памяшканне № 10 было цалкам ізаляваным ад астатніх і мела ўваход з вуліцы ў выглядзе драўлянага ганка над уваходам у падвал. Тут, верагодна, была кладоўка. Магчыма, яго дзвярны праём меў фрамугу ці акенца для асвятлення. Рэшткі прабітай сцяны, што захаваліся ў паўднёвай частцы скляпення, дазваляюць меркаваць, што, верагодна, старажытны ўваход у падвал з лесвіцай XVII–XVIII стст. мог існаваць непрацяглы час і пасля будаўніцтва корпуса «В»; пазней ён быў ліквідаваны і заменены пячным праёмам. Само ж памяшканне было пашырана за кошт старажытнай лесвіцы і набыло сучасныя памеры. Застаецца пытанне, ці мела гэта памяшканне першапачаткова ацяпленне, бо ніякіх прыкмет існавання печы не выяўлена. [**4**, с. 47]. Тут магла быць адна з кладовак.

Памяшканні № 11–13 таксама былі цалкам ізаляванымі і мелі свой уваход з вуліцы; тут, верагодна, жылі музыкі і ім не перашкаджала праца пекараў. Памяшканне № 12 з'яўлялася сенямі, куды выходзілі дзверы і пячныя праёмы сіметрычных келляў. Перад акном у паўднёвай сцяне ў скляпенні быў квадратны лаз **(мал. 10)** і знаходзілася драўляная вінтавая лесвіца, якая вяла ў мансарду. Келлі музыкаў першапачаткова планаваліся сіметрычнымі, яны мелі па тры вакны і глыбокія шырокія нішы для печак. Але падчас будаўніцтва ў першапачатковы праект былі ўнесены змены. Пячны праём у памяшканні № 11 быў ліквідаваны



**Мал. 10**. Замураваны лаз у мансарду з памяшкання № 12.

і перабудаваны ў дымаходы для пліт (?). Ацяпляльная печка, верагодна, была перанесена ў супрацьлеглы вугал памяшкання. У памяшканні № 13 усё было без змен, праз яго можна было трапіць у трохпавярховы корпус. Падлогі памяшканняў былі пліткавымі.

Мансарды, якія існавалі да будаўніцтва другога паверха, дазвалялі трапіць у любую частку будынка. Заходняя мансарда над памяшканнямі першага паверха № 1–4 таксама злучала гэты корпус з трохпавярховымі і з'яўлялася прахадной. Усходняя мансарда злучала жыллё музыкаў з памяшканнямі хлебапёкаў, у сцяне зафіксаваны рэшткі дзвярнога праёму, які вёў на пляцоўку перад лесвіцай з боку калідора. Гэта мансарда, верагодна, магла выкарыстоўвацца для рэпетыцый. Прыкмет рэштгкаў печаў першапачатковага ацяплення мансардаў знайсці не ўдалося; верагодна, яно адбывалася за кошт дымаходаў ад печаў першага паверха.

Такім чынам, на падставе натурных назіранняў і вядомых пісьмовых крыніц можна паспрабаваць аднавіць першапачатковую планіроўку і функцыянальнае прызначэнне канкрэтных памяшканняў. На падставе атрыманых звестак можна зрабіць наступныя вывады:

- падчас узвядзення будынка дойліды максімальна захавалі і выкарысталі рэшткі старых пабудоў у структуры новага корпуса, пры гэтым яны шырока ўжывалі будаўнічыя матэрыялы ад іх разборкі, што адбілася на аздабленні, планіроўцы і знешнім выглядзе будынка: памяшканні першага паверха маюць крывыя абрысы, розныя дзвярныя праёмы, паўночны фасад мае ламаную лінію, «схаваную» руставанымі пілястрамі;

- першапачаткова «стары калегіум», як называлі корпус «В» самі езуіты, быў аднапавярховы, ва ўнутраны дворык «глядзелі» дзве мансарды, якія прамыкалі да трохпавярховага будынка новага калегіума; цэнтральная частка будынка мела больш высокі дах, магчыма, ламанай формы;

- шырока ўжывалася ў фасадах і інтэр'ерах будынка лякальная цэгла ў якасці дэкаратыўна-канструктыўнага элемента;

- пасля будаўніцтва корпус «В» меў з паўночнага фасада два ўваходы ў сутарэнні і пяць — на першы паверх;

- сярод памяшканняў падвалаў старога будынка быў збудаваны тайнік (памяшканне № 18 па плану падвалаў і падмуркаў 2006 г.);

- першапачатковы абрыс аркі брамы зараз зменены і расчасаны;

- памяшканне № 1 (прывязка да плана 2006 г.) было келляй брамніка;

- памяшканні № 3 і 4 першапачаткова служылі жылымі ці вытворчымі і мелі вялікія склепы; ад калідора яны былі ізаляваны;

- памяшканне № 5 было халодным, яно магло мець вытворчае прызначэнне ці выконваць ролю сховішча, магло злучацца як з калідорам, так і з памяшканнем № 4;

- памяшканні № 6, 8, 9 былі першапачаткова жылымі келлямі пекараў, квасавараў, аналагічныя келлі былі і на паўднёвым баку будынка;

- пякарня і квасная знаходзіліся побач у памяшканні № 14; квасная была прахадной, абсталяванай прахадным каналізацыйным тунэлем і склепам пад печчу;

- памяшканне № 10 было цалкам ізалявана ад астатніх пакояў першага паверха, мела самастойны ўваход са двара і высокі ганак — тут была кладоўка; ганак памяшкання быў драўляны, у выглядзе пляцоўкі з лесвіцай, яго падмурак утваралі цагляныя сценкі лесвіцы, якая вяла ў сутарэнні падвалаў старога будынка;

- памяшканні № 11–13 належалі музыкам, як і мансарда другога паверха; з келлямі яна злучалася драўлянай лесвіцай і выкарыстоўвалася для рэпетыцый, а таксама праз яе можна было трапіць і да пекараў.

**Спіс літаратуры і крыніц**

1. Глинник, В.В. Благоустройство территории комплекса иезуитского коллегиума в г. Полоцке. Комплексные научные изыскания / В.В. Глинник. – Минск, 2004. – 53 с.

2. Кукуня, О. Историко-культурная ценность иезуитского коллегиума в г. Полоцке (Корп. «Б» и «В»): историко-архивные и библиографические исследования / О. Кукуня, В. Соболь. – Минск, 2001. – 30 с.

3. Салаўёў, А.А. Каменныя будынкі Полацкага езуіцкага калегіума апошняй чвэрці XVII – першай паловы XVIII стст. (па выніках натурных даследаванняў корпуса «В») / А.А. Салаўёў // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку): зб. навук. прац рэсп. навук.-практ. семінара, Полацк, 20–21 лістап. 2008 г. / пад агульн. рэд. Д.У. Дука, У.А. Лобача. – Наваполацк: ПДУ, 2009. – С. 70–79.

4. Салаўёў, А.А. Натурныя даследаванні падвала і першага паверха корпуса «В» былога езуіцкага калегіума ў Полацку / А.А. Салаўёў // Вестн. Полоц. гос. ун-та. Сер. А. Гуманитарные науки. – 2010. – № 1. – С. 42–51.

5. Paszenda, J. POŁOCK / J. Paszenda // Encyklopiedia wiedzy o jezuitach na ziemiach Polski i Litwy 1564–1995. – Kraców, 1996. – S. 524–527.

*Смирнова Т.Р.*

## Реализация музейно-педагогической программы для детей 4-х лет «Учимся смотреть и видеть, слушать и слышать». Опыт, поиски, перспективы

Одной из тенденций развития современной системы дошкольного образования является разработка вопросов моделирования образовательной среды, которая предстаёт как многомерное пространство, адекватное потребностям современного дошкольника и соответствующее направлениям развития культуры общества.

Известными педагогами, такими как Л.С. Выготский, Я.Л. Коломинский, Е.А. Панько, давно доказан факт, что успешность школьного обучения определяется не наличием большого запаса знаний у будущих первоклассников, а полученной в дошкольном детстве способностью самостоятельно извлекать из окружающей среды эти знания и аккумулировать их. Не случайно перед педагогом дошкольного учреждения стоит задача научить учиться своих воспитанников, сформировать умение самостоятельно добывать из спонтанной, а также специально созданной взрослыми развивающей среды, знания и применять их в жизни. Именно это позволяет развивать и совершенствовать детскую любознательность, инициативность, самостоятельность, творчество.

Образовательный процесс не может осуществляться вне определённого социального, пространственного и предметного окружения, называемого образовательной средой. Она выступает, во-первых, в качестве источника разнообразного культурного опыта, во-вторых, как совокупность условий успешного усвоения опыта.

Элементы культуры, сосредоточенные в окружающей ребёнка среде и специально отобранные педагогом для решения поставленных образовательных задач, становятся образовательными ресурсами. Соответственно, чем больше образовательных ресурсов содержит среда, тем она богаче, тем больше воздействия оказывает на развитие ребёнка.

Требование уважения к интересам и потребностям ребёнка предполагает предоставление ему свободы исследования, резерва свободного места и времени. Необходимо активизировать самостоятельную поисковую активность детей, побуждать их творчески относиться к выполняемой деятельности, к самовыражению и импровизации в процессе её выполнения. Для этого следует соблюдать следующие условия:

- разнообразие и сменяемость предметной среды, окружающей ребёнка;
- включение в неё максимального количества предметов взрослого обихода.

Учитывая эти тенденции, мы предложили администрации и педагогам дошкольного учреждения № 29 г. Полоцка средствами и методами музейной педагогики обеспечить повышение эффективности образовательной развивающей среды.

Экспериментальная работа началась с 1999 года. Была сформирована творческая группа, в которую вошли: психолог дошкольного учреждения, методист дошкольного учреждения, воспитатели экспериментальных групп, научные сотрудники Национального Полоцкого историко-культурного музея-заповедника; выработан план деятельности, разработаны этапы эксперимента, определены цели и задачи.

Основные цели экспериментальной работы:

- сформировать музейную культуру у детей дошкольного возраста, воспитать гордость за свой город и его историческое наследие;
- обеспечить максимальную включённость педагогов учреждения, родителей в проблемы музейной педагогики.

Соответственно, нами были определены следующие задачи:

- Повысить эффективность развивающей среды, разнообразить предметную среду, окружающую ребёнка в детском саду, путём создания дидактических игр на музейную тему.
- Подготовить ребёнка к восприятию музейного предмета.
- Разработать и адаптировать диагностические методики по изучению влияния музейно-педагогических занятий на интеллектуальное и эмоциональное развитие детей дошкольного возраста.
- Углубить знания педагогов об истории города, познакомить с экспозициями музеев города, обеспечить методической и научной литературой, дидактическими пособиями.

Экспериментальную работу мы предполагали провести в два этапа.

На первом этапе, который проходил с 1999 по 2001 год, мы проводили наблюдения за детьми на музейно-педагогических занятиях, проводимых в экспозициях музеев заповедника. Целью этих наблюдений было:

- Определить влияние занятий на развитие психических процессов, на формирование эмоциональной сферы и общего интеллектуального развития детей.
- Разработать варианты предварительной работы с детьми, подготовки их к посещению музеев.

**Результаты работы на первом этапе позволили нам сделать следующие выводы**:

Музейно-педагогические занятия с детьми 5–6 лет по программе «Здравствуй, музей!» положительно влияют на развитие эмоциональной сферы, формируют речемыслительную деятельность, воспитывают музейную культуру детей.

Система адаптивных занятий, проводимых на базе детского сада, позволила подготовить детей к быстрому восприятию информации о музейном предмете, способствовала более быстрой адаптации детей в музейном пространстве. Система обобщающих занятий позволила ввести в активный словарный запас слова музейной терминологии.

На втором этапе, который проходил с 2002 по 2008 год, мы планировали обеспечить преемственность между детьми 4-х, 5-и, 6-и лет в изучении истории предметного мира.

Мы выдвинули **гипотезу**: целенаправленная работа с детьми 4-х лет поможет нам:

- сформировать у них умения видеть, исследовать и действовать с предметным миром;
- помочь им осмыслить, что предметы и вещи окружающего мира созданы не только руками, но и разумом человека;
- обеспечить более качественное и осознанное восприятие научно-исторической информации;
- сформировать и расширить словарный запас дошкольников.

На протяжении этих лет в своей экспериментальной работе мы использовали разные методики проведения занятий, тренинги, беседы, игры, изменяли время первого знакомства с музейным предметом. Работа обеспечивалась психолого-педагогическим сопровождением. Отдельно проводились консультации с педагогами. Педагогов

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дом Кузьменка | Лаўка бакалейным таварам | Моўша Юдаў Левін, пол. 2 гільд. купец | Пасведчанне 2 гільд., Білет 2 гільд., Тытунёвы патэнт | | 200 | 90 | 17 000 | 6 % | 79 год, жонка Рыва 28, дзеці 18 і 12 год |
| Дом Кузьменка | Лаўка з мануфактурным таварам | Моўша Юдаў Левін, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя жонкі Рывы | | 150 | 90 | 3 000 | 7 % | |
| Дом Кузьменка | Лаўка мануфактурным таварам | Міхель Іоселеў Драбкін, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя жонкі Эстэр | | 80 | 70 | 2 000 | 7 % | |
| Дом Кузьменка | Лаўка мануфактурным таварам | Моўша Рафаілаў Вельтман, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя жонкі Ханы | | 70 | 80 | | | |
| Дом Баркана | Лаўка з бакалейным таварам | Берка Лейзераў Іофін, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя жонкі Бэйлі | | 100 | 120 | | | |
| Дом Вітэнберга | Мануфактурная лаўка | Шліом Вульфавіч Ліберман, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя сястры Груні | | 80 | 120 | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дом Вітэнберга | Мануфактура | Берка Лейзераў Іофін, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя нявесткі Сімы Гуты | | 80 | 120 | 3 000 | 7 % | |
| Дом Вітэнберга | Мануфактура | Міхель Іоселеў Драбкін, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя сына Шмуйлы | | 110 | 70 | | | |
| Дом Вітэнберга | Мануфактурны тавар | Міхель Іоселеў Драбкін, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя жонкі куп. сына Расты | | 80 | 70 | | | |
| Дом Баркана | Лаўка з мануфактурным таварам | Лейба Шмуйлаў Левіт, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя дачкі Ніхамы | | 60 | 40 | | | |
| Ніжнебазарная плошча | Лаўка мануфактурным таварам | Берна Лейбаў Фаенсон, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя сына Элы | | 60 | 120 | | | |
| Дом Беразоўскага (?) | Лаўка мануфактурным таварам | Давід Міхелеў Авербух, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя жонкі Рохлі | | 90 | 800 | 2 000 | 7 % | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дом Міркоўскага | Карчма | Неўха Шмуйлавіч Міркоўскі, пол. мешчанін | Пасведчанне 2 гільд., Білет 2 гільд, Акцызны патэнт | | 150 | 40 | 3 000 | 10 % | |
| Дом Міркоўскага | Бакалея Прыказчык 2 кл. | Абрам Іцыкаў Гінзбург | Пасведчанне 2 гільд., Білет 2 гільд., Заг. пасведчанне на імя пол. мешч. Ц. Будневіча | | 100 | 220 | 20 000 | 6 % | |
| Спаская вуліца Дом Гардзіна | Фатаграфія 1 апарат 1 вучань | Густаў Іосіфаў фон Дуглас, дваранін | Білет 2 гільд. | 1 | 20 | 100 | 2 000 | 10 % | |
| Дом уласны | Тытунёва-махорачная крама Прыказчык 2 кл. | Янкель Лейзераў Рыўлін, пол. 2 гільд. купец | Пасведчанне на права захоўвання і аптовага продажу, Дав. на імя жонкі Няхамы Іосілевай, Заг. пасведчанне 2 кл. на імя пол. мешчаніна Абрама Магіда | 1 | 60 | 120 | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дом Ізраеліта | Свіран з ільном | Мендзель Равідаў Вегрын, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Давер. на імя жонкі Гінды | 1 | 200 | 120 | 30 000 | 3 % | |
| Дом Іофіна | Лаўка са скураным таварам | Берка Лейбаў Фаенсон, пол. 2 гільд. купец | Пасведчанне 2 гільд., Білет 2 гільд. | 2 | 130 | 120 | 10 000 | 6 % | |
| Дом Іофіна | Аптовы склад віна і спіртоў | Берка Лейзераў Іофін, пол. 2 гільд. купец | Пасведчанне 2 гільд., Акцызны патэнт | 1 | 100 | 120 | 30 000 | 2 % | 66 год, жонцы 66 год |
| Дом уласны | Карчма | Берка Лейзераў Іофін, пол. 2 гільд. купец | Пасведчанне 2 гільд., Акцызны патэнт, даверанасць на імя сына Ельі | 1 | 80 | 120 | 30 000 | 2 % | сыну 44 гады |
| Дом Рыўліна | Карчма Прыказчык 2 кл. | Янкель Лейзераў Рыўлін, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Акцызны патэнт, Загад. пасведчанне 2 кл. на імя пол. мешч. | 1 | 80 | 120 | 60 000 | 10 % | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дом уласны | Свіран з ільном | Арон-Арый Хацкелеў Эмануэль, суражскі мешчанін | Білет 2 гільд. | | 150 | 300 | 18 000 | 3 % | |
| Дом уласны | Тытунёва-махорачная фабрыка Колькасць рухавікоў 14 Дарослых 40 | Янкель Лейзераў Рыўлін | Пасведчанне 2 гільд., Тыту-нёвы патэнт, Даверанасць на імя сына Шалома | 6; -; 2 | 300 | 1 200 | | | 60 год, жонка Няўмама Іоселеева 57 год, сыну 33 гады |
| Дом уласны | Аптовы склад жалеза | Бейнус Беркаў Вітэнберг, смаленскі 1 гільд. купец | Білет 1 гільд., Даверанасць на імя дачкі Эстэр | 2 | 200 | 450 | 10 000 | 5 % | |
| Азараўская вуліца Дом уласны | Свіран з ільном | Мендзель Давід Вегрын, пол. 2 гільд. купец | Пасведчанне 2 гільд., Білет 2 гільд. | 2; -; 1 | 80 | 120 | | | 42 гады |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дом уласны | Тытунёва-махорачная фабрыка<br>5 р. станкоў, 2 ступы, 1 прэс, 1 жарон<br>Дарослых 20 | Маісей Рафаілавіч Коц, пол. 2 гільд. купец | Пасведчанне 2 гільд., Тытунёвы патэнт | 2 | 200 | | | | Коц 55 год, жонка Сора 45 Тытуню набыта на суму 8 000 р., Бандэроляў 9 200 р. |
| Рыжская вуліца<br>Дом уласны | Піўная лаўка<br>1 прыказч. 2 кл. | Еханон Іоселеў Гардзін, пол. 2 гільд. купец | Акцызны патэнт, прыказ. пасведчанне 2 кл. на імя дзвін. мешч. Рохі Барона | 1 | 24 | 36 | 1 000 | 10 % | |
| Прабойная вуліца<br>Дом Брэгіна | Фатаграфія<br>1 апарат,<br>1 вучань | Абрам Шыф, пол. мешчанін | Білет 2 гільд. | 1 | 40 | 80 | 1 000 | 10 % | |
| Надзвінская вуліца<br>Дом Гардзіна | Крама фаянсавых і крыштальных вырабаў | Іцын Хаімавіч Грынзайд, пол. 2 гільд. купец | Пасведчанне 2 гільд., Білет 2 гільд., Даверанасць на імя дачкі Нямы, Заг. пасведчанне 2 кл. на імя пол. мешч. Ламаносава | | | | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дом Гардзіна | Лаўка галантарэйным таварам | Іцын Хаімаў Грынзайд, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверанасць на імя дачкі Двейры | | 120 | 120 | 3 000 | 7 % | дачцэ 22 гады |
| Дом Гардзіна | Рэйнскавы склеп Прыказчык 1 кл. | Валерыян Аляксандравіч Цітоў, сапраўдны стацкі саветнік | Пасведчанне 2 гільд., Білет 2 гільд., Акцызны патэнт, Тытунёвы патэнт, Дагавор аб найме, Заг. пасведчанне на імя пол. мешч. Дзмітрыя Лісіцы | 1 | 200 | 80 | 60 000 | 5 % | |
| Дом Гардзіна | Лаўка галантарэйным таварам Прыказчык 2 кл. | Цэвель Іоселеў Гейлікман, пол. 2 гільд. купец | Білет 2 гільд., Даверан. на імя сына Сімона, Заг. пасведчанне 2 кл. на мешч. | | 200 | 130 | 4 000 | 7 % | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дом Сарокіна | Карчма Прыказчык 2 кл. | Усціння Цэрэнц Лебедзева | Білет 2 гільд., Акцызны патэнт, Заг. пасведчанне на імя сял. Кацярыны Раманоўскай | 2 | 300 | 40 | 1 200 | 10 % | |
| Задзвінская вуліца Дом уласны | Аптовы склад віна і спірту Прыказчык 1 кл. | Борух Вульфаў Мінкаў, пол. 2 гільд. купец | Акцызны патэнт, Хатні дагавор аб найме з Бірманам, Заг. пасведчанне 1 кл. на імя лепельск. мешчан. Ніды Шмуйлава Бірмана | | 80 | 70 | 19 000 | 2 % | |
| Дом уласны | Аптовы склад віна і спірту | Шмуйла Юдаў Гудовіч, пол. 2 гільд. купец | Пасведчанне 2 гільд., Акцызны патэнт | | 120 | 120 | | | |

МАТЭРЫЯЛЫ КАНФЕРЭНЦЫІ

**СКАРЫНАЎСКІЯ ЧЫТАННІ:**

**да 20-годдзя Музея беларускага кнігадрукавання**

*Ашуева В.Я., Джумантаева Т.А.*

## Музей беларускага кнігадрукавання: гісторыя і сучаснасць

У сучаснай культуры музей з’яўляецца шматфункцыянальным сацыякультурным інстытутам, адным з асноўных кампанентаў сферы культурнай спадчыны. Пашырэнне межаў музейнай дзейнасці сведчыць аб тым, што яна набывае ўсё большае сацыякультурнае значэнне. Музей стаў месцам развіцця культурнай разнастайнасці, якая ў сваю чаргу стала характэрнай рысай сённяшняга жыцця, здольнай супрацьстаяць глабальнай культуры і глабальнай ідэнтычнасці.

Старажытны Полацк захаваў шматгадовыя музейныя традыцыі, таму стварэнне буйнога музейнага аб’яднання на яго тэрыторыі было відавочнай справай. Пастановы ўрада 1967–1985 гг. былі своечасовым працягам тэндэнцыі да неабходнасці захавання спадчыны ў новых умовах і на новай юрыдычнай базе.

Пасля распаду СССР і звядзення да мінімуму бюджэтных асігнаванняў на культуру ўскладніўся стан утрымання культурна-гістарычнай спадчыны. Незалежныя дзяржавы, у тым ліку і Рэспубліка Беларусь, былі пастаўлены перад праблемай прыняцця рашучых мер па захаванні спадчыны. Станоўчыя вынікі ў дасягненні мэт належнага захавання і годнага выкарыстання гісторыка-культурнай спадчыны можна будзе атрымаць толькі пры ўмове ўсведамлення ўсіх асаблівасцей нацыянальнай культуры і выкарыстання назапашанага папярэднімі пакаленнямі вопыту ў гэтай справе. Адсюль вынікае неабходнасць вывучэння працэсаў інтэрпрэтацыі, рэстаўрацыі, кансервацыі, музеефікацыі і прэзентацыі культурнай спадчыны нашай краіны і асобных гістарычных тэрыторый. Сёння праблема захавання гісторыка-культурнай спадчыны стала вельмі актуальнай. Адным з найбольш аптымальных спосабаў яе захавання і выкарыстання з’яўляецца яе музеефікацыя.

У рамках дзейнасці Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, які на працягу многіх год актыўна займаецца рознымі відамі музеефікацыі помнікаў, адбываецца аб’яднанне

функцыі захавання і выкарыстання спадчыны шляхам уключэння музеефікаванага асяроддзя ў сучасную культуру. Адначасова самі музеі (у склад запаведніка ўваходзяць 11 музеяў) пад уплывам музеефікацыі архітэктурных, археалагічных помнікаў і ўнікальнай гістарычнай тэрыторыі горада змяняюць свае традыцыйныя формы і, як вынік, становяцца поліфункцыянальнымі культурнымі цэнтрамі. Але, як і раней, яны застаюцца аднымі з важнейшых сімвалаў дзяржаўнасці, інстытутамі фарміравання самасвядомасці і падтрымкі нацыянальнай самаідэнтычнасці.

Да музея мае адносіны не столькі экспазіцыя, колькі наша ўнутраная патрэбнасць узнаўляць і трансфармаваць сувязі з мінулым, якое праходзіць і адначасова застаецца ў нашай памяці і адчуваннях. Розныя пакаленні не выцясняюць адно другое, а дапаўняюць. І гэтую функцыю (фіксацыі працэсаў) у культуры бярэ на сябе музей. Музей і музейнасць — гэта характарыстыка развіцця культуры ў пераломныя, крызісныя эпохі, калі культура ўжо не здольна ў поўнай меры ўсвядоміць сваю разнастайнасць. У такія перыяды музей, які збірае асколкі страчанай цэласнасці, і яго ўзрослая роля ў культуры становяцца кропкамі асаблівай увагі і крытыкі.

Аб’ектамі музейнага паказу сталі не толькі артэфакты, але і археалагічныя, архітэктурныя помнікі, ансамблі гарадской забудовы і гістарычныя ландшафты. Кваліфікаваныя супрацоўнікі запаведніка, прааналізаваўшы грамадскую думку і патрабаванні наведвальнікаў (у першую чаргу жыхароў Полацка), накіравалі сваю дзейнасць на музеефікацыю ўнікальнай гістарычнай тэрыторыі горада. У выніку з’явіліся новыя экспазіцыйныя ідэі, музейная педагогіка стала самастойным напрамкам работы, у музейнай практыцы сталі выкарыстоўвацца камп’ютарныя тэхналогіі і іншыя інавацыі. Развіццё мультымедыйных тэхналогій адкрыла новыя магчымасці для выхаду музеяў Полацка ў сусветную культурную прастору.

Адным з самых паказальных у адносінах да сказанага вышэй стаў ***Музей беларускага кнігадрукавання***, адчынены ў 1990 г. на радзіме беларускага першадрукара Францыска Скарыны ў сувязі з яго 500-годдзем, адзначыць якое ЮНЕСКА прызвала ўсё сусветнае грамадства.

Міністэрствам культуры БССР яшчэ ў 1987 г. было прынята рашэнне аб стварэнні ў 1990 г. ў Полацку Музея. З гэтай нагоды быў даследаваны і адрэстаўраваны помнік архітэктуры канца XVIII ст. — былы жылы

корпус Богаяўленскага манастыра (Брацкая школа), пабудаваны паводле праекта знакамітага італьянскага архітэктара Джакома Кварэнгі. Археалагічныя даследаванні помніка праводзіліся пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук Генадзя Сагановіча. Аўтарам праекта рэстаўрацыі Брацкай школы стаў Віктар Калечыц.

Археалагічнае і архітэктурнае даследаванне помніка дало шмат цікавай інфармацыі і некалькі рарытэтных артэфактаў, сярод якіх вядомы па публікацыях залаты пярсцёнак XII ст. са шкляной устаўкай і амфара вялікіх памераў (XVII ст.), якая цалкам захавалася.

Стварэннем экспазіцыі музея займалася група навуковых супрацоўнікаў запаведніка (В.І. Траццякова, В.Д. Краско, Т.А. Джумантаева) пад кіраўніцтвам Галіны Пятроўны Ладзісавай. Над мастацкім рашэннем экспазіцыі працавалі наваполацкія мастакі Сяргей Дзмітрыеў і Ігар Куржалаў.

Музей быў урачыста адчынены 8 верасня 1990 года. У гэтыя дні ў Полацку святкавалася 500-годдзе з дня нараджэння Францыска Скарыны. У горадзе праходзілі розныя мерапрыемствы, прысвечаныя памяці славутага палачаніна. Полацк сабраў мноства гасцей з Беларусі і розных гарадоў былога СССР, сярод якіх былі вядомыя навукоўцы Юрый Лабынцаў (Масква) і Мікола Нікалаеў (Санкт-Пецярбург). Ганаровым госцем свята стаў Адам Мальдзіс, які з'яўляўся адным з ініцыятараў стварэння музея і адкрыцця яго менавіта ў Полацку. Дзякуючы А. Мальдзісу Полацк у тыя дні наведаў Стэнлі Скарына — нашчадак Францыска Скарыны ў чатырнаццатым пакаленні, доктар медыцыны і біялогііі, прафесар Манрэальскага ўніверсітэта ў Канадзе. Прымалі ўдзел у мерапрыемствах і афіцыйныя асобы на чале з тагачасным міністрам культуры Анатолем Бутэвічам.

Музей беларускага кнігадрукавання — гэта музей комплекснага тыпу, які мае рысы гістарычнага, мастацкага, літаратурнага і тэхнічнага музеяў. Ён прызначаны паказаць кнігу як частку гісторыка-культурнага працэсу, як складаную з'яву, якая належыць адначасова і матэрыяльнай, і духоўнай сферам дзейнасці чалавека. Экспазіцыя разлічана на ўсе катэгорыі наведвальнікаў, перш за ўсё навучэнцаў, і пабудавана па тэматычным прынцыпе. Экспазіцыйная плошча — 928 м$^2$, займае 15 залаў.

Першыя залы знаёмяць з помнікамі дакніжнага пісьменства, з гісторыяй алфавітаў, з тэхналогіяй вырабу паперы і яе эвалюцыяй.

Значнае месца належыць паказу рукапіснай кнігі на беларускіх землях, яе рэпертуару, стыляў мастацкага аздаблення.

Цэнтральная частка экспазіцыі — адлюстраванне жыццёвага шляху і дзейнасці першадрукара Францыска Скарыны. Асвятляецца таксама дзейнасць рэфармацыйных і брацкіх друкарняў, найбольш выдатных асоб, звязаных з кнігадрукаваннем: Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Пятра Мсціслаўца, Мялеція Сматрыцкага, братоў Зізаніяў.

Зала «Мастак і кніга» дэманструе развіццё беларускай кніжнай графікі. Прадстаўлена кнігадрукаванне XIX — пачатку XX стст., у тым ліку выданні губернскіх друкарняў, выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» і іншых беларускіх выдавецкіх таварystваў. Затым паказана кнігадрукаванне савецкага часу, розныя тыпы і віды друкаванай прадукцыі: газеты, часопісы, календары, альбомы. Завяршае экспазіцыю паказ паліграфічнай базы рэспублікі і кніг-лаўрэатаў розных конкурсаў.

Для ўзмацнення эмацыянальнага ўздзеяння экспазіцыі ў яе ўведзены рэканструкцыі майстэрні перапісчыка кніг, друкарні XVI–XVII стст., майстэрні сучаснага мастака-графіка.

Але экспазіцыя змяшчае толькі частку кніг і іншых прадметаў (2,5 тысячы экспанатаў), агульны ж кніжны фонд запаведніка ўключае больш за 10 тысяч. Супрацоўнікі музея праводзяць актыўную выставачную дзейнасць. Выстаўкі даюць магчымасць не толькі прадэманстраваць багацце фондаў, але і пашырыць тэматыку музея або глыбей раскрыць тэмы, закранутыя ў асноўнай экспазіцыі. Напрыклад, традыцыйнымі для Музея беларускага кнігадрукавання з'яўляюцца выставы «Лепшыя кнігі Беларусі» (выданні-лаўрэаты Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі», якія паказваюць высокі паліграфічны ўзровень сучаснай беларускай кнігі), выставы да юбілеяў пісьменнікаў, выдавецтваў, славутых землякоў.

З'яўленне такога музея менавіта ў Полацку было заканамерным. Гэта не толькі радзіма Францыска Скарыны. Полацк — адзін з самых старажытных гарадоў усходніх славян, самая першая наша сталіца. Ён заўсёды быў важным цэнтрам духоўнай і матэрыяльнай культуры — дойлідства, іканапісу, прыкладнога мастацтва і, вядома ж, кніжнасці. Тут перапісвала кнігі Еўфрасіння Полацкая, якая стала святой апякункай Беларусі. Можна ўзгадаць бібліятэку Сафійскага сабора, што існавала ў XI–XVI стст., а таксама бібліятэку пры Полацкім езуіцкім

калегіуме, якая на пачатку XIX ст. налічвала больш за 23 тысячы тамоў. У Полацку таксама нарадзіўся і пачынаў сваю літаратурную дзейнасць выдатны беларускі і рускі паэт, драматург, педагог Сімяон Полацкі.

Праўда, на момант прыняцця рашэння аб стварэнні Музея беларускага кнігадрукавання горад ужо не меў тых кніжных багаццяў, якімі мог пахваліцца ў мінулым. Шматлікія пажары, войны, рэвалюцыі сталі прычынай гібелі або вывазу кніжных скарбаў. У фондах Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, філіялам якога станавіўся музей, мелася невялікая кніжная калекцыя, якая складалася ў асноўным з лацінапольскіх выданняў XVII–XIX стст. і даследаванняў краязнаўчага характару. З 1986 года пачалося планавае камплектаванне калекцыі музея. У яго фонд перадаваліся кнігі з абменна-рэзервовых фондаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У.І. Леніна (Расійская Дзяржаўная бібліятэка, Масква), Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі імя М.Я. Салтыкова-Шчадрына (Расійская Нацыянальная бібліятэка, Санкт-Пецярбург), Навуковай бібліятэкі Эрмітажа, Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У.І. Леніна (Нацыянальная бібліятэка Беларусі), Бібліятэкі Саюза мастакоў Беларусі, Бібліятэкі выдавецтва БелСЭ і многіх іншых. Набываліся кнігі ў букіністычных крамах, у прыватных асоб.

Сярод найбольш каштоўных экспанатаў – рукапісныя кнігі на пергамене («Тора») і на паперы («Распевы», «Гадавы рымскі цырыманіял» і інш.), заходнееўрапейскія выданні XVI–XVIII стст. (сярод іх «12 прамоў» Іераніма Фалецкага, Венецыя, 1558), выданні XVII–XIX стст., надрукаваныя рускім грамадзянскім шрыфтом (працы М. Ламаносава, В. Тацішчава, В. Сопікава), беларускія старадрукі. Найбольш каштоўным выданнем у кірылічным кнігазборы музея з'яўляецца «Евангелле вучыцельнае» (Вільня, др-ня Мамонічаў, 1595).

Значную каштоўнасць уяўляюць выданні краязнаўчага характару XIX – пачатку XX стст., якія выйшлі ў друкарнях Полацка і Віцебска: «Полоцкий кадетский корпус» В.П. Вікенцьева (1910), «Путеводитель по городу Полоцку» (1910), «Белорусские народные рассказы» І.Д. Арлоўскага (1908), «Полоцкий Спасо-Евфросиньевский девичий монастырь» і «Полоцкий Софийский собор» А. Сапунова (абедзве брашуры выйшлі ў 1888 г.), а таксама тры выпускі ўнікальнага выдання «Полоцко-Витебской старины» (1911–1916), у якіх змешчаны працы вядомых даследчыкаў гісторыі Віцебшчыны і Полаччыны (А.П. Сапунова, Д.С. Леанардава, Д.І. Даўгялы, С.П. Сахарава, М.М. Кайгародава і інш.).

Вялікую цікавасць выклікаюць выданні твораў беларускіх пісьменнікаў (Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Журбы, Зм. Бядулі, і інш.), падручнікі М. Гарэцкага, Б. Тарашкевіча, Я. Лёсіка, слоўнікі В. Ластоўскага, Я. Станкевіча, М. Байкова, календары пачатку XX ст., газеты «Наша ніва», «Чырвоны сейбіт», часопісы «Студэнцкая думка», «Наш край», «Маладняк», «Полымя», «Узвышша» 1920–30-х гг.

Сабрана нямала цікавых і каштоўных матэрыялаў, але праца па збіранні працягваецца, і сёння яна застаецца адным з асноўных напрамкаў дзейнасці музея побач з не менш актуальнай праблемай іх вывучэння і ўключэння ў агульную інфармацыйную прастору шляхам стварэння каталогаў асобных калекцый.

Збіраюцца кнігі сучасных аўтараў з аўтографамі і дароўнымі надпісамі. У свой час вялікую калекцыю беларускіх выданняў перадаў у фонды музея Сяргей Панізнік. Сярод іх і кнігі самога пісьменніка, і зборнікі гістарычнай літаратуры «Бацькаўшчына», укладальнікам якіх ён з'яўляецца, і іншыя беларускія выданні. Не раз перадавалі свае кнігі з аўтографамі такія беларускія пісьменнікі, як Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў, Леанід Дранько-Майсюк, Мікалай Чаргінец, Навум Гальпяровіч, Пятро Васючэнка і многія іншыя.

Даўнім і шчырым сябрам Музея беларускага кнігадрукавання з'яўляецца Уладзімір Арлоў. Вядомы пісьменнік, які нарадзіўся ў Полацку, кожную сваю новую кнігу абавязкова перадае музею. Прэзентацыі многіх выданняў праходзілі таксама тут. Так былі прадстаўлены чытачам «Адкуль наш род», «Дзесяць вякоў нашай гісторыі» (напісана ў сааўтарстве з Г. Сагановічам), «Адкусі галаву вароне», «Ордэн Белай Мышы». Можна ўзгадаць і такія шыкоўныя выданні, як «Краіна Беларусь» (сумесны праект з фотамастаком Зміцерам Герасімовічам), альбом «Ад Полацка пачаўся свет» (з Сяргеем Плыткевічам), а таксама «Кнігу Вялікага Княства Літоўскага» — сумесны праект беларускіх, польскіх і літоўскіх навукоўцаў.

Цеснае супрацоўніцтва звязвае музей з полацкімі і наваполацкімі аўтарамі. Так, Музей беларускага кнігадрукавання стаў традыцыйным месцам правядзення цырымоній ўручэння прэміі Таварыства Вольных Літаратараў «Гліняны Вялес». Адбываюцца частыя сустрэчы з літаратурнымі аб'яднаннямі «Наддзвінне» (адным са старэйшых літаб'яднанняў на Беларусі, якое ўтварылася яшчэ ў 1926 г. як

філія «Маладняка») і «Полацкая ветвь» (узнікла ў 1989 г. і аб’ядноўвае рускамоўных аўтараў).

Музей па-ранейшаму падтрымлівае сувязі з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, з абменнага фонду якой нам не раз перадаваліся выданні 1920–1950-х гг.

Перадаюцца ў музей і выданні, якія сталі пераможцамі Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі». Такі конкурс праводзіцца ў Беларусі з 1964 г. Арганізатарам мерапрыемства з’яўляецца Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Штогод у музеі праходзіць выстаўка «Лепшыя кнігі Беларусі».

Залы музея з’яўляюцца лабараторыяй для ажыццяўлення шматлікіх праграм па музейнай педагогіцы. Мясцовым (полацкім і наваполацкім) школьнікам музей прапануе некалькі цыклаў спецыяльна распрацаваных заняткаў. Гэта заняткі для школьнікаў 4-х класаў «З кнігай праз стагоддзі і краіны» (цыкл разлічаны на цэлы навучальны год, заняткі раз у месяц) і для дзяцей 5-х класаў у рамках курса «Полацказнаўства», што ўжо некалькі год праводзіцца ў полацкіх школах. А таксама «У дапамогу настаўніку беларускай літаратуры» – для старэйшых класаў. Спецыяльныя заняткі распрацаваны таксама для дзіцячых садкоў («Свет дзіцячай кнігі»), для дзяцей 3-х («Як вучыліся ў Полацку раней») і 4-х класаў («Рукапісная кніга. Еўфрасіння Полацкая»; «Францыск Скарына – беларускі першадрукар»; «Сімяон Полацкі. Жыццё і дзейнасць»). А з мінулага года ў супрацоўніцтве з «Клубам цікавых сустрэч» пачалі праводзіцца і заняткі рознай тэматыкі для дарослых – для тых, хто хоча больш даведацца пра сваю гісторыю і культуру.

Адным з асноўных накірункаў дзейнасці музея з’яўляецца прапаганда роднага слова. Беларуская мова гучыць, за рэдкім выключэннем, на кожнай экскурсіі. Сімвалам нашай мовы, якую то забаранялі, не ўжывалі, то адраджалі і развівалі, з’яўляецца скульптура Паўла Вайніцкага «Прысвячэнне Роднаму Слову», каля якой і заканчваецца кожная экскурсія. Жаночая постаць, якая нібы сышла з фрэсак XII стагоддзя, падзелена на дзве часткі: светлую, што ўвасабляе росквіт беларускай мовы, культуры і дзяржаўнасці, і цёмную – часы заняпаду і мэтанакіраванага знішчэння. Будучыня залежыць ад выбару кожнага з нас – такі вывад павінен зрабіць кожны наведвальнік нашага музея сам для сябе.

**Спіс літаратуры**:


1. Воднева, І. Полацкі музей беларускага кнігадрукавання / І. Воднева, І. Шупенька // Роднае слова. – 2006. – № 8. – С. 118.

2. Глазырын, Я.У. Полацк – горад музеяў / Я.У. Глазырын // Беларускі гістарычны часопіс. – 2007. – № 8. – С. 42–49.

3. Ільніцкі, М.М. Полацкі менталітэт вачыма дырэктара музея-запаведніка / М.М. Ільніцкі // Крыніца. Славянскі свет. – 2003. – № 8. – С. 6–9.

4. Ладзісава, Г. Полацкі музей беларускага кнігадрукавання / Г. Ладзісава // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. / Белар. Энцыкл.; Рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн, 1999. – Т. 5. – С. 537.

5. Национальный Полоцкий историко-культурный музей-заповедник. [Электронный ресурс] / Научно-информационный отдел НПИКМЗ. – Полоцк, 2010. – Режим доступа: http://polotsk.museum.by.

6. Нікалаеў, М. Якім быць музею кнігі? / М. Нікалаеў // Беларусь. – 1989. – № 8. – С. 19.

7. Полацк музейны: фотаальбом / аўт.-укл. Т.А. Джумантаева, М.М. Ільніцкі; фота І.У. Супранёнка. – Мінск: Беларусь, 2006.

8. Рудава, Т.Д. Ці стане Полацк горадам-музеем? / Т.Д. Рудава // Літаратура і мастацтва. – 1994. – № 6. – С. 2–3.

9. Шумовіч, А.У. Музей беларускага кнігадрукавання як асяродак збірання, захавання, вывучэння і прапаганды помнікаў кніжнай культуры / А.У. Шумовіч, Г.П. Ладзісава // Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (па выніках навукова-даследчай работы ў 1996 г.). – Полацк, 1997. – С. 42–50.

10. Шумовіч, А. Храм духоўнасці / А. Шумовіч // Літаратура і мастацтва. – 2005. – 29 ліпеня. – № 30. – С. 4.

11. Шумович, Е.В. Полоцкий музей белорусского книгопечатания / Е.В. Шумович // Музеи Беларуси; редкол.: Г.П. Пашков [и др.]. – Минск: БелЭн, 2008. – С. 484–486.

*Бобрык У.А., Парукаў А.А.*

## Асаблівасці некаторых слоў-тэрмінаў часу ў выданнях Ф. Скарыны

Вядома, што тэрміналогія часу належыць да адной з самых старажытных і стабільных лексіка-семантычных груп агульнаславянскага лексічнага фонду. Такія назвы складалі дастаткова шматлікі разрад у старажытнарускай мове, а затым і ў старабеларускай у розных яе жанрава-стылістычных разнавіднасцях. Пэўная колькасць тэмпаральнай лексікі зафіксавана і ў скарынаўскіх выданнях, як перакладных, так і ў неперакладных. Тут можна выдзеліць назвы з недыферэнцыраванымі значэннямі (***время (врѣмя), час, година***), а таксама словы, якія абазначалі больш-менш дакладныя прамежкі часу (***векъ (вѣкъ), годъ, лето (лѣто)***)[1].

Лічыцца, што слова ***врѣмя (время)*** з'яўляецца паўднёваславянскім запазычаннем, а на Усходняй Славяншчыне атрымала распаўсюджанне пад уплывам царкоўнаславянскай пісьменнасці. Слоўнік рускай мовы XI–XVII стст. падае пяць асноўных часавых значэнняў і пэўную колькасць адценняў да іх. Некаторыя з гэтых значэнняў захаваліся і ў скарынаўскіх тэкстах і абумоўлены жанравай прыналежнасцю выданняў Скарыны:

- 'пэўны прамежак часу'. *Они … готують собѣ в лете брашно, и собирають во врѣмя жатвы, штобы мели на потомъ ясти;*
- 'няпэўны прамежак часу'. *Да благословить тя господь богъ твои на всяко время; Врѣмя убо наше подобно естъ стеню преходящему.*

Часта адны і тыя ж часавыя паняцці абазначаліся ў помніках пісьменнасці, а іншы раз нават і ў помніках аднаго жанру, рознымі словамі-тэрмінамі часу. Іншымі словамі, мы сутыкаемся са з'явай лексічнай сінаніміі. Сказанае адносіцца і да скарынаўскіх выданняў.

[1] Ілюстрацыйны матэрыял падаецца па выданні: Анічэнка, У.В. Слоўнік мовы Скарыны / [тэкст] У.В. Анічэнка. — Мінск, Вышэйшая школа, 1977. — Т. 1. — 475 с.; 1984. — Т. 2. — 365 с.

Так, у якасці лексічнага адпаведніка да слова ***время*** Скарына выкарыстоўваў назву ***час*** з агульнымі значэннямі часу. Гэта:

- ‘час’. *Корѣния ... въ лѣторослехъ на час помножатся, Иные приношаху часы установлеными отъ бога яко на празники нарочитые гововые;*
- ‘перыяд’. *Кратокъ естъ и стошностию часъ живота нашего;*
- ‘адпаведны час’. *На сведения безакония курится даже и дондесь пустая земля, и часомъ певным древа имеющие плодъ; Мати делывала ему одежу малу юже и приносяще часы своими;*
- ‘пара года’. *Да сохраните месяци новыхъ плодовъ, и часу весны.*

Патрэбна адзначыць, што ў рускай мове, а таксама ў некаторых паўднёваславянскіх мовах, адлюстравана назва ***время***: руск. ***время***, балг. ***время*** ‘час’, макед. ***время*** ‘час, пара’, ‘надвор’е’. Больш пашыраны ў славянскіх мовах рэфлекс **čas**, хоць і назіраюцца некаторыя ваганні ў значэннях: са значэннем ‘кароткі прамежак часу’ назва захавалася ў сербскай і харвацкай мовах. У заходнеславянскіх мовах значэнне пашырылася: польск. **czas** ‘час, пара’, чэшск. **čas** ‘час’, славацк. **čas** ‘час, пара’. Захавалася гэтая назва і ва ўсходнеславянскіх мовах, прычым у рускай мове яна абазначае $^{1}/_{24}$ частку сутак, ва ўкраінскай — ‘час, пара’, у беларускай, як і ў Скарыны, ‘час наогул’.

Цікавая гісторыя агульнаславянскай лексемы ***година***, утворанай суфіксальным спосабам ад асновы ***год***. У старажытнарускай мове яна мела сем значэнняў, але ў старабеларускай мове захаваліся толькі два: ‘прамежак часу ў 60 хвілін’ і ‘няпэўны прамежак часу’. Апошняе значэнне фіксуецца і ў выданнях Скарыны:

*Господь же взъявилъ Самуилови единнымъ днемъ прежде пришествие Саулово глаголя, въ тую жъ годину еже нынѣ есть.*

Назва ***година*** звычайна ўжывалася ў спалучэнні з указальнымі займеннікамі і паказвала на момант, калі адбывалася тая або іншая падзея:

*.. въ тую жъ годину еже ныне есть.*

Зыходная ж форма ***годъ*** у Скарыны ўжывалася толькі з адным значэннем ‘365 дзён’ і толькі ў спалучэнні з лічэбнікамі, што яшчэ больш канкрэтызуюць гэта значэнне:

- *человекъ ... жити будеть со женою своею безъ всего клопоту въ дому своемъ, дабы единъ годъ веселъ былъ съ милою своею;*

- *По седми годахъ сбѣрутся вси сыновѣ израилевы.*

У якасці сіноніма да лексемы ***годъ*** Скарына часта карыстаўся назвай ***лето (лѣто)***:

- *Сен началъ пророковати тринадесятого лета от нарожения своего;*
- *Старость оубо честна есть но не долговечна, ини в числе летъ многихъ;*
- *истлѣтъ душа твоя и часть велка дому твоего изомретъ внегда приидуть къ летомъ мужества;*
- *Егда же приide сполнения летомъ, посла богъ сына.*

Такія прыклады складаюць дастаткова вялікую колькасць. Гэтаму не ў малой ступені спрыяла і канфесіяльная сутнасць выданняў беларускага асветніка. Нават у арыгінальных сваіх творах-прадмовах і пасляслоўях ён паслядоўна карыстаецца назоўнікам **лето** ‘год’, асабліва пры ўказанні на год летавылічэння нараджэння Хрыста:

- *Скончался Псалтыр сия з божиею помощью повѣлѣнием и працею избранного мужа в лѣкорсных науках доктора Франциска, Скоринина сына с Полоцька, у старом месте Празском лѣта по божьм нарожению тысещного и семого на десеть, месяца августа дъня шестого;*
- *Вторый закон, божиею помощию, повѣлением и пильностию ученаго мужа в лекарских науках доктора Франциска Скорины с Полоцка у великом месте Празском по воплощении слова божия с пречистое девици Марии лѣт тысеща пятьсот и девятое на 10;*
- *Доконана ест книга Руф по летех нарожения сына божия с непорушенное девици Марии;*
- *Доконаваются книги Исуса, сына Навина … по лѣтех нарожения нашего спаситѣля Ісуса Христа…;*
- *… лѣта по нарожении нашего спасителя Ісуса Христа …(152).*

Старое значэнне ‘год’ адзначаецца і ў вытворных ад ***лето*** ўтварэннях ***летописание***, ***летописец***, ***летописный***, ***леторасль***, ***летошнеш***. Паралельна са словам **лето** ў Скарыны замацавалася значэнне ‘сезон’:

*десятую долю отделиши со всихъ еже родятся на кажное лѣто.*

У скарынаўскіх выданнях захаваліся традыцыйныя для старабеларускай мовы значэнні агульнаславянскай лексемы ***вѣкъ (векъ)*** ‘пэўны

прамежак часу, эпоха; перыяд існавання каго-н., чаго-н., жыццё, узрост; неакрэслены перыяд часу':

- *Отъ зачала убо вековъ егда сотворилъ богъ первого человѣка написалъ естъ законъ сеи в серци его;*
- *векъ старости есть животъ нескверныи;*
- *Сердце веселое чинить вѣкъ утешеныи.*

Значэнне 'на ўсё жыццё, назаўсёды' выражаецца ўстойлівым спалучэннем ***вовѣкъ векомъ***:

*Понѣте не загонять вовѣкъ векомъ господь бог: аще завернеть то помилуеть.*

Назва ***вѣкъ*** з найбольш распаўсюджанымі значэннямі 'стагоддзе', 'узрост' захавалася і ў сучаснай беларускай мове. Агульнаславянскі рэфлекс ***vek*** вядомы і іншым славянскім мовам: руск. ***век***, укр. ***вік***, польск. ***wiek***, чэшск. ***věk***, славацк. ***věk***, верхне-лужыцк. ***wek***.

Гаворачы пра слоўнікавы састаў выданняў Скарыны, можна з упэўненасцю канстатаваць яго семантычную разнастайнасць. Гэта пацвярджае і прадстаўленая невялікая група слоў-тэрмінаў часу. У такім падборы лексічнага матэрыялу і раскрываецца шырокі філалагічны дыяпазон беларускага першадрукара.

*Вашчанка А.П.*

## Гісторыя біблейскага перакладу на беларускую мову ў рэтраспектыве часу

Попыт на слова Божае, які існаваў у ахрышчанай у 988 г. Кіеўскай Русі, задавальняўся стараславянскім перакладам Кірыла і Мяфодыя. Салунскія браты, грунтуючыся на параўнальнай «Актапле» Арыгена, стварылі новы, пасля лацінскай Вульгаты, міжрэгіянальны славянскі пераклад, які з'яўляецца кананічным эталонам шмат для якіх славянскіх цэркваў. Біблія распаўсюджвалася шляхам працаёмкага перапісвання ў манастырскіх, царкоўных, княжых майстэрнях-скрыпторыях, якія былі наладжаны паўсюдна на беларускай зямлі.

З цягам часу адбываецца адасабленне рускай, украінскай і беларускай этнічных галін і інтэнсіўнае фарміраванне этнічных і моўных асаблівасцей. Як пазначае акадэмік Я.Ф. Карскі, на Белай Русі ўжо з XI стагоддзя робяцца спробы прыстасоўваць кірыла-мяфодыеўскі пераклад да мясцовых асаблівасцей мовы.

Стварэнне поўнага біблейскага збору належыць Мацвею Дзесятаму («Дзесяціглаў», 1502–1507) і Фёдару Янушэвічу («Пяцікніжжа Майсеева», 1514). Беларускі збор, мяркуючы па ўсяму, узыходзіў да больш ранняй і дастаткова поўнай мараўскай рэдакцыі кірыла-мяфодыеўскага перекладу.

З прычыны надзвычай неспрыяльных культурна-гістарычных умоў да нашага часу дайшлі толькі адрывачныя беларускія пераклады той пары. Прыкладам з'яўляецца «Кніга Рут» невядомага перакладчыка пачатку XVI ст.

У гэтых умовах беларускі духоўны асветнік і першадрукар Францыск Скарына, які атрымаў усебаковую адукацыю ў вядомых заходнееўрапейскіх цэнтрах, за кароткі час перакладае на старабеларускую мову і ў наладжанай у Празе друкарні ў 1517–1521 гг. выдае асобнымі выпускамі кірылічным шрыфтам 23 кнігі Старога Запавету пад агульнаю назвай «Біблія руска, выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька, Богу ко чти и людям посполитым к доброму научению». У 1522 г. у Вільні ён вы-

дае яшчэ раз «Псалтыр» (так званую «Псалтирь последованную») і ў 1525 г. — «Апостал».

Вядомы паслядоўнік Ф. Скарыны Васіль Цяпінскі (каля 1530–1603) у арганізаванай у сваім маёнтку друкарні выдаў каля 1580 г. перакладзенае ім «Евангелле» з вялікай прадмовай.

Вельмі багатая ў старажытнасці традыцыя беларускай біблеістыкі ў далейшым перарываецца больш чым на два стагоддзі.

Новабеларускія пераклады Бібліі з'яўляюцца толькі ў пачатку XX стагоддзя ў заходнебеларускім багаслоўскім асяроддзі. Баптысцкі прэсвітар Лукаш Дзекуць-Малей (1888–1955) перакладае «Чатырохевангелле», якое выходзіць асобнымі кнігамі кірылічным шрыфтам у пратэстанцкім выдавецтве «Компас» на працягу 1926–1930 гг. Пазней Л. Дзекуць-Малей у сааўтарстве з Антонам Луцкевічам пераклаў некаторыя наступныя кнігі і рэдагаваў пераклад. А ў 1931 г. у Гельсінфорсе пры падтрымцы Брытанскага і Замежнага Біблейскага Таварыства быў выдадзены першы новабеларускі пераклад «Новага Запавету і Псальмаў». Пераклад вытрымаў наступныя перавыданні ў Лондане (1948) і Таронта (1985, 1991).

У каталіцкім багаслоўскім асяроддзі ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім (1888–1942) да 1930 г. быў падрыхтаваны пераклад Новага Запавету, выданне якога з'явілася магчымасць ажыццявіць толькі ў 1938 г. Ёсць звесткі, што да пачатку Другой сусветнай вайны ксёндз В. Гадлеўскі выканаў значную частку перакладу Старога Запавету, які знік, калі аўтар загінуў у гестапаўскіх засценках.

У Беларускай Каталіцкай Царкве прадоўжыў справу біблейскага перакладу ксёндз Пётр Татарыновіч (1897–1978), які, непасрэдна арыентуючыся на пераклад свайго папярэдніка, выдаў у 1954 г. у Рыме «Sviatuju Evaneliju i Apostolskija Dziei», пазней — «Listy Sviatych Apostalau» (1974).

Галоўным дасягненнем беларускай біблеістыкі новага часу з'явіўся поўны пераклад Бібліі, здзейснены вядомым гісторыкам мовы, лексікографам і даследчыкам беларускіх старадаўнасцей Янам Станкевічам (1896–1976). Спачатку ён выйшаў у ЗША асобным выданнем «Новага Закону» (Нью-Ёрк, 1970), затым усяго перакладу «Сьвятой Бібліі» (Нью-Ёрк, 1973). Выкананы ў супрацоўніцтве з вельмі кваліфікаваным гебраістам Гітліным.

Зараз у Беларусі намаганнямі Біблейскай камісіі, заснаванай у 1990 годзе пры Беларускай Праваслаўнай Царкве, з удзелам Беларускага

Біблейскага таварыства, а таксама прыватных асоб праводзіцца вялікая праца па стварэнні сучаснага беларускага перакладу Пісання, якое б адпавядала навейшым дасягненням біблеістыкі і сучаснаму ўзроўню нацыянальнай мовы.

Вядомым беларускім літаратарам Васілём Сёмухай у прыватным парадку выкананы самастойны пераклад біблейскага тэксту. Яго пераклад, які выйшаў пад рэдакцыяй архіепіскапа Мікалая, разам з несумненна новым стылявым вопытам і бясспрэчнымі дасягненнямі ў пераўтварэнні евангельскага тэксту на сучасную нацыянальную мову, надзвычай аслаблены дыялектным напісаннем біблейскіх імёнаў, нярэдка да поўнай страты іх патаемнай этымалогіі, і арфаграфіяй, што выйшла з ужытку і якую не ўспрымае сучасны носьбіт мовы.

Пераклад Анатоля Клышкі, па «Букварах» якога вучыцца ўжо не адно пакаленне беларусаў, зроблены з арыентацыяй на еўрапейскую перакладчыцкую практыку. Ён, дарэчы, працаваў у рэдакцыі часопіса «Полымя», быў загадчыкам выдавецтва «Юнацтва», узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. У пахвалу А. Клышку трэба адзначыць, што пераклад ён зрабіў з грэчаскага арыгінала, што таксама з’яўляецца знакавай з’явай у гісторыі беларускай біблеістыкі.

У 2001 г. над перакладам, які па даручэнні Ватыкана зрабіў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, працуе «Біблейскае таварыства ў РБ». У 2004 г. выйшаў у свет «Новы Запавет», нешматлікі тыраж якога ўжо поўнасцю разыйшоўся.

У таварыстве падрыхтаваны тэксты Старога Запавету, над якім працавалі, звяраючы пераклад Уладзіслава Чарняўскага з Новай Вульгатай, навукоўцы-лаціністы Жана Некрашэвіч-Кароткая, Таццяна Федасеева, а таксама Галіна Веніямінаўна Сініла, знакаміты вучоны-спецыяліст у галіне біблеістыкі і ўсходніх літаратур. Дапамогу «Біблейскаму таварыству» ў перакладзе аказваў прафесар Оксфардскага ўніверсітэта Джон Элвалд.

Кожны новы пераклад робіцца з надзеяй пазбегнуць памылак мінулых спроб і зрабіць штосьці больш дасканалае. Відавочным з’яўляецца наступны факт: кожная новая праца ўносіць пэўны ўклад у развіццё беларускай моўнай біблеістыкі, а кожны пераклад на беларускую мову дазваляе чытачу сутыкнуцца з неабсяжным светам Бібліі.

**Спіс літаратуры**

1. Белорусские переводы Библии // [Электронный ресурс] – Режым доступа: http://churchby.info/forum/viewtopic.php?t=49 – Дата доступа: 20.09.2010.

2. Біблія. Кананічная ў беларускім перакладзе. – World wide printing Duncanville, USA, 2002.– 1512 с.

3. Википедия – свободная энциклопедия. Переводы Библии // [Электронный ресурс] – Режым доступа: http://ru.wikipedia.org/wiki/Переводы_Библии – Дата доступа: 20.09.2010.

4. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. / рэдкалегія: Г.П. Пашкоў і інш. – Мінск: БелЭн, 2005. – Т. 1. – 688 с.

5. Канфесіі на Беларусі (к. XVIII – XX ст.) / В.В. Рыгор'ева, У.М. Завальнюк, У.І. Навіцкі, А.М. Філатава; нав. рэд. У.І. Навіцкі. – Мінск: Экаперспектыва, 1998. – 340 с.

6. Перевод Библии Франциска Скорины // [Электронный ресурс] – Режым доступа: http://www.teolog.ru/lib/t2.php?pid=9ebd172cd – Дата доступа: 25.09.2010.

7. Шараева, Г. Вечный спор о вечной книге // [Электронный ресурс] – Режым доступа: http://bdg.press.net.by/2004/04/2004_04_30.1424/1424_12_1.shtml – Дата доступа: 22.09.2010.

## *Падалінскі У.А.*

# Соймавае прадстаўніцтва Полацкага ваяводства ў канцы XVI ст. Спроба аналізу

У XVI ст. шляхта ўсіх зямель Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) актыўна ўцягваецца ў грамадскае жыццё краіны, пашырае свае сацыяльна-палітычныя правы. Важную ролю ў гэтых працэсах адыгрывала развіццё парламенцкай сістэмы ВКЛ і пазней Рэчы Паспалітай. Аналіз соймавага прадстаўніцтва розных рэгіёнаў Вялікага Княства дазваляе больш комплексна і глыбока вывучыць склад лакальных шляхецкіх эліт, іх палітыка-прававую культуру і свядомасць. У дакладзе паслы Полацкага ваяводства на соймы Рэчы Паспалітай канца XVI ст., абраныя на сойміку ў Полацку (да 1579 г. — у Лепелі і Дзісне), разглядаюцца праз прызму іх маёмаснага становішча, сацыяльнага і этнічнага паходжання, канфесійнай прыналежнасці і з пункта гледжання іх палітычнай кар'еры.

За перыяд 1575–1600 гг. нам вядомы 15 шляхціцаў (належалі да 12 шляхецкіх родаў), якія рэпрэзентавалі Полацкае ваяводства як мінімум на 21 сойме Рэчы Паспалітай. Так, *Ян Лопат* быў полацкім паслом на элекцыйным сойме 1575 г. ды вальных соймах 1578 і 1579/80 гг.[1] На элекцыях 1575 і 1587 гг. полацкую шляхту прадстаўляў *Дзмітры Корсак*[2]. *Міхал Друцкі-Саколінскі* абіраўся з Полацка паслом на элекцыйны сойм 1587 г. і вальны сойм 1589 г.[3] На двух вальных соймах 1597 і 1598

[1] Варонін В. Дрыса ў XVI ст. // Commentarii Polocenses Historici — Полацкія гістарычныя запіскі. Т. 1. 2004. С. 28; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску (НГАБ). КМФ-18. Воп. 1. Спр. 272. Арк. 58адв.; Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy (Stosunki polsko-litewskie w latach 1569–1588). Warszawa, 2002. S. 228.

[2] Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego. T. 1: Okresy bezkrólewi / Oprac. H. Lulewicz. Warszawa, 2006. S. 262; Lulewicz H. Gniewów o unię… S. 228–229, 380.

[3] Akta zjazdów stanów… T. 1. S. 261; Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lituaniae. Vilnae, 1758. T. 1. S. 239. Гл. таксама: Nagielski M. Sokolińsk (Drucki Sokoliński) Michał // Polski Słownik Biograficzny (PSB). T. 40/1, z. 164. Warszawa — Kraków, 2001. S. 44–46.

гг. полацкім паслом з'яўляўся *Якуб (?) Сямашка*[4]. Таксама, як мінімум двойчы ў працы соймаў Рэчы Паспалітай браў удзел полацкі падкаморы *Міхал Францковіч-Радзімінскі*: у 1587 (элекцыя) і 1590 гг.[5] Прынамсі па адным разе Полацкае ваяводства на соймах супольнай дзяржавы прадстаўлялі *Мікалай Шчыт* (1578 г.), *Вацлаў Друцкі-Саколінскі* (1587 г., канвакацыя), *Юры Катавіцкі* (1587 г., элекцыя), *Васіль Рэвут* (1589 г.), *Фрыдрых Ветрынскі* (1593 г.), *Абрам Мялешка* (1593 г.), *Яраш Корсак* (1596 г.), *Ян Корсак-Галубіцкі* (1600 г.) і *Аляксандр Тышкевіч* (1600 г.)[6]. Акрамя таго, у студзені 1598 г. на перадсоймавым сойміку ў Полацку мясцовая шляхта абрала земскім паслом выбітнага парламентарыя і жаўнера Рэчы Паспалітай канца XVI – пачатку XVII стст. *Пятра Стаброўскага*[7].

У маёмасным плане сярод полацкіх паслоў пераважала дробная шляхта, г. зн. тая, якая валодала менш як 50 сялянскімі «службамі» і, адпаведна, выстаўляла ў войска ад 1 да 4 коннікаў[8]. Менавіта да гэтай катэгорыі шляхты ў другой палове XVI ст. адносіліся роды

[4] Archiwum Główne Aktów Dawnych w Warszawie (AGAD). Archiwum Radziwiłłów (AR). Dz. V. Nr. 16. S. 65; Dyaryusze sejmowe roku 1597. W dodatkach: akta sejmikowe i inne odnoszące się do tego sejmu / Wyd. E. Barwiński. Kraków, 1907. S. 422; Jarmiński L. Bez użycia siły. Działalność polityczna protestantów w Rzeczypospolitey u schyłku XVI wieku. Warszawa, 1992. S. 171, 213. Магчыма, у 1597 г. полацкім паслом мог быць Рыгор Сямашка, які падчас сойма знаходзіўся ў Варшаве: НГАБ. КМФ-18. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 172.

[5] AGAD. AR. Dz. V. Nr. 3861. S. 4–6; Akta zjazdów stanów… T. 1. S. 261, 266.

[6] НГАБ. КМФ-18. Воп. 1. Спр. 272. Арк. 58адв.; AGAD. AR. Dz. II. № 348a. S. 3; Akta zjazdów stanów… T. 1. S. 261, 266; Codex diplomaticus… S. 239; Filipczak-Kocur A. Pośmiertne problemy podskarbich litewskich Ławryna Wojny i Jana Hlebowicza // Litwa w epoce Wazów. Prace ofiarowane Henrykowi Wisnerowi w siedemdziesiątą rocznicę urodzin / Pod red. W. Kriegseisena i A. Rachuby. Warszawa, 2006. S. 83; Radaman A., Ferenc M. Rejestr senatorów i posłów na sejmie walnym warszawskim 9 II–21 III 1600 r. // Zeszyty naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego. Pracy Historyczne. 2004. Zeszyt 131. S. 89–107; Volumina Constitutionum. T. II (1550–1609), vol. 2 (1587–1609). Warszawa, 2008. S. 27.

[7] AGAD. AR. Dz. V. Nr. 16. S. 65; Jarmiński L. Bez użycia siły. S. 213. Гл. таксама: Byliński J., Wasilewski T. Stabrowski Piotr h. Lubicz z odmianą // PSB. T. 41/2, z. 169. Warszawa – Kraków, 2002. S. 282–285.

[8] Крытэрыі падзелу шляхты на маёмасныя групы гл.: Падалінскі У. Палітычная эліта Лідскага павета ў апошняй трэці XVI ст. // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 16, сш. 1 (30). 2009. С. 5–6; Litwin H. Równi do równych: kijowska reprezentacja sejmowa 1569–1648. Warszawa, 2009. S. 30.

Друцкіх-Саколінскіх і Францковічаў-Радзімінскіх[9]. З вялікай доляй верагоднасці да дробнай шляхты можна аднесці і Лопатаў, Шчытоў, Рэвутаў, Катавіцкіх, Ветрынскіх, Сямашкаў. Да даволі вядомага ў Рэчы Паспалітай роду (лінія Міхайлы Тышкевіча) належаў А. Тышкевіч, але ў канцы XVI ст. гэтая лінія Тышкевічаў значна разраслася і, напэўна, таксама адносілася да дробнай шляхты[10]. Даволі заможны яшчэ ў пачатку XVI ст. род Корсакаў у выніку частых войнаў з Маскоўскай дзяржавай да сярэдзіны таго ж стагоддзя згубіў значную частку сваіх уладанняў і збяднеў[11]. Дробнай шляхтай можам лічыць і Я. Корсака, і Я. Корсака-Галубіцкага. За выключэннем хіба Дз. Корсака, чый бацька Васіль у 1552 г. ставіў у войска 8 коннікаў, г. зн. належаў да сярэдняй шляхты[12]. Да сярэдняй шляхты можна аднесці А. Мялешку, які ў 1565 г. ставіў у войска ВКЛ 5 коннікаў[13]. Падобна, што да гэтай маёмаснай катэгорыі належаў і П. Стаброўскі[14].

Па сацыяльным паходжанні большасць соймавых паслоў Полацкага ваяводства ў канцы XVI ст. належала да нязнатнай мясцовай шляхты: Ветрынскія, Катавіцкія, Лопаты, Рэвуты, Сямашкі, Шчыты. Роды Мялешак, Стаброўскіх, Францковічаў-Радзімінскіх, хоць і мелі ўладанні ў розных паветах ВКЛ, але таксама адносіліся да нязнатных. Знаць была прадстаўлена ў невялікай колькасці: да княжацкіх родаў Вялікага Княства адносіліся два прадстаўнікі Друцкіх-Саколінскіх, а да «панскіх» — толькі А. Тышкевіч. Асаблівае месца займаў полацкі шляхецкі род Корсакаў, які хоць і не належаў да княжацкіх або «панскіх», але меў вялікае сацыяльна-палітычнае значэнне і аўтарытэт на Полаччыне яшчэ з XV ст. Сярод 15 вядомых соймавых паслоў з Полацка сустракаем трох Корсакаў (20 %).

[9] Пра маёмасны стан полацкай шляхты ў сярэдзіне XVI ст. гл.: Rewizya województwa Połockiego z roku 1552 // Scriptores Rerum Polonicarum. T. 2. Kraków, 1880. S. 212–247. У 1567 г. М. Францковіч-Радзімінскі ставіў у войска 4 коннікаў: Русская историческая библиотека (РИБ). Т. 33: Литовская Метрика. Отдел третий. Ч. 3: Книги публичных дел. Переписи Литовского войска. Петроград, 1915. Стб. 832.

[10] Niesiecki K. Herbarz Polski / Wyd. J. Bobrowicz. T. 9. Lipsk, 1842. S. 173–184.

[11] Гэта выразна відаць пры параўнанні колькасці коннікаў, якіх Корсакі выстаўлялі ў войска ВКЛ у 1528 і 1552 гг.: Насевіч В. Корсакі // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2. Мн., 2006. С. 137–138; Rewizya województwa Połockiego z roku 1552. S. 212–225.

[12] Rewizya województwa Połockiego z roku 1552. S. 216–217.

[13] РИБ. Т. 33. Стб. 259.

[14] Byliński J., Wasilewski T. Stabrowski Piotr… S. 282, 284.

У этнічным плане абсалютная большасць паслоў, абраных у разглядаемы час на полацкім сойміку, адносілася да шляхты з родаў беларускага паходжання: Ветрынскія, Корсакі, Лопаты, Друцкія-Саколінскія, Стаброўскія, Сямашкі, Тышкевічы, Шчыты, Катавіцкія (верагодна). Балцкае паходжанне мелі Мялешкі і, магчыма, Рэвуты, але ў XVI ст. гэтыя роды былі праваслаўнымі, а значыць, моцна русінізаванымі[15]. М. Францковіч-Радзімінскі паходзіў з роду, які прыбыў у Вялікае Княства з Польшчы[16]. Што датычыць канфесійнай прыналежнасці полацкіх паслоў у другой палове XVI ст., то гэтае пытанне патрабуе яшчэ даволі падрабязнага вывучэння. Аднак і зараз можна казаць, што яна была неаднароднай. У соймавым прадстаўніцтве пераважалі пратэстанты (М. Францковіч-Радзімінскі, П. Стаброўскі, Я. Сямашка) і, пэўна, праваслаўныя (М. Друцкі-Саколінскі, А. Мялешка, В. Рэвут?). З канца XVI ст. павялічваецца колькасць католікаў (В. Друцкі-Саколінскі, А. Тышкевіч) і ўніятаў (Я. Корсак-Галубіцкі).

Адназначна можна сцвярджаць, што соймавыя паслы з Полацкага ваяводства належалі да рэгіянальнай палітычнай эліты. Так, 8 асобаў трымалі разнастайныя павятовыя ўрады на Полаччыне[17]. Дз. Корсак і Я. Корсак-Галубіцкі з’яўляліся полацкімі харужымі ў 1589–1594 і 1597–1620 гг. адпаведна. Акрамя таго, Я. Корсак-Галубіцкі быў полацкім гараднічым. Урад мясцовага падкаморыя з 1583 па 1603 г. займаў М. Францковіч-Радзімінскі, а ўрад павятовага маршалка з 1591 па 1595 г. – В. Друцкі-Саколінскі. Сярод полацкіх паслоў неаднаразова сустракаем ураднікаў мясцовага земскага суда. Ю. Катавіцкі паслядоўна займаў пасады земскага пісара (1580–1602 гг.) і падсудка (1602–1617 гг.), Я. Корсак у 1599–1611 гг. быў земскім суддзёй, а А. Тышкевіч – пісарам земскім (1602–1611 гг.) і земскім суддзёй (1611–1644 гг.). Падкрэслім, што ўрады земскіх суддзі, падсудка і пісара, а з 1588 г. падкаморага і харужага, былі выбарнымі, што, на наш погляд, дадаткова сведчыць аб папулярнасці сярод мясцовай шляхецкай супольнасці тых асоб, якія іх займалі. Да

[15] У канцы XVI ст., акрамя Васіля, вядомы таксама Раман, Фёдар і Багдан Рэвуты, што, амаль адназначна, гаворыць пра іх праваслаўнае веравызнанне. Пра род Мялешак гл.: Czarnocki K. Historie o Mieleszkach / do druku podał K. Czarnocki. Warszawa, 2008.

[16] Liedke M. Od prawosławia do katolicyzmu. Ruscy możni i szlachta Wielkiego Księstwa Litewskiego wobec wyznań reformacyjnych. Białystok, 2004. S. 196, 203, 255.

[17] Інфармацыя аб полацкіх урадніках даецца па: Радаман А., Галубовіч В., Вілімас Д. Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства… С. 73–80.

таго ж Я. Сямашка ў 1593 г. з'яўляўся полацкім намеснікам[18]. Яшчэ тры асобы трымалі ўрады па-за Полацкім ваяводствам. П. Стаброўскі быў цівуном вяйшвянскім у Жамойці, А. Мялешка з'яўляўся слонімскім маршалкам, а М. Друцкі-Саколінскі – маршалкам аршанскім. Таксама тры асобы былі дзяржаўцамі розных старостваў: Я. Лопат – старостам дрысенскім, М. Друцкі-Саколінскі – азярышчанскім і П. Стаброўскі – трэйданскім. Выкананне місіі соймавага пасла спрыяла кар'ернаму росту не толькі на лакальным, але і на агульнадзяржаўным узроўні. Тры шляхціцы, якія ў канцы XVI ст. абіраліся на соймы з Полацкага ваяводства, затым сталі сенатарамі Рэчы Паспалітай. Так, М. Друцкі-Саколінскі быў кашталянам віцебскім (1605–1613 гг.) і ваяводам полацкім (1613–1621 гг.), Я. Корсак-Галубіцкі займаў пасады кашталяна дэрпцкага (1620–1621 гг.) і полацкага (1621–1625 гг.), а П. Стаброўскі з 1600 па 1609(?) г. з'яўляўся кашталянам парнаўскім[19].

Разглядаемыя асобы бралі ўдзел у палітычным жыцці і на лакальным або рэгіянальным узроўні. Напрыклад, ім даручаліся функцыі зборшчыкаў падаткаў у ваяводстве. Полацкімі паборцамі былі М. Шчыт (1578 г.), Ю. Катавіцкі (1581 г.) і Я. Корсак-Галубіцкі (1590 г.)[20]. На сойме 1589 г. Я. Корсак быў вызначаны шафарам (адказным за паступленне і размеркаванне падаткаў) у Полацкім ваяводстве, а М. Друцкі-Саколінскі – паборцам у Аршанскім павеце; у 1590 г. Я. Корсак выконваў функцыі паборцы ў Навагародскім павеце[21]. Я. Лопат у 1578 г. быў прызначаны каралеўскім паслом на соймік Полацкага ваяводства перад вальным соймам 1578 г.[22] Сярод удзельнікаў Галоўных з'ездаў Вялікага Княства сустракаем Я. Лопата (май–чэрвень 1576 г.), Ю. Катавіцкага (красавік 1580 г.), Дз. Корсака (красавік 1576 г. і лістапад

[18] Брэгер Г. Рэдкі ўзор транслітэрацыі кірыліцай польскамоўнага дакумента канца XVI ст. у Вялікім Княстве Літоўскім // Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я. Галенчанкі / Уклад. А. Дзярновіч, А. Семянчук. Вільня – Мінск, 2009. С. 53–54.

[19] Таксама ў 1621 г. М. Друцкі-Саколінскі быў прызначаны смаленскім ваяводам, але памёр, так і не прыняўшы ўраду: Wolff J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego (1386–1795). Kraków, 1885. S. 46, 52, 103, 123, 126, 139. Пра Я. Корсака-Галубіцкага гл.: Wasilewski T. Korsak Jan Hołubicki // PSB. T. 14. Warszawa–Kraków, 1968–1969. S. 105.

[20] Volumina Constitutionum. T. II, vol. 1 (1550–1585). Warszawa, 2005. S. 429, 461; T. II, vol. 2. S. 166–167.

[21] Volumina Constitutionum. T. II, vol. 2. S. 135, 136, 167.

[22] Лаппо И.И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия. Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911. Приложения. С. 118.

1587 г.) і М. Францковіча-Радзімінскага (лістапад 1587 г.)[23]. Акрамя таго, Дз. Корсак удзельнічаў у працы Галоўнага сойміка ВКЛ, які адбываўся ў ліпені 1577 г. у Ваўкавыску[24]. Полацкія соймавыя паслы неаднаразова абіраліся мясцовай шляхтай дэпутатамі Трыбунала ВКЛ: Дз. Корсак (1582 і 1583 гг.), Я. Корсак (1586 і 1598 гг.), В. Друцкі-Саколінскі (1588 г.), М. Друцкі-Саколінскі (1594 і 1598 гг.), А. Мялешка (1596 г.), Я. Корсак-Галубіцкі (1595, 1604 і 1618 гг.), П. Стаброўскі (1599 г.), Я. Сямашка (1600 г.)[25]. Акрамя таго, М. Шчыт абіраўся дэпутатам Трыбунала ў 1586 г. ад Віленскага павета, А. Мялешка – у 1584, 1594 і 1600 гг. ад Слонімскага павета, В. Рэвут – у 1590 і 1597 гг. ад Мсціслаўскага ваяводства, М. Друцкі-Саколінскі – у 1590 г. ад Аршанскага павета, Я. Корсак-Галубіцкі – у 1598 г., магчыма, таксама ад Аршанскага павета[26]. Той жа Я. Корсак-Галубіцкі прыцягваўся каралеўскім дваром да выканання дыпламатычных місій: у 1596 і 1598 гг. ён прызначаўся ганцом у Маскоўскую дзяржаву[27]. Нарэшце, М. Друцкі-Саколінскі і П. Стаброўскі абіраліся соймавымі пасламі і з іншых рэгіёнаў ВКЛ. На сойм 1600 г. М. Друцкі-Саколінскі накіраваўся як пасол Віцебскага ваяводства[28]. У сваю чаргу, П. Стаброўскі толькі ў канцы XVI ст. прадстаўляў, акрамя полацкай, слонімскую (1597 г.) і аршанскую шляхту (1596 і 1600 гг.), а яшчэ ўдзельнічаў у працы соймаў 1590 і 1592 гг., але невядома, з якіх паветаў на іх быў абраны[29]. Таксама невядома, які рэгіён ВКЛ прадстаўляў на вальным сойме Рэчы Паспалітай 1590 г. А. Мялешка[30].

---

[23] Лаппо И.И. Великое княжество Литовское от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569–1586). Опыт исследования политического и общественного строя. СПб., 1901. Т. 1. С. 176; Akta zjazdów stanów… T. 1. S. 169, 182, 184, 279, 290.

[24] Akta zjazdów stanów… T. 2: Okresy panowań królów elekcyjnych XVI–XVII wiek / Oprac. H. Lulewicz. Warszawa, 2009. S. 55–56.

[25] Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1582–1696): spis / pod red. A. Rachuby. Warszawa, 2007. S. 62, 64, 71, 75, 92, 95, 99, 105, 108, 111, 123, 164.

[26] Deputaci Trybunału Głównego… S. 66, 70, 81, 93, 103, 106, 111.

[27] Российская национальная библиотека в Санкт-Петербурге (РНБ). Ф. 971. Собрание автографов П.П. Дубровского. Авт. 234. № 157. Л. 1–1отв.; Русско-белорусские связи. Сб. документов (1570–1667 гг.) / Отв. ред. Л.С. Абецедарский, М.А. Волков. Мн., 1963. С. 39; Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика / Liet. istorijos inst. Kn. 594: 1585–1600 / Parengė A. Baliulis. Vilnius, 2006. P. 217–223.

[28] Radaman A., Ferenc M. Rejestr senatorów i posłów…. S. 89–107. Верагодна, быў пасламом Аршанскага павета.

[29] Byliński J., Wasilewski T. Stabrowski Piotr… S. 282–283.

[30] Volumina Constitutionum. T. II, vol. 2. S. 140. Хутчэй за ўсё, быў пасламом Слонімскага павета.

Відавочна, што з Полацка абіраліся на соймы шляхціцы аўтарытэтныя і папулярныя, як на ўзроўні ваяводства (Дз. Корсак, Я. Корсак-Галубіцкі, Я. Лопат, Я. Корсак, Ю. Катавіцкі) ці пэўнага рэгіёна (М. Друцкі-Саколінскі, А. Мялешка), так і на ўзроўні ўсяго Вялікага Княства (П. Стаброўскі). Што датычыць Дз. Корсака, то яго варта лічыць адным з нефармальных лідараў палітычна актыўнай полацкай шляхты, прынамсі значнай яе часткі, у 1570–80-я гг. Вядома, напрыклад, што на элекцыйным сойме 1575 г. ён, адзіны з усіх земскіх паслоў ВКЛ, выказаўся за выбар каралём польскім і вялікім князем літоўскім шведскага караля Ёхана III, пры немагчымасці прагаласаваць за вялікага князя маскоўскага Івана IV[31]. У чэрвені 1577 г. частка полацкай шляхты сарвала працу сойміка, скліканага перад Галоўным соймікам ВКЛ, які меў адбыцца ў Ваўкавыску ў ліпені таго года: «*для якихсь волностей своихъ пану воеводе Полоцъкому соймику отъправовати не допустили*»[32]. «Апазіцыйная» шляхта абрала і свайго пасла ў Ваўкавыск. Ім стаў Дз. Корсак, які, верагодна, і быў адным з ініцыятараў гэтага канфлікту. Не выключана, што яго прычынай было парушэнне права полацкай шляхты самастойна абіраць свайго ваяводу. У ліпені 1576 г. кароль і вялікі князь Стэфан Баторый прызначыў новым полацкім ваяводам Мікалая Дарагастайскага, ні словам не згадаўшы ў сваім прывілеі асаблівых вольнасцей шляхты Полацкага ваяводства[33]. Пра значную папулярнасць Дз. Корсака ў ваяводстве сведчыць і тое, што ў 1589 г. ён быў прызначаны мясцовым харужым без выбараў, бо ўся полацкая шляхта і ваявода М. Дарагастайскі прасілі за яго кандыдатуру перад каралём і вялікім князем Жыгімонтам Вазам[34].

Дзейнасць полацкіх паслоў на соймах Рэчы Паспалітай у канцы XVI ст. даследаваць даволі праблематычна з прычыны недахопу крыніц. Напрыклад, за XVI ст. вядомы змест толькі адной пасольскай інструкцыі, складзенай на перадсоймавым сойміку ў Полацку ў студзені 1598 г., якая адлюстроўвае пазіцыю мясцовай шляхты па шырокім спектры праблем

[31] Lulewicz H. Gniewów o unię… S. 228–229.

[32] Akta zjazdów stanów… T. 2. S. 55.

[33] НГАБ. КМФ-18. Воп. 1. Спр. 56. Арк. 43адв.–45; Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763. Warszawa, 2002. S. 53–54.

[34] Радаман А., Галубовіч В., Вілімас Д. Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства… С. 74.

агульнадзяржаўнага і лакальнага значэння[35]. Можна яшчэ дадаць, што ў канцы XVI ст. полацкая шляхта актыўна дабівалася рэалізацыі свайго права абіраць ваяводу. Так, у інструкцыю для сенатараў і земскіх паслоў ВКЛ, складзеную на Галоўным сойміку ў 1589 г., была ўнесена просьба аб захаванні ў сіле і выпраўленні парушэнняў «*полацкага прывілея*»[36]. Безумоўна, гаворка вялася аб праве полацкай шляхты выбіраць свайго ваяводу. На Галоўным сойміку ў 1596 г. у інструкцыю зноў быў унесены пастулат полацкай і віцебскай шляхты: «*прывілеі Полацкія і Віцебскія старадаўнія, каб in suo robore [у сваёй сіле] захаваліся ў справе элекцыі Іх М. Паноў ваяводаў*», а паслы ВКЛ гэта палажэнне «*канстытуцыяй зацвердзіць на сойме маюць*»[37]. Аднак вальныя соймы 1589 і 1596 гг. ніякіх рашэнняў па гэтым пытанні не прынялі. Падчас соймавай кампаніі 1597 г. полацкая шляхта зноў узгадала аб сваіх асаблівых правах, тым больш, што ў студзені таго года памёр полацкі ваявода М. Дарагастайскі. На паседжанні Галоўнага сойміка ВКЛ 1597 г. полацкі пасол Я. Сямашка і слонімскі пасол П. Стаброўскі заклікалі, акрамя іншага, узняць на сойме пытанне аб выбарах полацкага ваяводы. І сапраўды, на сойме Жыгімонту Вазе была пададзена петыцыя ад пасольскай ізбы, у якой утрымлівалася і просьба аб тым, каб Полацкае ваяводства само абірала свайго ваяводу[38]. Адказ караля наконт элекцыі полацкага ваяводы, на жаль, невядомы. Хутчэй за ўсё, новы ваявода Андрэй Сапега ў ліпені 1597 г. быў проста прызначаны Жыгімонтам Вазам[39]. Тым не менш, на нашу думку, такая паслядоўная пазіцыя полацкай шляхты ў адстойванні сваіх старадаўніх правоў дазваляе паставіць пытанне аб даволі высокім узроўні яе лакальнай самасвядомасці.

Далейшага вывучэння патрабуе пытанне ўплыву пратэкцыянісцкіх адносін і суседска-сваяцкіх сувязяў на працу сойміка Полацкага ваяводства і, адпаведна, на вызначэнне яго соймавага прадстаўніцтва. Папярэдне можна адзначыць, што Я. Корсак-Галубіцкі быў кліентам канцлера Льва Сапегі, а М. Францковіч-Радзімінскі з'яўляўся кліентам

[35] Biblioteka Muzeum Narodowego im. Książąt Czartoryskich w Krakowie. Rkps. 2234. Nr. 51. K. 237–243.

[36] Akta zjazdów stanów… T. 2. S. 88.

[37] Ibidem. S. 121.

[38] Dyaryusze sejmowe roku 1597. S. 92, 422.

[39] Nagielski M. Sapieha Andrzej // PSB. T. 34/1, z. 140. Wrocław etc., 1992. S. 572. Механізм рэальна абіраць свайго ваяводу полацкая шляхта аднавіла толькі ў сярэдзіне XVII ст.: Галубовіч В. Полацкія ваяводы ў XVII ст. // Беларускі гістарычны часопіс. 2007. № 11. С. 37–42.

біржанскіх Радзівілаў[40]. У палітычным плане вельмі блізка звязаны з віленскім ваяводам Крыштафам Радзівілам быў П. Стаброўскі[41]. Аднак наколькі шырока на той момант былі распаўсюджаны пратэкцыяніссцкія ўплывы ў асяроддзі полацкай шляхты, адназначна сказаць немагчыма. Дарэчы, згаданы вышэй канфлікт на сойміку 1577 г. паказвае, што шляхта ваяводства не была маналітнай у сваіх сацыяльна-палітычных арыентацыях. Вядомы таксама канфлікт на сойміку ў студзені 1598 г. Полацкі ваявода, каталік А. Сапега, спрабаваў не дапусціць абрання пасламі на сойм двух пратэстантаў. Соймік не саступіў ваяводзе, і А. Сапега выступіў з пратэстацыяй супраць абраных паслоў і складзенай ім інструкцыі[42]. Разам з тым, пытанне існавання розных палітычных груповак сярод мясцовай шляхты таксама чакае свайго больш падрабязнага даследавання.

На жаль, абмежаваная і раскіданая па розных архівах ды бібліятэках база захаваных крыніц не дазваляе пакуль правесці падрабязнае даследаванне персанальнага складу і дзейнасці соймавага прадстаўніцтва Полацкага ваяводства ў XVI ст. Тым не менш, можна зрабіць некаторыя папярэднія высновы. Полацкімі пасламі на соймы Рэчы Паспалітай, як правіла, абіралася дробная, у меншай ступені сярэдняя, мясцовая шляхта з нязнатных родаў. У этнічным плане дамінавала шляхта беларускага паходжання, а канфесійная прыналежнасць паслоў была неаднароднай. Інтарэсы Полацкага ваяводства на соймах прадстаўлялі асобы, якіх можна аднесці да рэгіянальнай палітычнай эліты. Былі сярод іх і нефармальныя шляхецкія лідары (Дз. Корсак, П. Стаброўскі). Актыўная парламенцкая дзейнасць спрыяла палітычнай кар'еры шляхціца і на лакальным, і на агульнадзяржаўным узроўні. Пытанні існавання розных груповак і распаўсюджанасці пратэкцыяніссцкіх адносін сярод шляхты ды іх уплыву на фарміраванне соймавай рэпрэзентацыі Полацкага ваяводства ў канцы XVI ст. патрабуюць свайго далейшага і больш глыбокага вывучэння.

[40] РНБ. Ф. 971. Авт. 234. № 157. Л. 1; Ragauskienė R. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės kancleris Mikalojus Radvila Rudasis (Apie 1515–1584 m.). Vilnius, 2002. P. 331–332, 373.

[41] Byliński J., Wasilewski T. Stabrowski Piotr… S. 282–285.

[42] Jarmiński L. Bez użycia siły. S. 213–214; Nagielski M. Sapieha Andrzej. S. 572.

*Пікулік А.М.*

## Мастацкая структура магілёўскіх брацкіх кірылічных старадрукаў і традыцыі Ф. Скарыны

Вялікі сын беларускага народа, «избранный муж в лекарских науках доктор Франциск Скоринин сын с Полоцка», які стаяў ля вытокаў усяго ўсходнеславянскага кнігадрукавання, у галіне практычнай дзейнасці зрабіў для беларускай кніжнасці надзвычай многа. Сваімі выданнямі Скарына ўпершыню пазнаёміў беларускае насельніцтва з вытворча-тэхналагічнымі асновамі кірыліцкага кнігадрукавання, стварыў першыя ўзоры кнігі на роднай мове, упершыню ў славянскім кнігадрукаванні выкарыстаў тытульны ліст; цудоўныя гравюры скарынінскіх кніг, уведзеныя дзеля таго, «абы братия моя Русь люди посполитыя чтути могли лепней разумети», а таксама графіка іх шрыфтоў, мастацкія асаблівасці ініцыялаў, заставак аказалі моцны ўплыў на ўсе пакаленні беларускіх мастакоў кнігі. Паміж скарынаўскімі выданнямі, натхнёнымі геніяльным першадрукаром і выкананымі лепшымі еўрапейскімі майстрамі, і кнігамі магілёўскай Богаяўленскай брацкай друкарні, выдадзенымі ў канцы XVII–XVIII стст., на зыходзе беларускай старадрукаванай кнігі, і здзейсненымі ў большасці паўпрафесійнымі і непрафесійнымі народнымі майстрамі, — вялікая адлегласць. Але, тым не менш, і яны зазналі ўздзеянне традыцый першадрукара, у тым ліку — і ў структуры сваіх выданняў.

Абавязковы элемент усіх магілёўскіх выданняў — тытульны ліст — упершыню з’явіўся, як вядома, у пражскім выданні скарынаўскай Бібліі. Ён пачынаў тут як кожную асобную кнігу, так і Біблію ў цэлым. Услед за Скарынай тытульны ліст надрукаваў Сымон Будны ў сваім «Катэхізісе» (1562), ёсць ён і ў «Евангеллі» Васіля Цяпінскага (1572), у канцы XVI–XVII стст. тытульны ліст становіцца неабходным элементам многіх выдадзеных на землях ВКЛ кніг. Вельмі паказальна з’яўленне тытула ў заблудаўскім выданні «Евангелля вучыцельнага» Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца 1569 года; маскоўскія выданні гэтых друкароў, як вядома, тытульных лістоў не мелі. Рускія кнігі ўвогуле не ведалі іх да

пачатку XVIII стагоддзя, выходныя звесткі тут, як правіла, змяшчаліся ў канцы – у калафоне.

Даследчыкі адзначаюць, што ў практыку пасляскарынаўскага кірыліцкага кнігадрукавання на Беларусі ўвайшлі дзве «выяўленча-інфармацыйныя» формы тытула: тытул, у якім выява і тэкст (назва кнігі, прозвішча аўтара, перакладчыка, месца выдання) як бы адыгрываюць аднолькавую ролю; тытул, у якім шрыфтавая кампазіцыя дамінуе над выявай1[1]. Першы характэрны для пражскіх выданняў Скарыны, куцеінскіх тытулаў, другі – для віленскіх кніг Скарыны, «Катэхізіса» Буднага, заблудаўскіх выданняў Фёдарава і Мсціслаўца. У магілёўскіх выданнях прысутнічаюць абодва тыпы тытульных лістоў. Першы пераважаў у ранні і самы плённы перыяд дзейнасці друкарні, калі іх выконвалі вядучыя магілёўскія мастакі – Максім і Васіль Вашчанкі, Фёдар Ангілейка («Акафісты», «Псалтыр» 1693, «Дыоптра» 1698, «Неба Новае» і «Перла мнагацэннае» 1699 і інш.). Пазней, у сярэдзіне – другой палове XVIII стагоддзя, тут з'яўляюцца тытульныя лісты другога тыпу («Малітвасловец» 1743, «Катэхізм» 1761 і інш.). Пазбаўленыя ў большасці выпадкаў фігуратыўных ці арнаментальных выяў, такія тытулы ўяўляюць сабой тэкст з выхаднымі звесткамі кнігі, якія размешчаны ў абрамленні літога наборнага арнаменту. Такое сціплае вырашэнне загаловачнай старонкі цалкам адпавядае агульнаму невысокаму паліграфічнаму і мастацкаму ўзроўню брацкіх выданняў тых часоў.

Яшчэ да з'яўлення першых магілёўскіх брацкіх выданняў у беларускай кніжнай графіцы былі выпрацаваны і асноўныя кампазіцыйныя тыпы тытульных лістоў: архітэктурна-дэкаратыўны і жанрава-ілюстрацыйны. Важную ролю ў развіцці гэтых тыпаў тытульных аркушаў адыграла віленская Святадухаўская друкарня, з чыіх выданняў, крыху змененых, такія тытулы перайшлі ў кнігі еўінскіх і куцеінскіх майстроў. Куцеінскія майстры ўпершыню ў беларускім кірыліцкім кнігадрукаванні сталі шырока выкарыстоўваць у тытулах медальёны з фігуратыўнымі выявамі (загаловачны ліст «Брашна духоўнага» 1639, «Дыоптры» 1654 і інш.).

Магілёўскія гравёры перанялі вопыт сваіх куцеінскіх калег, аднак у іх выданнях абодва раней існаваўшыя адасоблена кампазіцыйныя

[1] Иван Фёдоров и восточнославянское книгопечатание. – Минск, 1984. – С. 93.

тыпы тытулаў зліліся ў адзін: у брацкіх кнігах немагчыма адшукаць архітэктурна-дэкаратыўны ці жанрава-ілюстрацыйны тытул «у чыстым выглядзе». Архітэктурныя ці арнаментальныя матывы самым цесным чынам зніты тут з фігуратыўнымі выявамі, што таксама сведчыць аб пэўным спрашчэнні мастацкага аздаблення кірыліцкіх выданняў у гэты час.

Працэс спрашчэння кніжнага афармлення ў магілёўскіх выданнях можна заўважыць і ў выкарыстанні такіх яго элементаў, як застаўка, канцоўка, ініцыял, якія прысутнічаюць у большасці брацкіх кніг. Паказальна, што значэнне гэтых элементаў з цягам часу значна мянялася: яно было тым большым, чым меншую ролю адыгрывала ў кнізе ілюстрацыя. Так, у перыяды росквіту фігуратыўнай ілюстрацыі застаўкі і канцоўкі адступалі на другі план, адыгрывалі падпарадкаваную ролю, што, дарэчы, далёка не заўсёды адбівалася на ўзроўні іх выканання. У крызісныя для друкарні моманты, пачынаючы з сярэдзіны XVIII стагоддзя, застаўкі, канцоўкі, ініцыялы становяцца адзінымі элементамі мастацкага аздаблення брацкіх кніг.

Вядома, што застаўка мела даўнія і трывалыя традыцыі ў славянскай кнізе: упрыгожваючы спачатку рукапісную, а потым і друкаваную кнігу, яна часам была найважнейшым і адзіным элементам кніжнай арнаментыкі. У выданнях Францыска Скарыны застаўка арганічна спалучала ў сабе як функцыянальныя, так і эстэтычныя якасці. Сам Скарына пісаў, што «заставица» ў яго кнігах «для лепшага разделения чтущим положена суть». Асабліва ўзрастае роля застаўкі ў віленскіх выданнях першадрукара. У пасляскарынінскім кірыліцкім кнігадрукаванні застаўкі шырока выкарыстоўваліся ў заблудаўскіх выданнях Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, у арнаментыцы выданняў віленска-еўінскай і куцеінскай друкарняў. З цягам часу характэрныя для XVII — пач. XVIII стст. дэкаратыўныя застаўкі змяняюцца застаўкамі выяўленча-ілюстратыўнымі, якія цесна былі звязаны з ідэйна-зместавай пабудовай кнігі. Фігуратыўныя застаўкі складаюць самую вялікую групу магілёўскіх заставак, яны сустракаюцца амаль ва ўсіх надрукаваных тут кнігах і вылучаюцца значнай кампазіцыйнай і сюжэтнай разнастайнасцю. Нягледзячы на тое, што ні на адной з іх няма аўтарскага подпісу, відавочна, што выконваліся яны тымі ж майстрамі, якія працавалі і над ілюстрацыямі.

Другую, менш цікавую і не такую шматлікую, групу складаюць магілёўскія застаўкі так званага «страрадрукарскага стылю». Асновай

іх з'яўляецца стылізаванае лісце з вострым зубчастым контурам. На яго фоне нярэдка пададзены стылізаваныя кедравыя шышкі, гранатавыя яблыкі, галоўкі маку, разнастайнай формы кветкі і лісце. Як сведчаць гісторыкі кнігі, вытокі такіх выяў трэба шукаць у рукапісных кнігах Троіца-Сергіевай лаўры, якія творча перапрацавалі матывы гравіраванага на медзі алфавіта нямецкага майстра І. Ван Мекенема[2]. Уведзены ў беларускую друкаваную кнігу Францыскам Скарынай, старадрукарскі, ці «чарнавы», арнамент з цягам часу значна змяніўся: у інтэпрэтацыі магілёўскіх гравёраў раслінныя матывы набылі больш спакойныя, павольныя формы, застаўкі ў шэрагу выпадкаў страцілі свае складаныя навершы. Застаўкі «старадрукарскага стылю» з'явіліся ў магілёўскіх выданнях у адзін час з фігуратыўнымі і амаль зніклі ў сярэдзіне – другой палове XVIII ст.

Канцоўкі магілёўскага друку вылучаюцца невялікай сюжэтнай і кампазіцыйнай разнастайнасцю. Па нашых назіраннях, усе яны надрукаваны з чатырох дошак, пры гэтым дзве найбольш распаўсюджаныя канцоўкі – картушы – выкананы пад уплывам больш ранніх украінскіх выданняў.

Значную ролю ў любой славянскай кнізе заўсёды адыгрывалі ініцыялы, прысутнічаюць яны і ў большасці магілёўскіх старадрукаў. Іх можна падзяліць на некалькі груп. Да першай адносяцца вялікія ініцыялы, якія, відавочна, вядуць пачатак ад украінскіх страцінскіх выданняў пачатку XVII стагоддзя, найбольш поўна яны прадстаўлены ў брацкім «Евангеллі вучыцельным» 1697 года. Асобную групу складаюць малыя ініцыялы, звязаныя з пражскімі і віленскімі ініцыяламі Скарыны. Значна спрошчаныя магілёўскімі майстрамі буквіцы першадрукара толькі служылі адпраўным пунктам для самастойных работ брацкіх гравёраў. Трэцюю групу магілёўскіх ініцыялаў складаюць так званыя ламбарды, якія зрэдку тут сустракаюцца. Цікава, аднак, што даволі часта ўсе гэтыя ініцыялы прысутнічаюць у адным выданні, як, напрыклад, у «Дыоптры» 1698 года і інш.

Такім чынам, майстры магілёўскай брацкай друкарні, якія выкарыстоўвалі традыцыйную схему аздаблення кнігі, ішлі па шляху значнага спрашчэння ўсіх яе мастацка-графічных элементаў. Такі

[2] Киселёв, Н.П. Происхождение московского старопечатного орнамента / Н.П. Киселёв // Книга. Исследования и материалы. – М., 1965. – Сб. 11. – С. 167 – 199.

працэс сведчыць як аб агульным крызісе беларускага кірыліцкага кнігадрукавання XVII–XVIII стст., так і аб непазбежнай трансфармацыі ўстойлівых мастацкіх формаў пры выкарыстанні іх мастакамі-самавукамі.

На гэтым фоне яркай і сапраўды своеасаблівай з'явай здаецца магілёўская фігуратыўная ілюстрацыя.

Як вядома, першымі прыкладамі ілюстраваных выданняў у беларускім кнігадрукаванні сталі пражскія і віленскія кнігі Францыска Скарыны, чые дрэварыты, як адзначаў Д. Равінскі, «по отличной работе, по композиции и художественному исполнению своему не имеют ничего общего с гравюрами, которые встречаются в других славянских книгах»[3]. Сапраўды, гэтыя 52 дрэварыты – адна з выдатных старонак гісторыі беларускага мастацтва. У іх ужо ў пачатку XVI стагоддзя былі пастаўлены і вырашаны складаныя праблемы анатоміі чалавека, перспектывы, перадачы прасторы, пластыкі, формы. Гравюры Скарыны, якія па сваім мастацкім узроўні былі выдатнымі творамі еўрапейскага маштабу, так і засталіся ў беларускім кнігадрукаванні недасягальным узорам тэхнікі і культуры кнігавыдавецтва, майстэрства набору, дасканаласці аздаблення для ўсіх пакаленняў мастакоў кнігі, якія працавалі пазней. Скарынінскія ілюстрацыі паўплывалі на гравюры «Брэсцкай Бібліі» 1563 года, выдадзенай на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага.

А ў кірыліцкім кнігадрукаванні мы не ведаем ніводнай ілюстраванай кнігі да 1570 года, г. зн. да выданняў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца. Фігуратыўны франтыспіс, які ўпершыню скарыстаны ў іх кнігах, хутка стаў асноўным элементам афармлення беларускіх старадрукаў і дамінаваў да сярэдзіны XVII ст. Першай пасля выданняў Скарыны віленскай кнігай з ілюстрацыямі да тэксту стаў «Часаслоў» 1617 года, надрукаваны ў друкарні Мамонічаў. Традыцыі віленскай школы атрымалі далейшае развіццё ў дзейнасці Куцеінскай друкарні. Менавіта тут у сярэдзіне XVII ст. выйшла мноства ілюстраваных фігуратыўнымі дрэварытамі кніг: «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» (1637), «Брашна духоўнае» (1639), «Трэфалагіён» (1647) і інш. Ілюстрацыі куцеінскіх кніг вылучаюцца непасрэднасцю, цеплынёй, шчырасцю, яны вельмі блізкія да традыцый народнага мастацтва, лубка.

[3] Ровинский, Д.А. Русские гравёры и их произведения с 1564 года до основания Академии художеств / Д.А. Ровинский. – М., 1870. – С. 5.

Безумоўнае дасягненне магілёўскай брацкай друкарні ў тым, што фігуратыўныя ілюстрацыі ўпрыгожваюць тут не асобныя (як куцеінскія) кнігі, а большасць з іх. Мяняецца значэнне асобных відаў ілюстрацыі: істотна зніжаецца роля франтыспісаў за кошт павелічэння ролі старонкавай ілюстрацыі ў тэксце. У большасці выпадкаў ілюстраванне магілёўскіх кніг было вельмі падрабязным. Так, «Акафісты» 1698 года маюць 16 ілюстрацый, «Ірмалой» 1700 года — 32, «Акафісты і каноны» 1726 года — 23, «Акафісты» 1693 года — не менш 33 ілюстрацый. Ілюстраваліся самыя важныя моманты апавядання, асноўная ўвага ўдзялялася сюжэтам Новага Запавету, былі створаны цэлыя цыклы — «Страсці Хрыста», «Жыццё Марыі» і інш. Ілюстрацыі размяркоўваліся ў кнізе раўнамерна, а сувязь ілюстрацыі і тэксту часам трактавалася дастаткова адвольна.

Важнай навізной стала тое, што ілюстрацыі выданняў магілёўскай брацкай друкарні выконваліся ў двух тэхніках: дрэварыце і гравюры на медзі. Першая з гэтых тэхнік была традыцыйнай — з часоў Скарыны «абразны» дрэварыт панаваў у беларускай кірыліцкай кнізе, другая — з'явай для кірыліцкага кнігадрукавання новай, хаця ў лацінапольскіх выданнях медзярыт быў даволі распаўсюджаным. Не апошнюю ролю ў з'яўленні медзярытаў у брацкіх выданнях адыграла тое, што арганізатарам і арандатарам друкарні напачатку быў Максім Вашчанка, які набыў мастацкую адукацыю ў Вільні і авалодаў тэхнікай гравюры на метале ў віленскім гуртку графікаў пад кіраўніцтвам вядомага майстра Аляксандра Тарасевіча. Таму зусім натуральна, што, вярнуўшыся ў Магілёў і атрымаўшы ў арэнду брацкую друкарню, ён імкнуўся прымяніць свае навыкі. Цікава, аднак, тое, што медзярыты заўсёды прысутнічаюць у магілёўскіх выданнях толькі ў спалучэнні з дрэварытамі: можна назваць шмат брацкіх выданняў, ілюстраваных толькі дрэварытамі, і нельга назваць ніводнай, дзе былі б толькі гравюры на медзі. Магчыма, у гэтым адбілася няўпэўненасць друкароў, якія ўводзілі ў кнігу новую для іх тэхніку.

Большасць ілюстрацый магілёўскіх старадрукаў пераходзяць з аднаго выдання ў другое. Адбіткі з адной і той жа дошкі трапляюцца ў кнігах, што выйшлі з перапынкам нават у некалькі дзесяцігоддзяў, што, безумоўна, ускладняе іх даследаванне, аднак падаецца слушным назваць два асноўныя перыяды плённага ілюстравання магілёўскіх старадрукаў. Першы і важнейшы перыяд ахоплівае 90-я гады XVII і 10-я гады XVIII стст. У гэты час у магілёўскай брацкай Богаяўленскай

друкарні працавалі такія вядучыя яе майстры, як Максім і Васіль Вашчанкі, Фёдар Ангілейка, Афанасій П. (Пігарэвіч?). Іх намаганнямі ілюстраваліся самыя вядомыя магілёўскія кнігі: «Акафісты» (1698), «Дыоптра» (1698), «Неба Новае» і «Перла мнагацэннае» (1699), «Ірмалой» (1700), «Кніга жыцій святых» (1702) і інш. Ілюстрацыі гэтага часу — найвышэйшыя дасягненні ўсёй магілёўскай школы гравюры.

Другое, трэцяе і чацвёртае дзесяцігоддзі XVIII стагоддзя адзначаны некаторым зніжэннем агульнага паліграфічнага і мастацкага ўзроўню брацкіх кніг: колькасць ілюстрацый значна зніжаецца, друкуюцца яны пераважна са старых дошак. Другі, вельмі кароткачасовы ўздым магілёўскай кніжнай ілюстрацыі звязаны практычна з адзіным выданнем — «Трэфалагіёнам» 1748 года. У ім шмат ілюстрацый-дрэварытаў, большасць з якіх была адбіткам са старых (канца XVII — пачатку XVIII стст.) дошак, а частка выканана спецыяльна для гэтага выдання, хутчэй за ўсё адным і тым жа мастаком, які не пакінуў нам свайго подпісу. Па ўзроўні яго работы, блізкія да традыцый народнага мастацтва, саступаюць гравюрам майстроў пачатку XVIII стагоддзя, і ўздымам іх можна назваць толькі на фоне зніжаных патрабаванняў да мастацкай аздобы выданняў гэтага часу.

Такім чынам, магілёўская брацкая друкарня, якая пачала сваю дзейнасць з росквіту кніжнай ілюстрацыі, паступова растрачвала свае заваёвы ў гэтай галіне. Аднак кніжная ілюстрацыя канца XVII — пачатку XVIII стст. — адна з цікавейшых старонак гісторыі беларускай ілюстраванай кнігі. Грунтуючыся на дасягненнях папярэдніх друкарскіх школ, мастацтва кнігі магілёўскай брацкай друкарні як бы падсумавала вынікі яго папярэдняга развіцця. На кароткі тэрмін, упершыню з часоў Скарыны, фігуратыўная старонкавая ілюстрацыя робіцца галоўнай у мастацкім аздабленні кнігі.

*Смирнова Т.Р.*

# Художественно-речевая деятельность детей в системе музейно-педагогических занятий. Роль книги в становлении личности

Для сотрудников НПИКМЗ дети не просто частые посетители, но очень важные персоны, которым адресованы музейно-педагогические программы, выставки, различные мероприятия.

С 1991 года опытными педагогами: Т.А. Джумантаевой, Г.П. Ладисовой, Л.В. Ласточкиной, И.Е. Песиной, О.Д. Краско, Е.В. Шумович и др. — была внедрена система музейно-педагогических занятий разной тематики.

Эстафету у профессионалов приняли новые сотрудники музеев, которые усовершенствовали музейно-педагогическую работу с учётом современных требований и подходов.

Разработано 45 занятий разной тематики, которые проходят во всех музеях по определённой системе и графику. Десять занятий проводят сотрудники Музея книгопечатания. Залы музея на это время становятся «кораблём» для путешествия по реке истории к морю знаний.

Сотрудники всех музеев понимают, что работа с детьми — это не «упрощённая» работа со взрослыми, а кропотливый труд с творческой индивидуальной личностью.

Для эмоционального восприятия музейного предмета ребёнком сотрудники используют разные формы и методы:

- сюрпризные моменты (весёлый Буратино приглашает детей 5-ти лет в залы Музея книгопечатания, а герои из произведения К. Чуковского «Муха-Цокотуха» пьют с посетителями ароматный чай из самовара);
- театрализации (на занятии «Евфросиния Полоцкая. Рукописная книга» для укрепления веры в реальность происходящего исполнитель роли Евфросинии рассказывает о рукописной книге; для детей среднего школьного возраста и для учеников 10 классов приготовлен сюрприз — они сами играют роль Ф. Скорины и повествуют о книге от его имени);

- опыты, эксперименты (занятие «О чём рассказывают раскопки» – для детей 7 лет);
- словесно-дидактические игры, загадки, элементы художественного слова;
- используются возможности компьютерного зала (игры, презентации, логические упражнения).

Каждая программа имеет свои цели, а на занятиях решаются разные задачи воспитательно-образовательного характера. Познавательно-речевая деятельность – неизменная составляющая каждого из них.

Не секрет, что интерес к книге, к чтению, вхождению в книжную культуру с каждым годом снижается. Вовсе не случайно 2003–2012 гг. ООН объявила Десятилетием грамотности.

Вот почему и для нас вопросы формирования интереса у детей к художественной литературе требуют повышенного внимания.

Начиная уже с дошкольного возраста (программа «Здравствуй, Музей!») дети совершают для себя неожиданные открытия. Музейные педагоги художественной галереи учат прислушиваться, всматриваться, слышать и понимать «тихую жизнь» картин. На занятии «Волшебный гончарный круг» дети узнают об удивительных свойствах глины, о жизни наших прабабушек и прадедушек. Одним словом, на всех занятиях, начиная с 4-х лет и до 4 класса, сотрудники музеев учат ребёнка видеть историко-культурный контекст окружающих вещей (т.е. оценивать его с точки зрения развития истории и культуры).

В своих рассказах педагоги используют незнакомые для ребёнка слова, такие как: «музей», «памятник», «предки», «время», «культура», «народ» и многие другие. Грамотная, насыщенная глаголами, прилагательными, наречиями речь педагога помогает ребёнку разъяснить языковые «загадки».

В ходе каждого занятия создаётся понятийный словарик: дети повторяют новые слова, читают их, зарисовывают, напевают, пользуются символами-буквами при составлении ответов, высказываний. Ведь каждое музейное занятие проходит в ином пространстве, и материал занятий переносит присутствующих в разное время.

Использование стихов и загадок расширяет и развивает художественно-эстетические представления у детей. Материал каждого музейно-педагогического занятия становится для ребёнка и педагога источником для совместного наблюдения и изучения. Общение между музейным педагогом и детьми проходит в ситуации диалога, в

котором используются фрагменты литературного произведения, что способствует формированию у детей образного и понятийного восприятия предмета, а также — образной и понятийной стороны слова. Ведь художественный словесный образ, наглядно и эмоционально отображающий явления действительности, ребёнок воспринимает легче, нежели рассуждения и поучения.

Наравне с эмоциональной стороной восприятия музейного предмета появляется и словесно-художественный образ. Экспозиция, предметы в ней становятся для ребёнка и педагога предметом совместного наблюдения и изучения. Поэтому сотрудники стараются говорить не перед ребёнком и не вместо него, а с ним, создавая ситуацию диалога.

Мы затронули вопрос о влиянии художественного слова на развитие личности в процессе проведения музейно-педагогических занятий.

С дошкольного возраста книга становится главным музейным предметом, который изучают дети.

Книга — величайшее достижение культуры, могучее средство эмоционального, нравственного, эстетического, умственного воспитания детей. Маленький ребёнок, воспринимая художественное произведение, живёт вместе с его героями, сочувствует одним и по-детски осуждает других. В сознании ребёнка вырабатывается определённое отношение к явлениям окружающей действительности, к поступкам людей. Прочитанная в детские годы книга производит настолько сильное впечатление, что остаётся в памяти на всю жизнь. Но любовь к книге не приходит к ребёнку сама по себе. Здесь необходима помощь взрослого.

Уже с 5-ти лет (программа «Здравствуй, Музей!») происходит встреча с книгой в залах Музея белорусского книгопечатания. На музейном занятии «Путешествие в книжный мир» мы знакомим с книгой-игрушкой, книгой-энциклопедией, книгой-загадкой и др. Разными методами и приёмами формируем эмоциональный образ у детей, а главным объектом при этом выступает книга. А ведь известно, что в эмоциональном образе отражаются как внешние объекты ситуации, так и собственные переживания ребёнка, испытанные в ней. Затем этот образ становится причиной возникновения повторных переживаний: это значит — ребёнок хочет потрогать и рассмотреть страницы, иллюстрации книги, он восхищается их яркостью, сказочностью.

Если взрослый успел (будь это мама или папа, воспитатель или учитель, библиотекарь или музейный педагог) сформировать интерес к

книге, а также показать роль книги как источника знаний, как помощника, который учит размышлять над информацией, даёт возможность пофантазировать, переживать чувства героев, то, можно сказать, что вы, уважаемый взрослый, ввели ребёнка в мир книги.

Вышесказанные выводы мы можем подтвердить своими наблюдениями, результатами исследований и экспериментов.

С 2001 г. совместно с психологом базового дошкольного учреждения № 29 г. Полоцка мы начали проводить диагностику с целью изучения уровня сформированности активного словаря дошкольников 4–5-ти лет. Работа проводилась в начале и в конце учебного года.

Результаты таковы. Наши испытуемые к концу года достаточно хорошо овладели навыками разговорной речи, использовали прилагательные при описании музейного предмета, достаточно свободно употребляли во время диалога глаголы и слова музейной терминологии. Немаловажную роль в этом играют педагоги дошкольного учреждения и семья.

В 2008 и в 2009 годах мы провели опрос детей. Использовали рисуночный тест «Назови героев сказок». Каждому ребёнку предъявлялись 10 карточек с изображением героев известных сказок и художественных произведений. В опросе участвовало 2 группы детей дошкольного возраста (42 человека) и 2 первых класса детей СШ № 1 г. Полоцка (44 человека).

56 % опрошенных детей безошибочно назвали героев сказок, смогли фрагментарно передать текст (на выбор испытуемых), сказали, что любят слушать сказки перед сном.

24 % опрошенных детей признались, что предпочитают смотреть сказки по телевизору, на компьютере.

20 % – предпочитают чтению игры, спортивные развлечения, общение с одноклассниками.

Экспериментальную работу мы продолжали с детьми всех возрастов. Полученные результаты дают нам возможность осуществлять корректировку тем занятий, целей и задач. Цикл занятий из программы «История привычных вещей» помогает детям 6-ти лет отправиться в путешествие в неведомый мир тайн и открытий. Вместе с музейными педагогами Детского музея они изобретают песочные часы, весы и др. предметы. А на одном из занятий дети узнают об истории создания рукописной книги и истории книгопечатания. Информация подаётся с учётом всех возрастных и индивидуальных особенностей. Образы

Франциска Скорины и Евфросинии Полоцкой воспринимаются ребятами более осознанно.

Цикл занятий из программы «Мы пришли в музей» позволяет детям семилетнего возраста познакомиться с тематикой экспозиционных комплексов всех музеев нашего города. Предварительно дети узнают о работе экскурсовода, осознают смысл слова «экспонат», совершают путешествие в реставрационные мастерские.

Особое внимание мы уделяем в этом возрасте тому, чтобы дети посетили Музей белорусского книгопечатания. Ведь всем известно, что книга – это источник знаний. Музейная экспозиция, формируя знания, вызывая эмоциональные и художественные образы, помогает школьнику понять, почему возникла у человека потребность в изобретении книгопечатания.

В 8 лет наши посетители начинают относиться к книге как к основному и главному источнику знаний. А помогают им в этом сотрудники музея книгопечатания на занятии «Как раньше учились дети».

Особое чувство патриотизма и гордости за свой город, его прошлое, формируют музейные педагоги данного музея на занятиях с детьми четвёртых классов:

«Евфросиния Полоцкая. Рукописная книга»;

«Жизнь и деятельность Ф. Скорины»;

«Симеон Полоцкий».

Вместе с педагогами ребята пишут на восковых табличках и пером в скриптории; им даётся возможность потрогать и посмотреть рукописную книгу, а потом изготовить её своими руками.

Сотрудники музея многое делают для того, чтобы воспитывать уважительное отношение к родному белорусскому языку.

Ещё одной тенденцией в образовательной и научной деятельности Национального Полоцкого историко-культурного музея-заповедника является организация семинаров и выставок для педагогов дошкольных учреждений. Проводим мы их два раза в год по разным темам.

Т.о., задачи формирования гармоничной личности с широким культурным мировоззрением встают как перед школой, дошкольным учреждением, так и перед музеями. Такое совмещение интересов позволяет налаживать партнёрство, плановую общественную деятельность, создавать интегрированные программы, формировать гармонично развитую личность.

**Список литературы**

1. Артёмов, Е.Г. Музейно-педогогические технологии / Е.Г. Артёмов. – СПб, 2006.

2. Бесова, М.А. Познавательные игры младших школьников / М.А. Бесова. – Минск: УП ИВУ Минфина, 2005.

3. Гатанова, Н.В. Тесты для подготовки ребёнка к школе детей 6–8 лет / Н.В. Гатанова, Е.Г. Тунина. – СПб.: Издательский дом «Нева». – М.: Олма-пресс, 2001.

4. Кон, И.С. Психология ранней юности / И.С. Кон. – М.: Просвещение, 1989.

5. Коссова, И.М. Музей. Образование. Культура. Процессы интеграции / И.М. Косова. – М.: Бранден, 1999.

6. Левыкина, К.Г., Музееведение / К.Г. Левыкина, В. Хербста. – М.: Высш. школа, 1988.

7. Люблинская, А.А. Учителю о психологии младшего школьника / А.А. Люблинская. – М.: Просвещение, 1977.

8. Мелих-Пашаев, А.А. Психологические проблемы эстетического воспитания школьников / А.А. Мелих-Пашаев // Вопросы психологии. – 1989. – № 1.

9. Сенько, Т.В. Успех и признание в группе / Т.В. Сенько. – Минск: Народная асвета, 1991.

10. Столяров, Б.А. Музей в системе образования (к проблеме специфики музейно-педагогической деятельности в современном социокультурном процессе) / Б.А. Столяров // Международный музейно-педагогический семинар «Здравствуй, музей!»: тезисы – СПб., 1995.

11. Столяров, Б.А. ГРМ. Художественный музей в образовательном процессе / Б.А. Столяров, А.Г. Бойко. – СПб., 1998.

12. Столяренко, Л.Д. Основы психологии / Л.Д. Столяренко. – Ростов-на-Дону: Феникс, 1997.

13. Детская психология: учеб. пособие / под ред. Я.Л. Коломинского. – Минск, 1988.

14. Общая психология: учебник для студентов пед. Институтов / под ред. проф. А.В. Петровского. – М.: Просвещение, 1977.

*Талецкая І.І.*

## Кнігавыдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны

Узнікненне беларускага кнігадрукавання ў першай чвэрці XVI ст. звязана з дзейнасцю Францыска Скарыны. Друкарні, заснаваныя ім у Празе і ў Вільні, адыгралі выдатную ролю ў сцвярджэнні прэстыжу друкаванай кнігі і распаўсюджванні яе ў Беларусі, Літве, Украіне і Расіі. Выданні Скарыны аб'ектыўна падрывалі духоўную манаполію царквы, садзейнічалі развіццю секулярызацыйных і рэфармацыйнарацыяналістычных тэндэнцый, новых моўных працэсаў у беларускай літаратуры і пісьменнасці.

Несумненна, што на выдавецкую дзейнасць і светапогляд Ф. Скарыны значны ўплыў аказалі ідэі гуманізму, Адраджэння і Рэфармацыі. Але адна з галоўных мэт яго выдавецкай дзейнасці — асветніцкая. Аднак паколькі ён (як і ўсе без выключэння гуманісты) не мог яшчэ цалкам адлучыцца ад светапогляду сярэднявечча, якое было пераважна тэалагічным, то ён паспрабаваў, абапіраючыся ў асноўным на Біблію, прыстасаваць гэты стары тэалагічны светапогляд да новых умоў, прымусіць яго служыць зямному, а не нябеснаму свету.

Менавіта з гэтай мэтай было прадпрынята выданне на роднай мове ў першую чаргу тых кніг Бібліі, якія ва ўмовах таго часу маглі быць выкарыстаны ў практычным жыцці чалавека, у працэсе яго адукацыі і выхавання, не магчымых, паводле Ф. Скарыны, без веры ў Бога [**1**, с. 31]. Гэтыя ідэі беларускага асветніка ясна выражаны ў агульным загалоўку перакладзенага і выдадзенага ім «Старога Запавету»: «Бивлия руска выложена доктором Франциском Скориною из града Полоцка Богу ко чти и людям посполитым к доброму научению».

Такім чынам, прадпрымаючы выданне Бібліі на беларускай мове, Скарына прадвызначаў яе не столькі для выратавання душы, колькі для вывучэння «седми наук вызволенных»: «Хощеши ли умети граматику… знайдеши в зуполной Бивлии, Псалтыры, чти ее. Пакли ти ся любить разумети ло[г]ику… чти книгу светого Иова или Послания светого апостола Павла. Аще ли же помыслиши умети риторику, …чти

книги Саломоновы. Восхощеш ли пак учитися музики, ...по всей книзе сей знайдеши...» [**2**, с. 62–63]. Усё гэта сведчыць аб тым, што Скарына імкнуўся наблізіць навучанне да патрэб грамадства, падрыхтаваць чалавека да актыўнай практычнай дзейнасці.

Менавіта Прагу Скарына выбраў для сваёй першай друкарні. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што яго друкарня ў Празе не была зарэгістравана: архівы Пражскага магістрата не далі ніякіх пэўных звестак аб яго выдавецкай дзейнасці тут у перыяд 1517–1519 гг. Таму дапушчальна меркаванне, што выданні Скарыны друкаваліся ў Празе нелегальна альбо ён арандаваў друкарню. Аднак у такім выпадку выказаная Даброўскім думка аб сувязях Скарыны з польскім каралём Жыгімонтам І Старым, дзякуючы якім ён нібыта сумеў арганізаваць кніжнае прадпрыемства ў Празе, не можа быць даказана [**3**, с. 47].

Некаторыя даследчыкі лічылі, што Скарына быў уладальнікам друкарні ў Празе і, магчыма, непасрэдна займаўся кнігадрукаваннем [**4**, с. 28]. Аб тым, што Скарына кіраваў усімі кнігавыдавецкімі справамі, але не прымаў непасрэднага ўдзелу ў друкарскай дзейнасці, пераканаўча сведчаць прадмовы і калафоны да яго выданняў. Мяркуючы па тым, што выказванні «казал есми тиснути» і «повелением, працею и выкладом» [**2**, с. 15] сустракаюцца ў адных і тых жа кнігах («Іоў», «Псалтыр» і інш.), магчыма, што пад сваёй «працай» Скарына меў на ўвазе не непасрэдна друкарскую, а рэдакцыйна-перакладчыцкую дзейнасць. Такім чынам, Скарына не заўсёды сам друкаваў свае кнігі, а давяраў гэта прафесійным друкарам.

З запісаў: «А то ся стало накладом Багдана Онкава сына, радци места Виленского», атрыманых з экзэмпляраў некаторых выданняў 1517–1518 гг., вядома аб фінансаванні выдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны ў Празе Багданам Онкавым. Ён з'яўляўся віленскім купцом, з якім Скарыну звязвалі толькі фінансава-матэрыяльныя адносіны. Онкаў набыў частку тыражу пражскіх выданняў, разлічваючы збыць іх з карысцю для сябе. Але фінансавы поспех не апраўдаў намераў. Гэта прымусіла Б. Онкава адмовіцца ад падтрымкі выдавецкай дзейнасці Скарыны [**5**, с. 50–54].

Магчыма, што ў перыяд падрыхтоўкі да выдання сваіх кніг (1512–1517 гг.) Скарына прыязджаў у Беларусь і ў Вільню за рускімі рукапіснымі кнігамі, патрэбнымі яму як арыгінал для друкаваных [**6**, с. 30].

У літаратуры існуюць розныя звесткі аб колькасці кніг Бібліі, выдадзеных Ф. Скарынам у Празе. Лібровіч вызначаў гэту колькасць у 15 кніг,

Бахціяраў – у 16. Супярэчаць адзін аднаму і аўтары XX ст. У апісаннях выданняў Скарыны Неміроўскім засведчана 20 пражскіх кніг [**7**, с. 228], Прашковічам – 22 [**4**, с. 20], Алексютовічам – 23 [**3**, с. 46], Галенчанкам – 24 кнігі [**8**, с. 121]. Розная і паслядоўнасць, у якой называюць пражскія выданні. Тут прычына заключаецца ў тым, што не ўсе яны датаваны. Дакладная храналагічная паслядоўнасць можа быць прынята для 11 кніг, на якіх указаны дакладныя даты: дзень, месяц і год. На пяці кнігах Скарына зазначыў толькі год выпуску – 1519-ты. На чатырох з пяці выданняў, якія ўваходзілі ў «Пяцікніжжа», дата ўвогуле не названа.

Агульны аб'ём пражскіх выданняў – 1200 лістоў. З іх у 1517 г. надрукавана 324, у 1518 г. – 352, і ў 1519 г. – 524 лісты. Тыраж кніг Скарыны невядомы. У іх саміх адказу няма, паколькі друкары ў той час тыраж звычайна не пазначалі [**7**, с. 230].

Такім чынам, за кароткі тэрмін Скарына пераклаў, адрэдагаваў і выдаў каля 2400 старонак тэксту, які суправаджалі 49 гравюр, сотні заставак, літар загалоўка, буквіц і іншых кніжных упрыгожванняў [**1**, с. 33].

Кнігі выходзілі па меры рэдакцыйнай падрыхтоўкі, але пасля завяршэння выдання Скарына збіраўся пераплесці іх ў традыцыйнай паслядоўнасці, у тым парадку, у якім яны ішлі ў Бібліі. Менавіта з гэтай мэтай быў адбіты тытульны ліст славянскай кнігі кірылаўскага шрыфту і «Предъсловие доктора Франциска Скорины с Полоцька во всю Бивлию рускаго языка», якое ён змясціў перад «Книгой Бытия», што адкрывала Біблію. Аднак гэтае так паспяхова пачатае гістарычнае выданне не было даведзена да канца.

Па агульнаму прызнанню спецыялістаў, пражскія выданні Ф. Скарыны адрозніваюцца выключна высокімі тэхнічнымі і мастацкімі годнасцямі. Так, Уладзіміраў пісаў, што ў тыпаграфскіх адносінах яны «далеко превосходятъ не только предшествующія церковно-славянскія изданія, но даже и современныя Скоринъ венеціанскія» [**6**, с. 70]. А апошнія ў той час лічыліся лепшымі ў Еўропе.

Заслуга нашага першадрукара заключаецца яшчэ і ў тым, што, абапіраючыся на вопыт заходнееўрапейскіх выданняў, ён узбагаціў і вывеў практыку выдання кніг значна ўперад. Упершыню ў гісторыі ўсходнеславянскай кнігі Скарына ўвёў прынцып дзялення радка на словы, а тэксту – на абзацы. Ён цалкам адмовіўся ад пасшыткавай нумарацыі кніг і пачаў прымяняць паліставую, праставляючы яе на «лицевых» старонках кірылаўскімі літарамі. У загалоўках ён адмовіўся

ад мудрагелістай і цяжкачытэльнай вязі, скараціў да мінімуму колькасць надрадковых, так званых дыякрытычных знакаў — цітлаў, якімі карысталіся для скарачэння слоў. Скарына спрасціў царкоўнаславянскі алфавіт. Яго тэкставы шрыфт адрозніваўся прастатой і выразнасцю і быў вынікам творчага сплаву, з аднаго боку, беларускага паўустава, а з другога — некаторых элементаў лацінскай антыквы [**1**, с. 34].

Неабходна адзначыць таксама, што Скарына ўпершыню ўвёў у славянскую друкаваную кнігу ілюстраваныя гравюры. Даследчыкі адзначаюць рэалістычную трактоўку біблейскіх сюжэтаў на гравюрах Скарыны, відавочнае адступленне мастака ад нежывога іканапіснага стылю царкоўнага жывапісу. На пярэднім плане ў Скарыны знаходзіцца актыўны і дзеючы чалавек, які клапоціцца не аб «вечнай асалодзе» ў замагільным свеце, а перш за ўсё жыве зямнымі праблемамі.

Бясспрэчна, што лепшай са скарынаўскіх гравюр з'яўляецца партрэт самога друкара, які дайшоў да нас у трох варыянтах [**1**, с. 35]. Думаецца, што без усялякіх размоў яго можна аднесці да ліку лепшых гістарычных партрэтаў эпохі Адраджэння, якія данеслі да нас бессмяротныя вобразы такіх яскравых асоб таго часу, як Т. Мор, Т. Кампанела, Л. да Вінчы, М. Лютэр, А. Дзюрэр і інш. Партрэт рэалістычна перадае нам творчую атмасферу і асобу беларускага гуманіста.

Арыгінальнасць Скарыны праявілася таксама і ў тым, што дзеля ажыўлення сваіх выданняў ён выкарыстоўваў і вершаваную форму, у якую зашыфроўваў розныя сентэнцыі маральнага характару. У прыватнасці, у канцы прадмовы да «Книги Есьфера-Царици» першадрукар змясціў сілабічныя вершы наступнага зместу:

Не копай под другом своим ямы,
Сам ввалишся в ню.
Не став, Амане, Мардохею шибенице,
Сам повиснеш на ней [**2**, с. 109].

Скарынаўскія вершы надзвычай каштоўныя для нас як першыя пошукі сістэмы вершаскладання, «найлепшым чынам адпавядаючыя законам роднай беларускай мовы». На думку спецыялістаў, у іх геніяльна прадвызначана асноўная тэндэнцыя будучага развіцця беларускай (а шырэй — усёй усходнеславянскай) паэзіі: ад вольнай вершаванай формы праз сілабічную сістэму да сілаба-танічнай [**1**, с. 36].

Такім чынам, у кнігах Скарыны ўсё было прадумана, падабрана, зроблена з такім густам і майстэрствам (фармат, пераплёт, папера, шрыфты,

выявы, застаўкі, ініцыялы, гравюры), што да нашых дзён яны выклікаюць пачуццё гонару і захаплення ў нашчадкаў, у самых аддаленых кутках зямлі прываблiваюць увагу навукоўцаў розных профіляў, мастакоў, мастацтвазнаўцаў, людзей, якія цікавяцца сапраўднымі скарбамі культуры.

Пражскія выданні Скарыны — выдатны помнік беларускай культуры XVI ст., які сведчыць аб тым, што Беларусь у галіне кнігадрукавання ішла ў нагу з «першымі» краінамі Заходняй Еўропы.

Пражская дзейнасць Францыска Скарыны адыграла значную ролю ў станаўленні культурных сувязяў паміж усходнімі і заходнімі славянамі, працягнула шляхі да іх далейшага замацавання.

Пераклад Скарынам Бібліі на нацыянальную мову сыграў сваю вялікую ролю ў развіцці беларускай мовы і культуры. Ён выступіў не толькі сведчаннем фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларускай народнасці, але і паказчыкам дэмакратызацыі адукацыі. Біблія Скарыны была таксама моцнай зброяй супраць палітыкі паланізацыі насельніцтва беларускіх земляў.

Пасля 1519 г. (паводле меркавання Уладзімірава, у 1520 г.) Скарына пераязджае з Прагі ў Вільню, дзе адкрывае (магчыма, пры садзеянні Б. Онкава, які фінансаваў яго пражскія выданні) першую на тэрыторыі ВКЛ друкарню. Яна знаходзілася ў доме віленскага бурмістра Якуба Бабіча. У сярэдзіне 1522 г. тут выйшла ў свет «Малая подорожная книжица», а ў 1525 г. — «Апостал» [**3**, с. 48; 7, с. 418].

Да 1957 г. «Апостал» лічылі першым віленскім выданнем. Гэта меркаванне прыйшлося пераглядзець, калі ў Капенгагенскай Каралеўскай бібліятэцы быў знойдзены поўны экзэмпляр «Малой подорожной книжицы» [**10**, с. 44]. Паводле зместу яна адносілася да распаўсюджанага ў сярэднявечы жанру Псалтыра з дадаткамі. Я.Л. Неміроўскі ў 1968 г. упершыню прапанаваў лічыць састаўныя часткі «Малой подорожной книжицы» асобнымі выданнямі, паколькі кожнае з іх мае асобную фаліяцыю, а часцей за ўсё — і тытульны ліст. А.Ф. Коршунаў, Г.Я. Галенчанка і іншыя даследчыкі падтрымалі гэтае меркаванне. Такім чынам, Францыск Скарына надрукаваў у Вільні 22 выданні.

У заключэнні Скарына змясціў «Писание речи», г.зн. змест, у якім і назваў зборнік «Малой подорожной книжицей».

Асаблівую цікавасць прадстаўляе апошняя частка «Святцы краткие и пасхалия», якая ўяўляе сабой свайго роду каляндар. Яго змест сведчыць аб глыбокіх ведах Скарыны ў галіне астраноміі.

«Малая подорожная книжица», як бачна з назвы, прызначалася тым, каму прыходзілася бываць у раз'ездах, была разлічана на купцоў і рамеснікаў.

Усё гэта кажа аб тым, што «Малая подорожная книжица», якая была зручная па фармату і змяшчала неабходныя для падарожжа звесткі па астраноміі, медыцыне і г.д., як і пражскія выданні Скарыны, насіла яскрава выражаны асветніцкі і практычны характар. Яе тэкст суправаджалі пяць маляўнічых гравюр. Такім чынам, як па змесце, так і па мастацкім афармленні, яна працягвала лепшыя традыцыі пражскіх выданняў Скарыны [**1**, с. 38–39].

Услед за «Малой подорожной книжицей» Скарына ў сакавіку 1525 г. выдаў «Апостал» на царкоўнаславянскай мове, пасля чаго выдавецкая дзейнасць яго спынілася [7, с. 419–420].

Агульны аб'ём віленскіх выданняў – 780 лістоў, ці 1560 палос. Гэта прыкладна ўдвая менш, чым было зроблена ў Празе. Дакладныя даты выхаду віленскіх выданняў у свет невядомы. Таму падлічыць прадуктыўнасць працы віленскага перыяду ў параўнанні з пражскім перыядам Скарыны цяжка [7, с. 419].

У часы Скарыны кнігамі пісьменнасці былі, як вядома, кнігі рэлігійнага зместу. Адсюль можна назіраць пераацэнку ім пазнавальнага значэння Біблії ва ўгоду яе форме, ідэалізацыі яе як крыніцы ведаў. Пры друкаванні кніг Біблії Скарына праявіў сапраўдную творчасць. Ён адступіў ад афіцыйнага тлумачэння значэння сутнасці біблейскіх тэкстаў, шырока прымяняючы прыёмы аратарскага майстэрства, вуснай паэтычнай творчасці, часта ўжываючы народныя параўнанні. У адрозненне ад еўрапейскіх гуманістаў эпохі Высокага Адраджэння, чые творы, як правіла, друкавалі прафесіяналы, Скарына зрабіў двайны подзвіг: стварыў рукапісы, вартыя друку, і ажыццяўляў іх выданне. Не трэба скідваць з рахункаў і матэрыяльную зацікаўленасць Скарыны, які, як вядома, з'яўляўся сынам полацкага купца. Але думкі і погляды Скарыны вызначаліся больш шырокімі катэгорыямі і паняццямі, чым у прадстаўнікоў яго саслоўя. Яго кнігавыдавецкая дзейнасць і творчасць выйшлі далёка за межы вузкасаслоўных рамак і пануючага ладу на Беларусі менавіта таго часу.

**Спіс літаратуры**

1. Шалькевич, В.Ф. Скорина и Скориниана / В.Ф. Шалькевич. — Минск: Право и экономика, 2001. — 120 с.

2. Скарына, Ф. Прадмовы і пасляслоўі / Ф. Скарына. — Мінск: Навука і тэхніка, 1969. — 240 с.

3. Алексютовіч, М.А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд / М.А. Алексютовіч. — Мінск: АН БССР, 1958. — 146 с.

4. Прашковіч, М. Францішак Скарына — беларускі першадрукар / М. Прашковіч. — Мінск: Нар. асвета, 1970. — 96 с.

5. Андрэявец, Р. Ці быў мецэнатам Багдан Онкаў? / Р. Андрэявец // БГЧ. — 2006. — № 5. — С. 50–54.

6. Владимиров, Л.И. Франциск Скорина — первопечатник вильнюсский / Л.И. Владимиров. — Вильнюс: Моклас, 1975.

7. Немировский, Е.Л. Франциск Скорина: жизнь и деятельность белорусского просветителя / Е.Л. Немировский. — Минск: Маст. літ., 1990. — 597 с.

8. Галенчанка, Г.Я. Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар / Г.Я. Галенчанка. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — 280 с.

9. Владимиров, П.В. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык / П.В. Владимиров. — СПб.: Типография императорской Академии наук, 1888. — 351 с.

10. Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве (сб. статей). — М.: Наука, 1979. — 72 с.

*Усовіч К.С.*

## Мовазнаўчая скарыніяна прафесара У.В. Анічэнкі

Ужо тры міжнародныя навуковыя канферэнцыі «Скарына і наш час» (2002, 2004, 2008 гг.) прайшлі без удзелу аднаго з іх ініцыятараў, доктара філалагічных навук (1970), заслужанага дзеяча навукі БССР (1978), лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР (1988), прафесара (1971) У.В. Анічэнкі (1924–2001), узнагароджанага таксама медалём Францыска Скарыны (1996).

Лінгвістычныя даследаванні У.В. Анічэнкам мовы Скарыны не толькі занялі значны перыяд у яго навукова-даследчай дзейнасці, адлюстраваны амаль у 50 вялікіх і малых публікацыях, але і з'явіліся, па яго ўласных прызнаннях і сведчаннях многіх яго вучняў і паслядоўнікаў, важнейшай справай яго як філолага і нават усяго жыцця.

Заслугі У.В. Анічэнкі ў гэтай сферы былі ацэнены не толькі пералічанымі высокімі званнямі і ўзнагародамі, але і тым, што ў памяць аб ім 3 лютага 2003 г. на філалагічным факультэце нашага ўніверсітэта былі праведзены рэспубліканскія навуковыя чытанні, 7 кастрычніка 2004 г. на базе Гомельскай славянскай бібліятэкі і ГДУ імя Ф. Скарыны – ІІІ-я Міжнародная навуковая канферэнцыя «Скарына і наш час», прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння прафесара. А 1 верасня 2005 г. была адкрыта на фасадзе корпуса № 1, у якім прафесар працаваў з 1970 па 2001 год, яго мемарыяльная дошка.

Яшчэ пры жыцці Уладзіміра Васільевіча з'явіліся яго біёграфы, якія ў сваіх публікацыях аналізавалі яго творчасць, рэцэнзавалі буйныя творы [**27**: *237–238*; **59**: пазіцыі 1–27 на 51–52 старонках]. Важнейшай друкаванай працай па выніках яго публікацый стаў кнігаграфічны агляд навукова-педагагічнай дзейнасці У.В. Анічэнкі, складзены Д.Д. Паўлаўцом і адрэдагаваны А.А. Станкевіч [**59**]. Нямала важнага і каштоўнага пра У.В. Анічэнку-скарынаведа зафіксавана ў публікацыях яго вучняў і паслядоўнікаў [**64–71**, **72–73**] і навуковых артыкулах па выніках рэспубліканскіх навуковых чытанняў у яго памяць [**64–70**]. Аўтар гэтых радкоў таксама выказаў некалькі агульных меркаванняў

аб мовазнаўчай скарыніяне прафесара У.В. Анічэнкі і высока яе ацаніў [**73**: 292–293].

Самую высокую ацэнку яго скарыназнаўчай, педагагічнай і навуковай дзейнасці далі некаторыя выкладчыкі кафедры беларускай мовы ГДУ імя Ф. Скарыны, чыімі кандыдацкімі дысертацыямі ён кіраваў або чые доктарскія кансультаваў. Вось словы некаторых з яго паслядоўнікаў і былых аспірантаў: «У.В. Анічэнка – не толькі педагог, вучоны, але і арганізатар навукі» (У.А. Бобрык і А.А. Парукаў) [**62**, с. 7]; «чалавек рэдкага таленту, энцыклапедычных ведаў, шматграннай творчай дзейнасці; знакаміты вучоны, слынны ва ўсім свеце; высокачалавечны; вялікі беларускі мысліцель і карыфей; чалавек высокай маральнай чысціні, культуры, душэўнай шчодрасці; актуальнай грамадскай пазіцыі, выдатны арганізатар педагагічнай навукі, цікавы суразмоўца, прыхільнік беларускага народнага слова, сціплы араты і сейбіт беларускай нацыянальнай нівы» (А.К. Малюк, Мазырскі педуніверсітэт) [**62**, с. 8, 9]; «сапраўдны мураш у гісторыі беларускай мовы» (Д.Д. Паўлавец) [**62**, с. 10]; «сучасны Кніжнік» (тут жа Ф. Скарына называецца «старажытным Кніжнікам». – **К.У.**), «Настаўнік» (Д.Д. Паўлавец) [**59**, с. 8, 10]; «жывая гісторыя, «родны бацька» для супрацоўнікаў кафедры ГДУ імя Ф.Скарыны; выключна энергічны; актыўны, дзейсны, таленавіты арганізатар, аптымістычны і жыццярадасны; мудры і працалюбівы, разважлівы і спрактыкаваны» (А.А. Станкевіч) [**62**, с. 14, 15].

Але глыбокага і ўсебаковага аналітычнага даследавання яго лінгвістычнай спадчыны, у тым ліку і скарыніяны, яшчэ няма. Па першым пытанні артыкул вашага пакорлівага слугі існуе пакуль што ў электронным варыянце, а па другім – прапаноўваецца вашай увазе.

Упершыню У.В. Анічэнка публічна звярнуўся да творчасці Ф. Скарыны, як відаць са спіса літаратуры, у 1962 г. [**1**]. Праз чатыры гады ён апублікаваў першае сваё спецыяльнае даследаванне на азначаную тэму [**2**] і выявіў многія скарынаўскія традыцыі ва ўкраінскай і беларускай перакладной пісьменнасці XVI–XVII стст. [**3**]. Чацвёрты раз ён звярнуўся да яе ўжо праз 2 гады – у 1967 г. [**4**]. Гэта была грунтоўная рэцэнзія на кнігу Сцяпана Майхровіча «Георгій Скарына» (Мінск: Беларусь, 1966). На гэты раз моватворчасць Скарыны захапіла яго больш сур'ёзна, і ён займаўся яе даследаваннем ужо некалькі гадоў запар – да 1970 г. Гэтыя гады навуковага вывучэння і даследавання У.В. Анічэнкам моватворчасці Скарыны ўяўляюць першы перыяд. У ім будучы

загадчык кафедры беларускай мовы нашага ўніверсітэта даследаваў скарынаўскія традыцыі на Украіне [**5**], беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі [**6**], у тым ліку і сувязі скарынаўскага перыяду, пазнаёміў расійскага чытача з агульнай творчай дзейнасцю Ф. Скарыны [7] і разам з вядучымі гісторыкамі беларускай мовы прасачыў развіццё і фарміраванне лексічнага складу беларускай мовы старажытнага перыяду, вызначыў найбольш прадукцыйныя тыпы, сродкі і шляхі фарміравання слоўнікавага ядра нашай мовы [**8**]. Праз год У.В. Анічэнка зноў звяртаецца да творчасці Скарыны. Ён вывучыў дыялектызмы ў выданнях першадрукара [**9**] і распрацаваў прынцыпы складання слоўніка мовы Скарыны [**10**]. 1970 год стаў пачаткам другога, самага працяглага і важнага перыяду, які цягнуўся да канца жыцця даследчыка (1977–2001). Хоць цэлых пяць гадоў не з'яўляліся скарыназнаўчыя публікацыі, але гэта нельга лічыць перапынкам у дадзеным перыядзе. У.В. Анічэнка патраціў іх на складанне слоўніка мовы Ф. Скарыны [**11**], першы том якога выйшаў у 1977 г. Акрамя гэтых пяці гадоў перапынку, у другім перыядзе скарыназнаўчай навукова-даследчай дзейнасці У.В. Анічэнкі трапляецца яшчэ сем гадоў (1978, 1981–1983, 1985, 1995 і 2000), у якія ў яго не з'яўлялася публікацый гэтага тыпу. У другім перыядзе, у параўнанні з першым, У.В. Анічэнкам праведзена ў колькасных і якасных адносінах самая важная навукова-даследчая скарыназнаўчая праца.

За самыя значныя з першых 26-ці публікацый на гэту тэму [**6, 8, 11, 14, 18–20, 23, 25–26 і некаторыя іншыя**], сярод якіх два тамы капітальнай трохтомнай працы «Слоўнік мовы Скарыны», у снежні 1988 г. яму была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР. Прыкладна за месяц перад гэтым (29 лістапада) Саветам Міністраў БССР была рэалізавана ініцыятыва У.В. Анічэнкі па прысваенні Гомельскаму дзяржаўнаму ўніверсітэту імя Ф. Скарыны, якое апошні і зараз з гонарам носіць на зайздрасць некаторым іншым ВНУ.

Падрабязнае знаёмства ў шырокім плане з анічэнкаўскай скарыніянай паказвае канкрэтную яе праблематыку. У.В. Анічэнка (у большасці сам, зрэдку ў сааўтарстве) узняў і ў той ці іншай ступені даследаваў ці проста асвятліў наступныя асноўныя пытанні: **1. Перадумовы дзейнасці Скарыны** [35–36]; **2. Дзейнасць Ф. Скарыны ў цэлым** [4, 7, 34–36, 41, 44]; **3. Мова Ф. Скарыны ў цэлым** [1–2, 4, 18, 29, 32]; **4. Кнігадрукарскія і моўныя традыцыі Ф. Скарыны ў выданнях яго беларускіх, рускіх і ўкраінскіх паслядоўнікаў** [3, 5–6, 26, 32, 34,

**44, 47, 58]; 5. Лексікалогія скарынаўскай мовы [8–9, 13, 16, 20, 40, 50–51, 57]; 6. Лексікаграфічныя працы па скарыназнаўстве [10–12, 14, 48, 52]; 7. Дзейнасць Ф. Скарыны ў гісторыі беларускай мовы [6, 8]; 8. У.В. Анічэнка аб даследчыках мовы Ф. Скарыны [22, 24, 39]; 9. Мовазнаўцы і журналісты аб мовазнаўчай скарыніяне У.В. Анічэнкі** [37, 43, 60–70, 72–73].

З гэтай паслядоўнасці, вызначанай намі ў адпаведнасці з важнасцю праблем, вынікае, што Уладзімір Васільевіч спачатку заняўся вывучэннем мовы Ф. Скарыны ў цэлым, потым кнігадрукарскіх і моўных традыцый першадрукара, затым дзейнасці яго ў цэлым. Па колькасці публікацый першыя тры месцы размяркоўваюцца наступным чынам: 1. Кнігадрукарскія і моўныя традыцыі Ф. Скарыны ў выданнях яго беларускіх, рускіх і ўкраінскіх паслядоўнікаў; Лексікалогія скарынаўскай мовы (дзве падтэмы); 2. Дзейнасць Ф. Скарыны ў цэлым; 3. Мова Ф. Скарыны ў цэлым; Лексікаграфічныя працы па скарыназнаўстве (таксама дзве падтэмы).

З самых першых і буйных скарыназнаўчых даследаванняў У.В. Анічэнкі патрэбна адзначыць тры тамы «Слоўніка мовы Скарыны» [**11, 14, 48**], выдадзеныя прафесарам у 1977, 1984 і 1994 гадах. У першых двух тамах змешчана сабраная складальнікам лексіка з выданняў Скарыны, праілюстраваная адпаведнымі ўрыўкамі з тэкстаў, і ў частцы якой выражана семантыка. Найбольш поўна і кваліфікавана ўвесь гэты слоўнік прааналізаваны невядомым аўтарам у энцыклапедычным даведніку «Скарына і яго час» [**28**, с. 503–504] і вядучым сучасным беларускім лексікографам В.К. Шчэрбіным. Апошні ацаніў яго як наватарскую з'яву ў беларускай лексікаграфіі і аддаў прафесару «прыярытэт у справе складання комплексных лексікаграфічных прац» [**61**, с. 93, 99]. Усе навацыі У.В. Анічэнкі В.К. Шчэрбін падзяліў на тры вялікія групы [**61**, с. 100]. Разам з тым апошні не звярнуў увагі на недахопы ва ўсіх трох тамах. У двух першых з іх складальнік, па-першае, не раскрыў семантыку шматлікіх лексем (*аматист, амин* **(т. 1, с. 14)**, *антихрист* **(с. 15)**, *астрономия* **(16)** і інш., у 2-гім: *пава* **(с. 4)**, *пазуха, палити, палец* **(5)** і мн. інш.); па-другое, у слоўнікавых артыкулах на сінонімы і фанетыка-марфалагічныя варыянты аднаго і таго ж слова прафесар адсылае чытача да значэння другога слова або варыянта, а там аказваецца, што гэтага значэння няма (**Панество**… тое што п а н а в а н н е. **Панование (панество)** *н., дзеянне па дзеяслову* п а н о в а т и.

**Пановати** *незак.* **(т. 2, с. 6), Пасвитися…** Тое, што п а с т и с я. **Пастися** *зал. да* п а с т и. **Пасти…** *незак.* **(с. 7)** і шматлікія іншыя). У трэцім томе гэтая прыкрая недапрацоўка не паўтарылася, і ўсе анамасты і тапонімы забяспечаны тлумачэннем значэння.

Вялікая колькасць скарыназнаўчых прац і навукова-папулярных артыкулаў У.В. Анічэнкі на гэту тэму сама па сабе ставіць яго ў шэраг самых высокаўзроўневых даследчыкаў скарыназнаўства не толькі Беларусі, а і ўсяго свету. Пацвярджае гэта і тое, што лінгвістычная скарыніяна стала адным з важнейшых напрамкаў усёй даследчыцкай дзейнасці Анічэнкі-мовазнаўца. Даследчыкі скарыназнаўства, звяртаючыся да прац У.В. Анічэнкі гэтага кшталту, павінны імкнуцца вызначыць у першую чаргу, што ж гэты скарынавед адкрыў новага. Як ужо адзначалася, ён распісаў практычна ўсе вядомыя выданні Ф. Скарыны і выдаў трохтомны «Слоўнік мовы Скарыны», у выніку ўсебаковага вывучэння разам з А.І. Жураўскім мовы Скарыны ў супастаўляльным плане з царкоўнаславянскай і старабеларускай даказаў, што пад славенскай мовай трэба разумець «царкоўнаславянскую рэдакцыю старaславянскай мовы» [**19, 30**, с. 4], адным з першых і найбольш поўна ў беларускім мовазнаўстве ён прасачыў выкарыстанне скарынаўскіх перакладчыцкіх і кнігадрукарскіх традыцый украінскімі і рускімі перапісчыкамі, перакладчыкамі і кнігадрукарамі [**5**, с. 263–276; **6**, с. 12–14, 109; **26**, **с.** 499–500; **44**, с. 6–11; **47**, с. 256–260; **59**, с. 7–12], што мае вялікае пазнавальнае значэнне.

З кнігаграфічнага спісу наглядна відаць, што У.В. Анічэнка быў даследчыкам шырокага кругагляду. Ён быў папулярызатарам творчасці Скарыны ў цэлым (у газетах публікаваў артыкулы і даваў інтэрв'ю карэспандэнтам), даследчыкам лексікі ў цэлым і многіх пластоў лексікі і тэрміналогіі [9–16, 28, 40, 48, 50–53, 58], аўтарам артыкулаў пра некаторых вядучых скарынаведаў [**22, 24**].

Укладам У.В. Анічэнкі ў даследаванне дзейнасці і творчасці Скарыны трэба прызнаць і тое, што ён папоўніў шэрагі даследчыкаў гэтай нацыянальна значнай асобы. Да азначаных скарынаведаў трэба аднесці А.А. Парукава, Д.Д. Паўлаўца, С.М. Струкаву, С.В. Чайкову і іншых. Гэта У.В. Анічэнка зацікавіў іх скарыназнаўствам і натхніў вылучыць яго ў якасці важнейшага напрамку сваёй навукова-даследчай дзейнасці.

Каб пазбегнуць паўтарэння, у нашым даследаванні не праводзіцца аналіз лінгвістычнай скарыніяны прафесара У.В. Анічэнкі, зроблены іншымі яе даследчыкамі.

Для паўнаты аналізу нельга не спыніцца і на некаторых недахопах, знойдзеных у навуковых публікацыях прафесара. Любыя дзеянні ўсіх да аднаго людзей выклікаюцца той ці іншай неабходнасцю, выконваюцца з якой-небудзь мэтай, выкліканы пэўным інтарэсам. З другога боку, кожнае такое дзеянне закранае і інтарэсы тых людзей, для якіх яно выконваецца ці якія павінны паспрыяць выканаўцы дзеяння ў дасягненні яго мэты. Усе гэтыя акалічнасці вымагаюць ад выканаўцы ўсведамляць сваю адказнасць перад іншымі людзьмі, дзяржавай, народам за тое, што ён робіць.

Калі чалавек што-небудзь піша, гаворыць для аднаго ці некалькіх чалавек, хоць і для ста, — гэта адно. Калі ж гэта зроблена для народа, дзяржавы або іх якіх-небудзь частак — рабочых, прафесійных ці сацыяльных груп, — дык гэта зусім іншае: тут маральная і матэрыяльная адказнасць аўтара сказанага, напісанага непараўнальна ўзрастае. Асабліва калі народам выдзяляюцца пэўныя культурныя, матэрыяльныя сродкі для рэалізацыі сказанага, напісанага, ці льготы, павышаная зарплата для маральнага і матэрыяльнага стымулявання аўтара пісьмовага або вуснага тэксту.

У той жа час любы вучоны ці пісьменнік павінен усведамляць, што яго, у прыватнасці, моўнае тварэнне рана ці позна будзе ўсебакова ацэнена не толькі адрасатам, але і ўсім народам, гісторыяй. І не толькі з пазіцыі шкадавання, адабрэння аўтара, але і з аб'ектыўнага пункту погляду. Выключэнняў тут не бывае.

Апублікаваныя працы У.В. Анічэнкі, асабліва ў апошнія гады яго жыцця (у тым ліку і скарыназнаўчыя) [**11**, **48**, **54** і некаторыя іншыя], акрамя ўсяго іншага, сведчаць, што ён забыў пра такую адказнасць, пачаў яе ігнараваць. Праілюструем гэта прыкладамі. Для большай нагляднасці пасля няправільных сказаў ці слоў прафесара падаюцца нашы варыянты правільнай будовы. Няправільнасці ў сказах ці словах абазначаюцца курсівам.

Першы том «Слоўніка мовы Скарыны» [**11**]: «*Не ва ўсіх* бібліятэках і *архівах* захаваліся поўныя *камплекты старадрукаваных* скарынінскіх выданняў...» [**11, с**. 4] — (У лічаных бібліятэках і музеях свету захаваліся скарынаўскія выданні). Нягледзячы на тое, што гэты сказ ужыты ва ўступе «Ад рэдактара», падпісаным рэдактарам тома В.І. Барковым, мы адносім яго на рахунак У.В. Анічэнкі, таму што ён напісаны ў чыста анічэнкаўскім стылі, аб чым сведчыць увесь тэкст гэтага ўступу, прад-

мовы да кніг і артыкулы прафесара. У гэтым сказе аж тры фактычныя памылкі. *Не ва ўсіх* можна было б напісаць, калі б выданні Скарыны знаходзіліся ў многіх кнігатэках і музеях. Кнігі Скарыны не толькі ў поўных камплектах, але і паасобку — вялікая рэдкасць, таму *ў камплектах* — лішняе словазлучэнне. Амаль усе, калі не ўсе вядомыя зараз, кнігі Скарыны знаходзяцца толькі ў кнігатэках і музеях свету. У архіве наўрад ці знойдзецца хоць адна. Паколькі Скарына друкаваў усе свае кнігі ў першай чвэрці XVI ст., дык усе яны з'яўляюцца *старадрукаванымі*. Іншых кніг Скарыны, акрамя старадрукаваных, на свеце няма. Таму ўжыванне прафесарам у гэтым яго няўдалым сказе апошняга слова з'яўляецца лішнім.

Другая кніга — трэці том «Слоўніка мовы Скарыны» [**48**]: «*Адметнай* асаблівасцю *Слоўніка* з'яўляецца *ўключэнне* ў яго *рэестравую* частку не толькі анамастычнага і тапанімічнага матэрыялу, але і *этнанімічных назваў — жыхароў па месцу пражывання з улікам зыходных і вытворных ад іх прыметнікаў*» [**48, с.** 3] — (Каштоўнасцю і адной з сутнасных асаблівасцей гэтага тома слоўніка з'яўляецца фіксацыя ў ім, акрамя анамастычнага і тапанімічнага матэрыялу ў цэлым, назваў жыхароў па месцы жыхарства, а таксама прыметнікаў і вытворных ад іх слоў гэтай жа часціны мовы). Стылістыка словазлучэння *адметная асаблівасць* супадае з семантычнай няправільнасцю спалучэння слоў *масленае масла*. У дадзеным кантэксце словы *асаблівасць* і *адметнасць, асаблівы* і *адметны* з'яўляюцца сінанімічнымі. Неадметных асаблівасцей не бывае: «Адметны. Непадобны на іншых, непаўторны, характэрны. *Адметная рыса характару*[1]. Асаблівы... Адметны, не такі, як усе; больш значны, чым звычайна. Асаблівае старанне[2]. Асаблівасць... Характэрная прымета, адметная якасць, уласцівасць каго-, чаго-небудзь. Асаблівасці дзіцячага характару. Асаблівасці правапісу беларускай мовы[3]».

Уключэнне ў змест слоўніка матэрыялу з'яўляецца прамежкавай, падрыхтоўчай аперацыяй у перыяд стварэння кнігі. Чытачы ж маюць справу з гатовай, ужо выдадзенай кнігай. Таму ў гэтым выпадку ўжо не адбываецца ўключэння матэрыялу, а яго яны маюць гатовым у наяўнай кнізе. Словазлучэнне *рэестравая частка* тут лішняе, яно сведчыць толькі

[1] Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы... / пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. — 2-е выд. — Мінск: БелЭн, 1999. — С. 40.

[2] Там жа. — С. 67.

[3] Там жа.

аб тым, што У.В. Анічэнка яго ведае і ўмее напісаць. Слоўнік тома, або яго рэстравая частка, займае 98 % аб'ёму. Тут ёсць трохстаронкавы ўступ «Ад складальніка» і «Умоўныя скарачэнні» на паўтары старонкі, таму ні адзін карыстальнік тома не ўздумае шукаць усю масу тапанімічнага і анамастычнага матэрыялу ў гэтых маленечкіх частках кнігі.

Наяўны ў слоўніку матэрыял з выданняў Скарыны знаходзіцца ў трэцім томе, а не ва ўсім слоўніку, як памылкова сцвярджае ў гэтым сказе У.В. Анічэнка. Назвы жыхароў па месцы жыхарства прафесар лічыць этнанімічнымі назвамі, у той час як этнонімамі лічацца «назвы нацый, народаў, народнасцей, плямён і іншых этнічных супольнасцей»[4]. Частку разбіраемага сказа «з улікам зыходных і вытворных ад іх прыметнікаў» нельга падаваць мімаходам, непрыкметна, пасля найбольшай часткі складанага сказа, таму што яна мае зусім іншы змест – граматычны. Таму трэба было паўней вызначыць і больш ясна і зразумела «прывязаць» яе да астатняй часткі, як гэта і зроблена намі. Нават сама па сабе гэтая апошняя частка сказа таксама пабудавана няправільна. Да таго ж невядома, да чаго яна дапасуецца – ці да састаўнога іменнага выказніка *з'яўляецца ўключэнне* ў цэлым (асаблівасцю слоўніка з'яўляецца ўключэнне… этнанімічных назваў… з улікам зыходных і вытворных… прыметнікаў – з'яўляецца ўключэнне,… з улікам…), ці да яго дзеяслоўнай звязкі *з'яўляецца* (…з'яўляецца… з улікам… прыметнікаў). У абодвух выпадках, як бачым, дапасаванне не атрымліваецца, калі не звярнуць большую ўвагу да яе і не прывязаць яе структурна больш празрыста.

Трэцяя кніга – «Набожнае слова і антычная мудрасць крочаць побач» [**54**]. Яна была задумана і складзена У.В. Анічэнкам. Для яе А.А. Станкевіч толькі выбрала і пераклала на беларускую мову мудрыя выказванні антычных філосафаў. У прадмове да кнігі складальнік сказ «Калі я зноў ствараю, што разбурыў, дык сам сябе раблю злачынцам» [**54, с.** 4] адносіць да прароцтваў. Калі мы ўлічым, што прароцтва – гэта тое, што прадказана[5], прадказаць – наперад сказаць, што будзе, што павінна адбыцца[6], дык убачым, што ў гэтым сказе няма ніякага прадка-

[4] Булыка, А.М. Слоўнік іншамоўных слоў: у 2-х т. / А.М. Булыка. – Т. 2: М-Я. – Мінск: БелЭн, 1999. – С. 724.

[5] Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы… / пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 1999. – С. 491.

[6] Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы… / пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – 2-е выд. – С. 491.

зання. Тут у наяўнасці самы элементарны вывад *сам сябе раблю злачынцам* з пасылкі *калі я зноў ствараю, што разбурыў*. Тым больш, што прадказанне абавязкова стаіць у форме будучага часу. У сказе вывад магчымы толькі пры ўмове, калі чалавек будзе зноў ствараць тое, што разбурыў. Пры тым новае стварэнне разбуранага не заўсёды робіць чалавека злачынцам, а толькі ўзнаўленне таго, што абавязкова трэба было разбурыць, што было шкодным ці небяспечным для прыроды і людзей.

Наступны сказ з гэтай прадмовы: «Выдатнай з'явай у гісторыі беларускай навукі, культуры і асветы «былі [скарынаўскія] запаветы, якім належала стаць своеасаблівым *рассаднікам праўдзівага жыцця на славянскіх землях* і за іх межамі, бо адлюстроўвалі не толькі *вопыт і розум розных храналагічных эпох*, але і *не ў меншай меры* кірункі *яго* творчых інтарэсаў. Скарына быў *выключным* вучоным-асветнікам..., правераныя жыццём (жыццём правяраюцца не толькі каштоўныя, але і шкодныя. – **К.У.**) ісціны... не толькі канстатаваў, але і павучаў часта (каго? – **К.У.**), быццам зачароўваў яго (чыю? – **К.У.**) душу» [**54**, **с.** 5] – (Выдатнай з'явай у гісторыі беларускай навукі, культуры і асветы «былі [скарынаўскія] запаветы, якім належала аказаць істотны дабратворны ўплыў на жыццё славянскіх і суседніх народаў, бо не толькі ў значнай ступені адлюстроўвалі назапашаны народамі ў розныя перыяды іх гісторыі багаты жыццёвы вопыт і ўдасканалены розум, але і творчыя інтарэсы Скарыны. Ён быў выключна вялікім (ці: таленавітым) вучоным-асветнікам..., правераныя жыццём каштоўныя ісціны не толькі фіксаваў, але і выхоўваў і зачароўваў імі чытачоў»). Дарэчы, гэты сказ, у якім на адну памылку менш, пачынае тэзісы «Скарынаўскія запаветы», апублікаваныя ў матэрыялах І-й рэспубліканскай канферэнцыі «Скарына і наш час» [**49**, с. 6].

Разбяром няправільнасці ў той паслядоўнасці, у якой яны існуюць у сказах У.В. Анічэнкі. Як могуць самыя добрыя і значныя запаветы, якія могуць праяўляць дзеянне толькі пасродкам людзей, у справах і свядомасці людзей, *рассаджваць праўдзівае жыццё* нават сярод народаў, людзей, а тым больш на землях? І што гэта за *праўдзівае жыццё*, калі вядомы толькі жыцці: добрае – дрэннае, лёгкае – цяжкае, доўгае – кароткае, людское, людзей і т.п.; калі праўдзівым можа быць толькі чалавек, адказ, прызнанне і гэтак далей? Як можна ў аднолькавай (*не ў меншай*) ступені адлюстраваць у запаветах непараўнальныя па маштабах з'явы, справы – *вопыт і розум розных храналагічных эпох*

з аднаго боку і ўсяго толькі напрамкі творчых інтарэсаў (нават не самі і не ўсе інтарэсы) хоць бы і вялікага Скарыны, але ўсяго толькі аднаго чалавека, з другога? Эпохі не бываюць храналагічнымі, яны толькі размяшчаюцца ў храналагічным парадку. Быць выключным — не значыць з'яўляцца выключна вялікім. Замест гэтага прыметніка патрэбна было ўжыць прыслоўе *выключна* ў спалучэнні з прыметнікам *вялікі*, таму што выключным можна быць не толькі ў добрых, але і ў варожых, шкодных народу, дзяржаве і нават самому сабе справах. Праверка ісцін жыццём не надае каштоўнасці шкодным і дрэнным ісцінам, таму аўтару абавязкова трэба было ўказаць якасць ісціны. Складальнік памылкова не ўказаў, каго Скарына сваімі запаветамі павучаў і чыю душу зачароўваў.

Акрамя ўсяго гэтага, у дадзенай кнізе шмат граматычных памылак, многія біблейскія выказванні аўтарам-складальнікам перакладзены недакладна [**54**, с. 15–19, 196, 197 і шматлікія іншыя] або зусім не ў адпаведнасці з першакрыніцамі [**54**, канец старонкі 95]. З усіх яго кніг яна ўтрымлівае найбольш разнастайных памылак. Тым не менш, рэцэнзенты далі на яе станоўчыя рэцэнзіі.

Пры навуковым выражэнні думкі прафесар уводзіць у сказ усё новую і новую інфармацыю, ускладняе яго другараднымі, пераносназначэнневымі словамі, якія не адцяняюць галоўную думку, не робяць яе больш даходлівай да чытача, а адцягваюць ад яе ўвагу. У навуковай мове думка павінна выражацца толькі самымі неабходнымі словамі з прамымі і асноўнымі значэннямі, а не з пераноснымі другаснымі. Калі ў ёй і выкарыстоўваюцца словы з пераносным, другасным значэннем, дык толькі каб адцяніць, дапоўніць толькі пэўны элемент, а не ўсю думку. Бо чытач не ў поўным аб'ёме і не вельмі правільна разумее асноўную думку ці палажэнне, бо ён нават у кантэксце заблытваецца ў словах з некалькімі значэннямі, траціць пэўны час і інтэлектуальныя здольнасці на вызначэнне, якое ж са значэнняў тут патрэбна ўсвядоміць.

Усе лексіколагі і тэрмінолагі ведаюць, што адной з прынцыповых асаблівасцей навуковай тэрміналогіі і мовы з'яўляецца канкрэтнасць, адназначнасць тэрмінаў і тэрміналагічных словазлучэнняў. З гэтага вынікае, што загаловак навуковага артыкула ці манаграфіі павінен быць па-навуковаму канкрэтным і адназначным. Толькі загаловак сапраўднага літаратурна-мастацкага твора павінен быць (і заўсёды

бывае) вобразным і па-мастацку ёмістым. Ні адзін пісьменнік не піша апавяданні, аповесці ці раманы навуковай мовай. Так жа, як ні адзін сапраўдны вучоны не піша ніводнай навуковай працы на вобразна-мастацкай мове. У кожнага з гэтых відаў, тыпаў ці стыляў мовы свая спецыфіка, якая і не дазваляе выкарыстоўваць адзін замест другога ці змешваць іх. А У.В. Анічэнка некаторым сваім артыкулам і кнігам (не толькі скарыназнаўчым) даваў паўмастацка-паўнавуковыя назвы. Напрыклад: [**42, 46, 54**].

Нельга не звярнуць увагу і яшчэ на адну асаблівасць анічэнкаўскіх публікацый. Акрамя апісак, граматычных памылак і стылістычна нязграбных сказаў, якія нярэдка сустракаюцца ў іх (вельмі балюча гэта сцвярджаць, але аб'ектыўнасць патрабуе), у некаторых недастаткова поўна раскрываюцца ў змесце назвы публікацый. У тэзісах да Скарынаўскіх чытанняў (Гомель, 1990) «Скарынаўскае разуменне мастацтва» на ўсіх дзвюх старонках зусім не сказана, што гэта такое. Сярод агульных разважанняў пра музычнасць скарынаўскай эпохі і каралеўскія банкеты толькі прыведзена дзесяць сказаў і словазлучэнняў з выданняў Скарыны, у якіх утрымліваецца 5 слоў: *музыка, песня, пеўніца, гудзьба, пявец*. І гэта пасля справядлівай канстатацыі аўтара тэзісаў, што «ў існуючай скарыніяне *адсутнічае вывучэнне* (курсіў наш. – **К.У.**) скарынаўскага разумення мастацтва» [**33**, с. 3], і праблематычнага сцвярджэння, што Ф. Скарына пакінуў нам «пераканаўчае і акрэсленае *творчае разуменне* (курсіў наш. – **К.У.**) мастацтва» [там жа].

Акрамя занядбання адказнасці за напісанае, ва ўсім гэтым вінавата і беспадстаўнае і памылковае адмаўленне не толькі філалагічнай, але і ўсёй беларускай навукі ад ачышчальнага і жыццесцвярджальнага прынцыпу крытыкі і самакрытыкі. Неабходныя і абавязковыя рэцэнзіі для апублікавання артыкулаў і кніг пішуцца ў прынцыпе станоўчыя, указваюцца толькі нязначныя і фармальныя памылкі і недапрацоўкі аўтара рэцэнзуемага матэрыялу. Асабліва калі рэцэнзент па тых ці іншых прычынах зацікаўлены ў публікацыі матэрыялу ці ў паспяховай абароне дысертацыі.

Агульнае ж уражанне ад скарыназнаўчых прац прафесара У.В. Анічэнкі – станоўчае. Як ужо сцвярджалася, яны займаюць значнае месца ва ўсёй кнігаграфіі гэтага беларускага мовазнаўца, даследчыка скарынаўскай мовы і ўсёй яго творчасці, а таксама ў беларускай лінгвістычнай скарыніяне.

**Кнігаграфія**

**1962 г.**

1. **Анічэнка, У.В.** Ад складальніка / У.В. Анічэнка // Александрыя. – Мінск, 1962. – С. 4.

**1966 г.**

2. **Анічэнка, У.В.** Моўныя асаблівасці выданняў Ф. Скарыны і рукапісных спісаў В. Жугаёва / У.В. Анічэнка // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. – 1966. – № 1. – С. 102–111.

3. **Анічэнка, У.** Кніжна-царкоўнаславянскія традыцыі ў украінскай і беларускай перакладной пісьменнасці XVI–XVII стст. / У. Анічэнка // Slavia. – 1966. – № 1. – С. 102–111.

**1967 г.**

4. **Анічэнка, У.В.** Новая кніга пра Францішка Скарыну. Рэцэнзія: Сцяпан Майхровіч. Георгій Скарына. – Мінск: Беларусь, 1966 / У.В. Анічэнка // Полымя. – 1967. – № 2. – С. 245–248.

**1968 г.**

5. **Анічэнка, У.В.** Скарынінскія традыцыі на Украіне / У.В. Анічэнка // 450 год беларускага кнігадрукавання / рэдкалегія: К.К. Атраховіч (Кандрат Крапіва) і інш. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – С. 263–276 (– С. 274).

**1969 г.**

6. **Анічэнка, У.В.** Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі / У.В. Анічэнка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – 294 с. – С. 12–14, 109.

Рэц.: Я. Камароўскі. Моўныя сувязі народаў-братоў // Звязда. – 1969. – № 222 (15120); І. Чыквін. Моўная спадчына Беларусі і Украіны // Ніва: Беларускі тыднёвік. – 1969. – № 38 (708); Леў Шакун. Кніга пра дружбу і моўныя сувязі братніх народаў // Полымя. – 1969. – № 10; Аляксандр Булыка. Скарбы братніх народаў // Маладосць. – 1969. – № 10; М. Прашковіч. З агульных вытокаў // Літаратура і мастацтва. – 1969. – № 83 (2443); Журавский А.И. Исследование о древнем белорусско-украинском письменном языке // Советское славяноведение. – 1970. – № 5. – С. 94–98.

*Манаграфічнае даследаванне прысвечана параўнальна-гістарычнаму вывучэнню рукапісных і друкаваных помнікаў XIV–XVII стст. Беларусі і Украіны.*

**1970 г.**

7. **Аниченко, В.В.** Франциск (Георгий) Скорина / В.В. Аниченко // Русская речь. – 1970. – № 3. – С. 77–82.

8. **Анічэнка, У.В.** Гістарычная лексікалогія беларускай мовы / А.С. Аксамітаў, У.В. Анічэнка, А.Я. Баханькоў і інш. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 339 с.

**1972 г.**

9. **Аниченко, В.В.** Диалектизмы в скорининских печатных изданиях / В.В. Аниченко // Тезисы IV диалектической конференции по изучению говоров и языковых контактов Прибалтийских республик. Октябрь, 1972. – Вильнюс, 1972. – С. 5–7.

10. **Анічэнка, У.В.** Прынцыпы складання слоўніка мовы Ф. Скарыны / У.В. Анічэнка // Праблемы мовы і літаратуры. – Мінск: БДУ імя У.І. Леніна, 1972. – С. 3–18.

**1977 г.**

11. **Анічэнка, У.В.** Слоўнік мовы Скарыны / У.В. Анічэнка – Мінск: Вышэйшая школа, 1977. – Т. 1. – 475 с.

**1979 г.**

12. **Анічэнка, У.В.** Лексікаграфічная дзейнасць Ф. Скарыны / У.В. Анічэнка // Питання східнослов'янськоі лексикографіі XI–XVIII ст. – Київ: Наукова думка, 1979. – С. 5, 58–64.

**1980 г.**

13. **Анічэнка, У.В.** Складаныя словы ў мове Скарыны / У.В. Анічэнка // Беларуская мова. – Мінск: БДУ імя У.І. Леніна, 1980. – С. 3–9.

**1984 г.**

14. **Анічэнка, У.В.** Слоўнік мовы Скарыны / У.В. Анічэнка – Мінск: Вышэйшая школа, 1984. – Т. 2. – 362 с.

**1986 г.**

15. **Анічэнка, У.В.** Лінгвістычнае наватарства Скарыны / У.В. Анічэнка // Полымя. – 1986. – № 11. – С. 195–198.

16. **Анічэнка, У.В.** Лёс старажытнарускай лексікі скарынінскай эпохі ў сучаснай беларускай мове / У.В. Анічэнка // Беларуская мова. – Мінск: Універсітэцкае, 1986. – Вып. 14. – С. 3–12.

17. **Аниченко, В.В.** Лингвистическое новаторство виленских изданий Скорины / В.В. Аниченко, А.А. Паруков // Научные труды высших учебных заведений Литовской ССР. Kalbotyra. – 1986. – Т. 37 (2). – С. 10–17.

**1987 г.**

18. **Анічэнка, У.В.** Роля Скарыны ў дэмакратызацыі кніжнаславянскай мовы / У.В. Анічэнка // Slavia. – Praga, 1987. – Roč. 56. – Č 2. – S. 113–120.

**1988 г.**

19. **Анічэнка, У.В.** Беларуска-іншаславянскі сінкрэтызм мовы выданняў Францыска Скарыны / У.В. Анічэнка, А.І. Жураўскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – 34 с. (Даклад на X Міжнародным з'ездзе славістаў).

20. **Анічэнка, У.В.** Беларуская лексіка ў выданнях Ф. Скарыны / У.В. Анічэнка, А. І. Жураўскі // Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік. – Мінск: БелЭн, 1988. – С. 256–257.

21. **Анічэнка, У.В.** Ад часоў Скарыны – да нашых дзён / У.В. Анічэнка // Чырвоная змена. – 1988. – 21 красавіка.

22. **Анічэнка, У.В.** Ахрыменка Павел Паўлавіч / У.В. Анічэнка // Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік. – Мінск: БелЭн, 1988. – 251 с.

23. **Анічэнка, У.В.** Лінгвістычнае наватарства Скарыны ў дэмакратызацыі кніжнаславянскай мовы / У.В. Анічэнка // The journal of Byelorussian Studios. – London: 1988. – Vol. VI. – № 1. – S. 29–38.

24. **Анічэнка, У.В.** Парукаў Аляксей Аляксеевіч / У.В. Анічэнка // Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік. – Мінск: БелЭн, 1988. – С. 442–443.

25. **Мяснікоў, А.** Ад часоў Скарыны да нашых дзён: кампетэнтны субяседнік / А. Мяснікоў // Чырвоная змена. – 1988. – 21 красавіка.
*Інтэрв'ю А. Мяснікова з загадчыкам кафедры беларускай мовы ГДУ прафесарам У.В. Анічэнкам.*

26. **Анічэнка, У.В.** Скарынаўская спадчына ў рукапісах яго паслядоўнікаў на Украіне / У.В. Анічэнка // Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік. – Мінск: БелЭн, 1988. – С. 499–500.

27. **Булыка, А.М.** Анічэнка Уладзімір Васільевіч / А.М. Булыка // Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік. – Мінск: БелЭн, 1988. – С. 237–238.

28. **Слоўнік мовы Скарыны** // Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік. – Мінск: БелЭн, 1988. – С. 503–504.

**1989 г.**

29. **Анічэнка, У.В.** Лінгвістычныя традыцыі Скарыны ў Беларусі / У.В. Анічэнка // Спадчына Скарыны: зборнік матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986). – Мінск, 1989. – С. 248–255.

30. **Анічэнка, У.В.** Беларуска-царкоўнаславянскі сінкрэтызм друкаваных выданняў Скарыны / У.В. Анічэнка // Беларуская мова. – Мінск: Універсітэцкае, 1989. – Вып. 17. – С. 3–10.

31. **Анічэнка, У.В.** Беларуска-чэшскі сінкрэтызм мовы пражскіх выданняў / У.В. Анічэнка // Slavia. – 1989. – Č1/2. – S. 115–120.

**1990 г.**

32. **Анічэнка, У.** Лонданскія сустрэчы: нататкі доктара філалагічных навук / У. Анічэнка // Літаратура і мастацтва. – 1990. – 2 лютага. – С. 6–7.

*Аб нарадзе, якая адбылася на славянскім факультэце Лонданскага ўніверсітэта па пытаннях лінгвістычнай Скарыніяны.*

33. **Анічэнка, У.В.** Скарынаўскае разуменне мастацтва / У.В. Анічэнка // Скарынаўскія чытанні: тэзісы дакладаў і паведамленняў. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1990. – С. 3–4.

34. **Анічэнка, У.** Славянскія асветнікі і Скарына / У. Анічэнка // Гомельская праўда. – 1990. – 22 мая.

*Аб пераемнасці справы Скарыны ад славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія, аб дзейнасці іх траіх.*

35. **Анічэнка, У.** Значэнне кірыла-мяфодзіеўскай дзейнасці для справы Скарыны: кірыла-мяфодзіеўскія традыцыі і развіццё нацыянальных моў славян / У. Анічэнка // Чырвоная змена. – 1990. – 26 мая.

*Тэзісы навуковага даклада на міжнароднай канферэнцыі «Славяне: адзінства і шматстайнасць» (Мінск, 25 мая).*

36. **Анічэнка, У.В.** Значэнне кірыла-мяфодзіеўскай дзейнасці для справы Скарыны / У.В. Анічэнка // Славяне: адзінства і мнагастайнасць. Міжнародная канферэнцыя: тэзісы дакладаў і паведамленняў. – Мінск: 1990. – С. 1–3.

37. **Антонава, Т.** Жывая галінка памяці / Таццяна Антонава // Голас Радзімы. – 1990. – № 15 (2157).

*Інтэрв'ю з прафесарам У.В. Анічэнкам аб зборы матэрыялаў, падрыхтоўцы да адкрыцця музея-лабараторыі Ф. Скарыны, задачах перад гэтым падраздзяленнем.*

38. **Анічэнка, У.** Рэліквія духоўнай культуры: нам засталася спадчына; мы любім кнігу / У. Анічэнка // Гомельская праўда. – 1990. – 31 ліпеня.

**Анічэнка, У.** Рэліквія духоўнай культуры: нам засталася спадчына; мы любім кнігу / У. Анічэнка // Звязда. – 1990. – 24 жніўня.

*Агляд некаторых дакладаў на міжнароднай навуковай канферэнцыі «Славянская Біблія – яе гісторыя і пытанні вывучэння» і ўражанні ад канферэнцыі.*

39. **Анічэнка, У.В.** Замежная скарыніяна / У.В. Анічэнка // Полымя. – 1990. – № 8. – С. 209–213.

40. **Анічэнка, У.В.** Назвы жывёльнага свету ў выданнях Скарыны / У.В. Анічэнка // Беларуская мова. – Мінск: БДУ, 1990. – Вып. 18. – С. 3–9.

41. **Анічэнка, У.В.** Нязнаная старонка скарыніяны / У.В. Анічэнка // Франциск Скорина и традиции гуманизма в славянской культуре: тезисы докладов и сообщений на научной конференции, посвященной 500-летию со дня рождения Ф. Скорины (Москва, 20-21 ноября 1990 г.). – Минск: БелЭн, 1990. – С. 35–37.

42. **Анічэнка, У.В.** Голас пра Скарыну / У.В. Анічэнка // Гомельскі універсітэт. – 1990. – 11 снежня.

**1991 г.**

43. **Клыга, А.** «Лёс мой – Скарыніяна» / А. Клыга // Гомельская праўда. – 1991. – 11 красавіка. – (2 стар.) [фота А. Пасяніцкага].

*Інтэрв'ю з прафесарам У.В. Анічэнкам аб яго скарыназнаўчых даследаваннях.*

44. **Аниченко, В.В.** Недописанная страница скоринианы / В.В. Аниченко // Франциск Скорина и Вильнюс: сборник материалов республиканской научной конференции, посвященной 500-летию со дня рождения Франциска Скорины / составитель Л.В. Судавичене. – Вильнюс, 1991. – С. 6–11. – Библиогр.: 3 назв.

45. **Адкрыта мемарыяльная дошка** [тэкст і фота] // Гомельскі універсітэт. – 1991. – 26 чэрвеня. – С. 1 (0,2 стар.).

*Аб адкрыцці на фасадзе галоўнага корпуса ўніверсітэта мемарыяльнай дошкі Ф. Скарыны, створанай членам Саюза архітэктараў БССР Юрыем Казаковым і членам саюза мастакоў БССР Святланай Гарбуновай.*

**1992 г.**

46. **Анічэнка, У.В.** Скарынінскі моўны ландшафт на славянскім фоне / У.В. Анічэнка // Тэзісы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю Полацкай епархіі і праваслаўнай царквы на Беларусі. – Мінск, 1992. – С. 88–89.

**1993 г.**

47. **Анічэнка, У.В.** Скарынаўскія традыцыі ў Маскве / У.В. Анічэнка // Беларусіка / пад рэд. А. Мальдзіса. – Мінск, 1993. – Кн. 1. – С. 256–260.

**1994 г.**

48. **Анічэнка, У.В.** Слоўнік мовы Скарыны / У.В. Анічэнка – Мінск: Навука і тэхніка, 1994. – Т. 3. – 248 с.

49. **Анічэнка, У.В.** Скарынаўскія запаветы / У.В. Анічэнка // Скарына і наш час: матэрыялы першай навуковай канферэнцыі. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1994. – С. 6–9.

50. **Анічэнка, У.В.** Уласныя імёны ў моватворчасці Скарыны / У.В. Анічэнка // Рэгіянальныя асаблівасці мовы, літаратуры і фальклору: тэзісы дакладаў і паведамленняў V рэспубліканскай навуковай канферэнцыі. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1994. – С. 3–5.

**1996 г.**

51. **Анічэнка, У.В.** Царкоўнаславянская тэрміналогія ў моватворчасці Скарыны / У.В. Анічэнка // Полацк: карані нашага радавода: Полацкая зямля як сацыякультурная прастора ўзнікнення і развіцця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасці: міжнародная навуковая канферэнцыя 5–6 верасня 1995 г. – Полацк: Полацкі дзяржаўны універсітэт, 1996. – С. 105–110.

**1997 г.**

52. **Анічэнка, У.В.** Паясняльны слоўнік Скарыны / У.В. Анічэнка // Беларуская мова. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1997. – Вып. 23. – С. 3–18.

53. **Анічэнка, У.В.** Тэрміналогія сваяцкіх сувязей у скарынаўскіх выданнях / У.В. Анічэнка // Скарына і наш час: матэрыялы ІІ-й рэспубліканскай навуковай канферэнцыі. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1997. – С. 3–6.

54. **Анічэнка У.В.** Набожнае слова і антычная мудрасць крочаць побач / У.В. Анічэнка, А.А. Станкевіч. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1997. – 217 с.

**1998 г.**

55. **Анічэнка, У.** Моўнае вар'іраванне ў выданнях Скарыны / Уладзімір Анічэнка // 480 год беларускага кнігадрукавання: матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў / гал. рэд. А. Мальдзіс. – Мінск: Беларуская навука, 1998. – С. 123–127.

56. **Анічэнка, У.** Повязі лёсу / Уладзімір Анічэнка. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1998. – 206 с.

**1999 г.**

57. **Анічэнка, У.В.** Ваенная тэрміналогія і яе вытокі ў скарынаўскіх старадруках / У.В. Анічэнка // Беларуская мова. – Гомель: ІВЦ ГДУ імя Ф. Скарыны, 1999. – Вып. 24. – С. 3–12.

58. **Анічэнка, У.В.** Моўная спадчына Скарыны ў граматыцы Лаўрэнція Зізанія / У.В. Анічэнка // Скарына і наш час: матэрыялы І-й Міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1999. – С. 7–12.

59. **Прафесар Уладзімір Васільевіч Анічэнка**: бібліяграфічны агляд навукова-педагагічнай дзейнасці... / складальнік Д.Д. Паўлавец; рэдактар А.А. Станкевіч. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1999. – 54 с.

**2001 г.**

60. **Станкевіч, А.** Развітанне з настаўнікам і сябрам / Аляксандра Станкевіч, Канстанцін Усовіч // Кантакты і дыялогі: інфармацыйна-аналітычны і культуралагічны бюлетэнь. – 2001. – № 2–3. – С. 29–30.

**2002 г.**

61. **Шчэрбін, В.К.** «Слоўнік мовы Скарыны» – наватарская з'ява ў беларускай лексікаграфіі / В.К. Шчэрбін // Скарына і наш час: матэрыялы ІІ Міжнароднай навуковай канферэнцыі 16–17 мая: у 2-х ч. – Гомель: УА «ГДУ імя Ф. Скарыны», 2002. – Ч. 2. – С. 93–102.

**2003 г.**

62. **Слова і час**: **н**авуковыя чытанні, прысвечаныя памяці прафесара У.В. Анічэнкі: зборнік навуковых артыкулаў: у 2-х ч. / адказны рэдактар А.А. Станкевіч. – Гомель: УА «Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны», 2003. – Ч. 1. – 277 с.

63. **Багамольнікава, Н.А.** У час роздуму / Н.А. Багамольнікава // Слова і час: **н**авуковыя чытанні, прысвечаныя памяці прафесара У.В. Анічэнкі: зборнік навуковых артыкулаў: у 2-х ч. / адказны рэдактар А.А. Станкевіч. – Гомель: УА «Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны», 2003. – Ч. 1. – С. 3–5.

64. **Бобрык, У.А.** Вучонасць – салодкі плод горкага кораня / У.А. Бобрык, А.А. Парукаў // Там жа. – С. 5–8.

65. **Малюк, А.А.** Выдатны вучоны, педагог, грамадскі дзеяч / А.А. Малюк // Там жа. – С. 8–9.

66. **Паўлавец, Дз.Дз.** Пытанні гісторыі мовы ў навуковай спадчыне У.В. Анічэнкі / Дз.Дз. Паўлавец // Там жа. – С. 10–13.

67. **Пераваляа, Н.Ю.** Няпэўна-колькасныя лічэбнікі і прыслоўі ў працах У.В. Анічэнкі / Н. Ю. Перавалава // Там жа. – Ч. 2. – С. 94–98.

68. **Станкевіч, А.А.** Даніна памяці / А.А. Станкевіч // Там жа. — Ч. 1. — С. 14–16.

69. **Уласенка, Л.М.** Мара здзейснілася / Л.М. Уласенка, С.М. Струкава // Там жа. — С. 16–23.

70. **Шчур, Т.М.** Выдатны даследчык беларуска-ўкраінскіх пісьмова-моўных сувязей / Т.М. Шчур // Там жа. — С. 23–28.

**2004 г.**

71. **Скарына і наш час**: матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 80-годдзю… прафесара У.В. Анічэнкі (Гомель, 7 кастрычніка 2004 г.) / УА «ГДУ імя Ф. Скарыны»; рэдкал.: А.А. Станкевіч (гал. рэд.) [і інш]. — Гомель: 2004. — 367 с.

**2005 г.**

72. **Паўлавец, Д.** Ягонае жыццё — гісторыя мовы / Д.Паўлавец // Университет профессорский / составители: Д.Д. Павловец (отв. ред. и автор вступит. статьи) [и др.]. — Гомель: УО «ГГУ им. Ф. Скорины», 2005. — С. 7–12.

**2006 г.**

73. **Усовіч, К.** Скарыназнаўства ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны ў яго сувязі з філалагічнай навукай іншых краін / Канстанцін Усовіч // Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя: матэрыялы IV Міжнароднага кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў кантэксце культур еўрапейскіх краін» (Мінск, 6–9 чэрвеня 2006 г.). — Мінск: Голас Радзімы, 2006. — С. 291–295.

***Флікоп Г.А.***

# Іканаграфія гравюры кірылічных выданняў у беларускім іканапісе XVII–XVIII стагоддзяў: на матэрыяле твораў з выявамі біблейскіх вобразаў

Закранаючы пытанне выкарыстання гравюры ў якасці крыніцы для твораў іканапісу, варта адзначыць, што дадзеная тэматыка ў айчыннай гістарыяграфіі з'яўляецца амаль не вывучанай. Гэта, перш за ўсё, звязана з абмежаванай даследаванасцю як мастацтва гравюры, так і сакральнага жывапісу ўвогуле. Дадзеныя тэмы, як і шматлікія іншыя, прысвечаныя беларускаму мастацтву, пачалі вывучацца ў 20-я гады XX стагоддзя – перыяд беларусізацыі; аднак ужо з 30-х гадоў і фактычна да 80-х яны па ідэалагічных прычынах заставаліся па-за ўвагай даследчыкаў. Тым не менш, у працах сучасных навукоўцаў усё часцей гучыць думка пра тое, што фактычна з моманту ўзнікнення кнігадрукавання ў Еўропе ў якасці крыніцы іканапісу пачалі выкарыстоўвацца гравюры. Шмат цікавых звестак па названай праблематыцы ўтрымліваецца ў публікацыях доктара мастацтвазнаўства Н.Ф. Высоцкай, аднак выяўленыя намі новыя дадзеныя дазваляюць зрабіць пэўныя ўдакладненні.

Праблемнае поле артыкула прадстаўляюць выявы (абразы і гравюры), на якіх адлюстраваны біблейскія персанажы: евангелісты, апосталы, Маці Божая (у розных іканаграфіях і зводах), Хрыстос Усядзержац і інш. Спецыфіка вывучэння такіх абразоў, у адрозненне ад сюжэтных, абумоўлена аднастайнасцю іх кампазіцыі, якая не дазваляе праз параўнанне выявіць гравюру-першаўзор. Каб знайсці крыніцу іконы, на якой адлюстраваны біблейскі вобраз, а не сюжэт, неабходна аналізаваць у першую чаргу дробныя дэталі або своеасаблівыя, адметныя элементы. У беларускім іканапісным мастацтве XVII–XVIII стст. творы з біблейскімі вобразамі прадстаўляюць грунтоўны пласт, які, натуральна, ахапіць цалкам у межах невялікага артыкула не прадстаўляецца магчымым. У цэнтры ўвагі ў дадзеным раздзеле будуць знаходзіцца выявы Хрыста, Божай Маці, евангелістаў, святых і інш.

Правыкарыстаннегравюрдлятакіхабразоўёсцьзвесткіўпублікацыях Н.Ф. Высоцкай. Адносна абраза «Хрыстос Усядзержац» першай паловы XVII стагоддзя даследчыца адзначае: «Іканаграфічная схема з некаторымі зменамі бярэ пачатак з гравюры «Хрыстос Уседзяржыцель», змешчанай у кнізе «Беседы Макария Египетского» (Вільня, 1627, адв. тытула). Іканапісцамі былі дапушчаны памылкі ў скрыжаванні німба, якія адсутнічалі ў гравюры» [5, № 16]. Параўнанне двух твораў сапраўды пацвяджае меркаванне даследчыцы. Абраз і гравюра вельмі падобныя: агульнасць назіраецца ў самім абліччы Хрыста, жэстах рук і пальцаў, складках гімацыя (асабліва на правым плячы) [**8**; малюнак 1, 2]. Аднак падабенства таксама назіраецца паміж абразом і выявай з іншага дрэварыту – шматскладовай кампазіцыі з львоўскіх кніг «Службоўнік» (1666) [**13**], «Літургіён» (1712) [7], «Трэбнік» (1761) [**16**; малюнак 3]. Тут крыху адрозніваецца жэст пальцаў правай рукі, аднак падобнымі з'яўляюцца складкі хітона вакол шыі Хрыста, такі ж надпіс у скрыжаванні німба. Тое, што абраз датаваны першай паловай XVII стагоддзя, а пералічаныя львоўскія кнігі былі надрукаваны пазней – не выклікае супярэчнасцяў, паколькі такая ж гравюра магла быць надрукавана і ў больш ранніх выданнях, што патрабуе далейшага пошуку. Акрамя таго, невядома, на падставе чаго датаваны абраз: магчыма, паводле гравюры-першаўзору, паколькі даследчыцай неаднаразова праводзілася датаванне твораў іканапісу на падставе выяўленай першакрыніцы. Тады выяўленне больш дакладнага пратографа дазволіць перагледзець існуючае датаванне. Агульным на абразе і на абедзвюх гравюрах з'яўляецца паўкруглае арачнае завяршэнне. У цэлым, усе творы вельмі падобныя. Аднак, магчыма, існавала нейкая іншая, пакуль не выяўленая намі гравюра, якая спалучала ў сабе ўсе тыя ж рысы, уласцівыя абразу.

А вось іншая думка Н.Ф. Высоцкай патрабуе ўдакладнення: гэта датычыцца абраза «Ілля» 1668 г., які быў выяўлены ў Ільінскай царкве Крычава. Н.Ф. Высоцкая адзначае, што іканаграфічнай аналогіяй да яго з'яўляецца гравюра з куцеінскага «Трыфалагіёна» (1647) [**5**, № 40; малюнак 4, 5]. Аднак падабенства паміж творамі вельмі адноснае, абумоўленае іканаграфічным канонам. Паколькі даследчыца не робіць адназначных высноў пра ўплыў гравюры на дадзены абраз, а толькі адзначае іканаграфічнае падабенства, то няма патрэбы на ім засяроджвацца падрабязна. Да таго ж, нам таксама не ўдалося выявіць першаўзор, які быў бы максімальна набліжаны да іканапіснага твора.

Як ўжо адзначалася, даследчыкі звяртаюцца да праблемы выкарыстання гравюры як да магчымасці высвятлення даты стварэння абраза: «Сравнение стилистически близких памятников «Апостол Павел» и «Апостол Пётр» из Могилёвщины с гравюрой в книге «Пречестные акафисты вседмичные» Киево-Печёрской лавры (1677) особенно наглядно показывают, что иконописец для изводов и декоративного оформления икон использовал как кужбушок данную гравюру, что позволяет их датировать последней четвертью XVIII в.» [**2**, с. 13]. Даследчыца сцвярджае, што крыніцай для твораў паслужылі гравюры з кіеўскага выдання «Акафісты штодзённыя» 1677 г., і на падставе гэтага датуе абразы другой чвэрцю XVII стагоддзя [**2**, с. 13; малюнак 6, 7]. Пра неабгрунтаванасць вызначэння верхняй храналагічнай мяжы твораў (не толькі названых тут), якую дае даследчыца, ужо адзначалася навукоўцамі: «Спробу аднесці абраз «Параскевы-пакутніцы» з Дзяржаўнага мастацкага музея БССР да сярэдзіны – другой паловы XVI ст., якую зрабіла Н.Ф. Высоцкая (гл. альбом «Жывапіс Беларусі XII–XVIII стст.», Мінск, 1980, с. 7, іл. 26) на падставе іканаграфічнай блізкасці абраза і выявы на гравюры, выдадзенай у Венецыі ў 1538 г., нельга прызнаць здавальняючай, таму што аўтар наогул не разглядае тэрміну, пасля якога абраз не мог узнікнуць» [**17**, с. 36]. Гэтая ж заўвага з'яўляецца слушнай і для дадзенага прыкладу. Аднак на пытанні першаўзору для абразоў «Пётр» і «Павел» трэба больш падрабязна спыніцца па іншай прычыне: калі даследчык на падставе крыніцы прыводзіць датаванне, значыць гэтыя звесткі, якія ён выкарыстоўвае, з'яўляюцца дакладнымі. Інакш кажучы, такія катэгарычныя сцвярджэнні абавязваюць навукоўцу да абгрунтаванасці выказваемых думак (што можа быць неабавязковым, калі гаворка вядзецца проста пра іканаграфічныя аналогіі). Таму дадзены прыклад прадстаўляе цікавасць, і на ім варта спыніцца больш падрабязна.

Па-першае, трэба адзначыць, што гравюры «Пётр» і «Павел» з кіеўскіх «Акафістаў штодзённых» (1677) былі адбіты з тых жа дошак і ў іншых выданнях Пячэрскай Лаўры, некаторыя з якіх з'яўляюцца больш раннімі. Да ліку кніг, дзе сустракаецца такая выява, належаць «Размовы» Іаана Златавуснага (Кіеў, 1623) [**4**], «Агародак Дзевы Марыі» А. Радзівілоўскага (Кіеў, 1676) [**12**], «Псалтыр з тлумачэннем» (Кіеў, 1697) [**11**]. Цікава, што ў самай ранняй з названых кніг адпаведныя выявы з'яўляюцца часткамі гравіраванага тытульнага аркуша. Гэта дазволіла меркаваць, што дадзеныя адбіткі зроблены з іншай дошкі, чым у больш

позніх выданнях. Паколькі больш верагодна, што для тытульнага аркуша было выкарыстана асобнае суцэльнае клішэ. Аднак параўнальны аналіз гэтую думку не пацвердзіў: магчыма, часткі тытула адціскаліся з некалькіх дошак з асобнымі выявамі (пры пільным разглядзе можна ўбачыць, што там састыкаваны дзве часткі, аднак выявы абодвух апосталаў размешчаны на адной з іх). Але больш верагодна, што клішэ пазней было раздзелена на некалькі частак так, што выявы Пятра і Паўла апынуліся на розных дошках. Канешне, разглядаўся і такі варыянт, што гравюры больш позніх выданняў з'яўляюцца дасканалай копіяй выяў з тытульнага аркуша «Размоваў» Іаана Златавуснага, аднак не ўдалося выявіць ніякіх, нават вельмі дробных, адрозненняў. Усе названыя адбіткі цалкам ідэнтычныя. Тым не менш, для дадзенага даследавання не так важна, ці з адной дошкі адціскаліся гэтыя выявы. Важна іншае: усе яны вельмі падобныя між сабой. Значыць, любая з гэтых гравюр магла паслужыць першакрыніцай. У такім выпадку датаванне, прапанаванае Н.Ф. Высоцкай на падставе першаўзору, выклікае сумненні. Абразы маглі быць створаны не ў апошняй чвэрці XVII стагоддзя, а фактычна пасля 1623 г. Яшчэ раз адзначым, што верхняя храналагічная мяжа пакуль што не вызначана.

Трэба адзначыць, што ў адным з кіеўскіх выданняў сустракаецца і вельмі набліжаная копія вышэй названых гравюр, якая таксама магла паслужыць крыніцай. Гэта датычыцца дрэварыту з кнігі Іанікія Галятоўскага «Казанні» (Кіеў, 1696) [**3**; малюнак 11].

Цікава, што пра абраз «Павел» з гэтай пары помнікаў пісала і іншая даследчыца, Н.Я. Трыфанава, у матэрыялах да віртуальнай версіі выставы «Праваслаўная ікона Расіі, Украіны, Беларусі», што адбылася ў Нацыянальным мастацкім музеі. Паколькі мастацтвазнаўца дае новыя звесткі, лічым мэтазгодным прывесці цытату цалкам: «Апостол Павел представлен в полный рост, слегка повернутым влево, в синем хитоне и красном гиматии. В правой руке у него – книга, в левой – меч, как принято в западноевропейском искусстве. Позем темно-зеленого цвета. Фон золоченый, с ографленным орнаментом. Данный иконографический вариант изображения святого входил в состав деисусного ряда иконостаса и сложился, очевидно, под влиянием книжной гравюры. По типажу и особенностям драпировки одежд апостола (гиматий с крупными, четко очерченными складками) икона близка воспроизведению святого на гравюре из книги «Трефологион» (Кутеинская типография,

1647). В то же время положение руки апостола, держащей меч, ступней ног подобны положению на ксилографиях из «Пречистых Акафистов всеседмичных» (Киево-Печерская лавра, 1677) и, что особенно интересно, из одноименного издания 1698 года могилевской братской типографии. Примеры аналогичного иконографического извода в украинской иконописи относятся к началу XVII века. В Беларуси он известен по памятникам последней четверти XVII столетия. Сохранившаяся конструкция иконостаса Никольской церкви в Могилеве (1669–1672) и имеющиеся фотографии иконостасов других известных монастырей Восточной Беларуси свидетельствуют о распространении в регионе парной компоновки фигур апостолов в деисусном ряду» [**10**].

Пра адпаведнасць тыпажу выяве з куцеінскага «Трыфалагіёна» з Н.Я. Трыфанавай пагадзіцца нельга. І ўвогуле, пры агульным падабенстве абраза і названай гравюры, акурат партрэтнае аблічча з’яўляецца найменш агульным элементам [малюнак 9]. Калі на абразе твар апостала больш выцягнуты, выразна звужаны да нізу, з тонкімі рысамі, апушчанымі вачыма, дык на куцеінскім дрэварыце – рысы больш грубаватыя, твар авальны, вочы глядзяць угору, іншая лінія валасоў [**15**]. У іканапіснай выявы якраз-такі больш агульнага з дрэварытамі названых выданняў Кіева і Магілёва [малюнак 7, 8, 11]. Што датычыцца падабенства драпіровак вопраткі, пра якія даследчыца зноў-такі адзначае сувязь з ілюстрацыяй «Трыфалагіёну», то дзіўна, што яна не заўважае такога ж падабенства абраза з дрэварытамі ўжо названых кіеўскіх і магілёўскага выданняў. Увогуле, на ўсіх гравюрах складкі аднолькавыя, што сведчыць пра агульную крыніцу для іх. А палажэнне рук і ног апостала на іконе сапраўды падобна да кіеўскай і магілёўскай гравюр і адрозніваецца ад куцеінскай. Абагульняючы вышэй сказанае адносна меркавання Н.Я. Трыфанавай, варта яшчэ раз адзначыць, што найбольшае падабенства назіраецца паміж магілёўскім абразом і гравюрамі кіеўскага і магілёўскага выданняў. Пры гэтым не будзем забывацца, што названае даследчыцай кіеўскае выданне не з’яўляецца адзіным, у якім змешчана такая выява. Хутчэй за ўсё, крыніцай гэтага абраза паслужыла або магілёўская гравюра, або адна з кіеўскіх. Аднак вызначыць непасрэдны першаўзор не прадстаўляецца магчымым, бо пры агульнай кампазіцыі ўсе гравюры маюць і іншыя аднолькавыя дэталі.

Незразумелым застаецца, чаму Н.Ф. Высоцкая, звяртаючы ўвагу на падабенства паміж магілёўскімі абаразамі і гравюрамі, не заўважыла,

што такое ж падабенства існуе паміж гэтымі ж дрэварытамі і абразамі «Пётр» і «Павел» столінскага майстра [**5**, № 62; малюнак 12, 13]. Гэтыя творы датаваны Н.Ф. Высоцкай: «*да 1700*». Названым абразам уласцівы ўсе тыя ж самыя рысы, што і магілёўскім помнікам, а таксама ілюстрацыям названых вышэй кіеўскіх і магілёўскай кніг [малюнак 6–8, 10–13]. Відавочна, што адна з іх паслужыла першаўзорам, аднак, як і ў выпадку з абразамі Магілёўшчыны, выявіць непасрэдную першакрыніцу не прадстаўляецца магчымым. Варта адзначыць, што прааналізаваныя вышэй беларускія абразы з двух цэркваў маюць падабенства з адпаведнымі ўкраінскімі творамі сакральнага жывапісу гэтага ж перыяду. Гэта датычыцца выявы «Апостал Павел» з парнай кампазіцыі «Апосталы Павел і Лука» з царквы Святой Параскевы Пятніцы ў Львове (пачатак XVII ст.) [**14**, с. 244; малюнак 14] і абраза «Апостал Павел» з сяла Перабродзы Роўненскай вобласці (сярэдзіна XVII ст.) [**14**, с. 253; малюнак 16]. Гэтыя творы з'яўляюцца і па кампазіцыі, і па абліччы апосталаў, і па дэталях цалкам ідэнтычнымі беларускім абразам і ўкраінскім (а таксама магілёўскай) гравюрам. Акрамя таго, абраз з Роўненскай вобласці мае такое ж паўкруглае завяршэнне ў выглядзе аркі, як і кіеўскія гравюры. Гэты элемент прысутнічае толькі на гравюрах з выданняў Лаўры, таму відавочна, што крыніцай з'яўляецца адно з іх. Аднак парны да гэтага абраза «Апостал Пётр» хоць і мае шматлікія падабенствы з кіеўскімі ілюстрацыямі (у тым ліку і аркавае завяршэнне), аднак адна дэталь усё ж адрозніваецца: ён трымае ключ, сціснуўшы яго ў руцэ, а не за вяровачку [малюнак 10, 15]. Такі ж элемент з вядомых нам гравюр прысутнічае на выяве з куцеінскага «Трыфалагіёна» (1647), але на куцеінскім дрэварыце няма аркавага абрамлення [малюнак 9]. Да таго ж мала верагодна, што мастак выкарыстоўваў некалькі гравюр. Хутчэй за ўсё, існуе выява, пакуль яшчэ не знойдзеная намі, на якой спалучаліся ўсе пералічаныя элементы. Ёсць падставы меркаваць, што гэта была менавіта кіеўская гравюра, якая з'яўлялася або копіяй, або, хутчэй за ўсё (мяркуючы па даце — першая палова XVII ст.), першаўзорам усіх астатніх, паколькі яна адрознівалася толькі адным элементам.

Таксама патрабуюць удакладнення звесткі, датычныя іншых твораў беларускага іканапісу: царскай брамы канца XVII ст. з адлюстраваннем сюжэту Дабравешчання і евангелістаў, якая паходзіць з сяла Пінкавічы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. На думку Н.Ф. Высоцкай: «Адлюстраванні евангелістаў створаны па гравюрах «Новы запавет»

(Куцейн, 1652, с. 535, адв.) і «Актоіх» (Куцейн, 1646, тытул)» [**5**, с. 50]. Аднак параўнанне жывапісных выяў з названымі творамі графікі сведчыць пра адваротнае: тут не назіраецца ніякага падабенства па-за іканаграфічным канонам [малюнак 17–25]. Інакш кажучы, на царскай браме намаляваны паясныя выявы евангелістаў з кнігай (Марк) або пергаментам (Лука, Матфей) у прынятай пры іх адлюстраванні вопратцы. Аднак няма ніякіх элементаў, дэталяў, агульнасцяў кампазіцыі, што сведчылі б пра выкарыстанне названых вышэй гравюр куцеінскіх выданняў як крыніцы. Напрыклад, на клеймах тытульнага аркуша «Актоіха» ўсе евангелісты паказаны з кнігай у руках, іх ад жывапісных «аналагаў» адрознівае паварот галавы, жэсты рук і ўвогуле размяшчэнне [**1**]. Тое ж самае датычыцца і гравюр з «Новага запавету». У гэтай кнізе ёсць як старонкавыя выявы евангелістаў, так і клеймы ў застаўках. Але ні першыя, ні другія не з'яўляюцца іканаграфічна набліжанымі творамі да роспісаў царскай брамы [**9**].

Разгледжаныя вышэй прыклады датычацца XVII стагоддзя. Відавочна, што ў той час гравюры ўжо актыўна выкарыстоўваліся як крыніца пры стварэнні не толькі сюжэтных абразоў, але і «партрэтных» — з адлюстраваннем аднаго персанажа. Такія ж тэндэнцыі і з большай інтэнсіўнасцю працягваюцца ў XVIII стагоддзі. Слушнай тут з'яўляецца думка даследчыкаў заходнепалескага іканапісу: «Вельмі паказальнымі ў плане раскрыцця барочнай эстэтыкі пры адлюстраванні святых як рэальных асоб наступныя творы: падпісаны і датаваны абраз «Параскева» 1767 г. з Драгічынскага раёна, аднайменны твор з Лунінецкага раёна, абразы «Васіль Вялікі» і «Іаан Златавуст» (апошнія два, верагодна, паходзяць з жывапіснай майстэрні Жыровіцкага манастыра) і шэраг іншых. Гэта вельмі выразныя прыклады пераарыентацыі ў іканапісе ад традыцыйных, уласцівых папярэдняму стагоддзю поствізантыйскіх формаў да заходнееўрапейскай іканаграфіі, святлоценявой, аб'ёмнай, натуралістычнай манеры жывапісу, да складанай, дынамічнай барочнай пластыкі фігур, засвоенай не без уплываў гравюрных першаўзораў і канчаткова аформленай як дамінуючы напрамак у іканапісе XVIII ст.» [**6**, с. 185]. Сапраўды, у іканапісе XVIII стагоддзя біблейскія вобразы трактаваны па-новаму, з натуральна-рэалістычным выяўленнем постаці і аблічча. Аднак знайсці непасрэдныя першаўзоры да названых твораў пакуль не ўдалося. Гэта звязана з прычынамі, характэрнымі і для папярэдне

разгледжанага XVII ст.: аднастайнасць кампазіцыі ўскладняе пошук крыніцы.

Аднак у гэтай жа кнізе даследчыкі называюць твор, які быў створаны паводле гравюры. Гэта датычыцца абраза «Мікола» з аброўскай царквы. Паколькі твор не захаваўся, то супаставіць яго з названым даследчыкамі першаўзорам не прадстаўляецца магчымым. Тым не менш, аўтары вельмі красамоўна апісваюць абраз і асаблівасці пераўтварэння мастацка-вобразнага ладу гравюры ў гэтым помніку іканапісу. Паколькі, як адзначана, твор не захаваўся, бачым неабходным прывесці дадзенае апісанне цалкам: «Для ўзору абраза «Святы Мікола» аброўскі майстар выкарыстаў кіеўскую гравюру, на якой змешчана выява святіцеля на фоне панарамы кіеўскага выдабецкага манастыра. Аброўскі майстар з вялікім умельствам здолеў перавесці ў жывапіс графічны першаўзор, ён вельмі тонка распрацаваў пейзажны план, мяккімі танальнымі пераходамі напісаў воблачнае неба, епіскапскі сакас Св. Міколы аздобіў багатым арнаментам, імкнучыся перадаць пышную фактуру шматколернай каштоўнай тканіны. У характэрнай для апошніх дзесяцігоддзяў XVIII ст. тэхніцы рэльефных фляндраваных мазкоў пазалотнай пасты распісвае ён дэкаратыўную рамку гэтага абраза» [**6**, с. 190]. Аўтары не толькі маляўніча апісваюць абраз, але і ў агульных рысах характарызуюць выкарыстаную гравюру-першаўзор. Аднак так і застаецца невядомым, у якой кнізе была змешчана такая выява. Магчыма, гэта была нават не ілюстрацыя, а самастойны станковы твор, якія ў XVIII стагоддзі былі шырока распаўсюджаны.

Падводзячы высновы, у цэлым трэба адзначыць, што для абразоў, на якіх адлюстраваны біблейскія вобразы, значна складаней выявіць першаўзор, чым для сюжэтных твораў. Гэта перш за ўсё звязана са статычнасцю, аднастайнасцю кампазіцыі, пра што ўжо адзначалася вышэй. Для большасці твораў пра існаванне першаўзору можна казаць толькі прыблізна. Аднак прыклады з абразамі «Апостал Павел» і «Апостал Пётр» сведчаць пра тое, што пры пераймані першаўзору мастак запазычвае не толькі кампазіцыю, але і дробныя дэталі. Таму ў цэлым можна адзначыць, што пры выкарыстанні першаўзору майстры вельмі часта «не грэбавалі дробязямі», пераносячы іх ў такой жа адпаведнасці на іканапісную дошку.

**Спіс літаратуры**

1. Актоіх. — Куцейна: друкарня Богаяўленскага манастыра, 1646. (Цэнтральная Навуковая Бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі (далей — ЦНБ), К 16–18 / Нр 67)1.

2. Высоцкая, Н.Ф. Искусство Беларуси XII–XVIII вв. / Н. Высоцкая — Минск, 2004. — 26 с.

3. Галятоўскі, І. Казанні, дададзеныя да кнігі «Ключ разумення» / Іанікій Галятоўскі. — Кіеў: друкарня Кіева-Пячэрскай Лаўры, 1660. (ЦНБ, К 16–18 / Ср 297).

4. Златавуст, І. Размовы на 14 пасланняў святога апостала Паўла / Іаан Златавуст. — Кіеў: друкарня Кіева-Пячэрскай Лаўры, 1623. (ЦНБ, К 16–18 / Ср 15).

5. Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў / аўтар тэксту і складальнік Н.Ф. Высоцкая. — Мінск: Беларусь, 2001. — 21 с.: [139] арк. іл.

6. Іканапіс Заходняга Палесся XVI–XIX стст. / В.Ф. Шматаў, Э.І. Вецер, М.П. Мельнікаў і інш.; навук. рэд. В.Ф. Шматаў; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ім. К. Крапівы НАН Беларусі. — Мінск: Бел. навука, 2002. — 349 с.: іл.

7. Літургіён. — Львоў: друкарня брацтва, 1712. (ЦНБ, К 16–18 / Ср 264).

8. Макарый Егіпецкі. Духоўныя размовы / Макарый Егіпецкі. — Вільня: друкарня Брацтва Святога Духа, 1627. (ЦНБ, К 16–18 / Нр 38).

9. Новы запавет з псалтырам. — Куцейна: друкарня Богаяўленскага манастыра, 1652. (ЦНБ, К 16–18 / Нр 26).

10. Православная икона России, Украины, Беларуси [электронныйя ресурс]: виртуальная версия выставки «Православная икона России, Украины, Беларуси» в Национальном художественном музее 30 сентября — 9 ноября 2008 г. — Минск: Национальный художественный музей, 2009. — 1 электрон. опт. диск (CD-ROM).

11. Псалтыр з тлумачэннем. — Кіеў: друкарня Кіева-Пячэрскай Лаўры, 1697. (ЦНБ, К 16–18 / Ср 7).

12. Радзівілоўскі, А. Агародак Дзевы Марыі / Антоній Радзівілоўскі. — Кіеў: друкарня Кіева-Пячэрскай Лаўры, 1676. (ЦНБ, К 16–18 / Ср 54).

[1] У дужках пасля бібліяграфічнага запісу старадрукаў пазначана бібліятэка, дзе захоўваецца кніга, і шыфр асобніка, з якім непасрэдна вялася праца пры даследаванні.

13. Службоўнік. — 2-е выд. — Львоў: друкарня брацтва, 1666. (ЦНБ, К 16–18 / Нр 134).

14. Степовик, Д. Історія української ікони X—XX століть / Д. Степовик. — Київ: Либідь, 1996. — 440 с.; іл.

15. Трыфалагіён. — Куцейна: друкарня Богаяўленскага манастыра, 1647. (ЦНБ, К 16–18 / Нр 48).

16. Трэбнік або Малітваслоў. — Львоў: друкарня брацтва, 1761. (ЦНБ, К 16–18 / Нр 101).

17. Хадыка, Ю.В. Аб датаванні групы помнікаў канца XVI — пачатку XVII ст. / Ю.В. Хадыка // Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці. [Зб. артыкулаў] / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; [рэд. С.В. Марцэлеў]. — Мінск: Навука і тэхніка, 1984. — с. 30–36, іл.

*Хазанава К.Л.*

## Беларускія моўныя рысы ў мове «Аповесці аб Трыстане»

Асобныя ўсходнеславянскія мовы пачалі фарміравацца яшчэ ў XIII ст., калі ўзмацнілася інтэнсіўнае напаўненне старажытнарускай пісьменнасці мясцовымі моўнымі з'явамі. У мове Старажытнай Русі адбываліся паступовыя змены, выкліканыя збліжэннем з жывой народнай мовай і пранікненнем у помнікі мясцовых моўных элементаў. У кожным з усходнеславянскіх дыялектаў развіваліся спецыфічныя моўныя з'явы. Такім чынам адбывалася паступовае фарміраванне асобных усходнеславянскіх моў на аснове старажытнарускай мовы і яе дыялектных адгалінаванняў. Па словах Л.М. Шакуна, «помнікі са спецыфічнымі рысамі беларускай мовы з'яўляюцца ўжо ў пачатку XIII ст.» [1, с. 20]. А накапленне беларускіх элементаў у літаратурнай мове тэрыторыі сучаснай Беларусі прыводзіць да «паступовага складвання старабеларускай літаратурнай мовы» [1, с. 16].

У беларускім мовазнаўстве замацаваўся трохстылявы падзел беларускай літаратурнай мовы часоў Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ): *афіцыйна-справавы* (мова юрыдычных помнікаў), *свецка-мастацкі, рэлігійны* (канфесійны) стылі [1; 2].

З народнай гаворкай і папярэдняй пісьмова-кніжнай традыцыяй літаратурная мова ВКЛ была звязана ў розных жанрах літаратуры па-рознаму. Малапранікальнымі для беларусізмаў сталі кананічныя рэлігійныя тэксты: Евангелле, Псалтыр, Апостал. У гэтых самых распаўсюджаных у набажэнстве кнігах старажытнымі кніжнікамі захоўваліся змест і знешняя форма, і апіскі, выкліканыя жывым вымаўленнем, тут выпадковыя. Больш свабодна беларусізмы пранікалі ў жанры рэлігійнай літаратуры, якія не выкарыстоўваліся непасрэдна ў набажэнстве, а прызначаліся пераважна для дамашняга павучальнага чытання з мэтай пашырэння і ўмацавання Хрысціянскай маралі сярод веруючых, як, напрыклад, Чэцця Бярозкі (1489) або звязаныя зместам з Евангельскімі апавяданнямі перакладныя рэлігійныя аповесці

«Пакуты Хрыста» і «Аповесць аб трох каралях-валхвах» (канец XV ст.), дзе жывая беларуская мова знайшла поўнае выражэнне. Рысы беларускай мовы адзначаюцца ў такіх палемічных рэлігійных творах, як «Унія» Іпацея Пацея (Вільня, 1595) і «Апісанне і абарона сабора рускага берасцейскага» Пятра Скаргі (Вільня, 1597), аўтары якіх, мала знаёмыя з царкоўнаславянскай мовай, з мэтай пашырэння твораў сярод чытачоў выкарыстоўвалі сродкі народнай беларускай мовы.

Характэрныя рысы старабеларускай літаратурнай мовы, заснаваныя на асаблівасцях жывой гаворкі беларусаў, складаюць звычайную з'яву ў справавой дакументацыі XIV–XVI стст.: Укладная грамата княгіні Ульяны царкве ў Азярышчах, граматы рыжан да Віцебскіх і Полацкіх князёў, гандлёвыя дагаворы паміж Полацкам, Смаленскам, Рыгай і Готландам і, безумоўна, Статуты ВКЛ 1566 і 1588 гадоў, а таксама Трыбунал 1581 г., дзе поўна праведзены прынцып фанетызацыі правапісу.

Не засталіся ўбаку ад напаўнення беларускімі моўнымі рысамі і свецка-мастацкія творы XV–XVI стст. Стыль свецка-мастацкай літаратуры вялікалітоўскага перыяду ў структуры тагачаснай літаратурнай мовы ўяўляе сабой разгалінаваную, багатую на сродкі выразнасці функцыянальную разнавіднасць.

Паводле напоўненасці беларускімі моўнымі элементамі асабліва выдзяляюцца перакладныя мастацкія творы. Сярод іх — папулярны рыцарскі раман Сярэднявечча «Аповесць аб Трыстане», што быў перакладзены на беларускую мову з сербскай (а на сербскую — з італьянскай) і захаваўся ў рукапісным зборніку канца XVI ст.

У фанетычна-арфаграфічнай сістэме твора паслядоўна адлюстраваліся многія з'явы, што зараз з'яўляюцца нормамі беларускай літаратурнай мовы.

У кансанантызме перш за ўсё фіксуецца зацвярдзенне шыпячых: *боєчыса* [3, с. 173], *вбачыли* [174], *взꙗвшы* [173], *видѣвшы* [173], *вмыслившы* [173], *вчынила* [174], *вчынити* [178], *выскочыла* [178], *дружыною* [176], *женившы сꙗ* [173], *защытила* [180], *мечъ* [175], *мечомъ* [179], *ненавидечы* [174], *ѡтведъшы* [176], *ѿчызну* [176], *положылъ* [175], *посылаючы* [179], *почувшы* [178], *рѣчы* [177], *сꙗ стеречы* [174], *сꙗ учыл* [176], *убачывшы* [178], *учынилъ* [174], *у флꙗшы* [173], *хочешъ* [175], *чынилъ* [176], *чыстое* [174].

Неабходна заўважыць аб адзінкавых выпадках захавання мяккасці шыпячых: *ростучи* [173], *человѣкъ* [176], *человѣчеє* [177], *честую*

[178], *уморывши* [174]. Мяккасць шыпячага захавана і пры перадачы галоўнага героя аповесці: *Трыщанъ*. Пры яўнай колькаснай перавазе ўказанага варыянта імя ў тэксце сустракаецца і варыянты *Трысчанъ* [175] і *Трыштан* [180].

Разам з зацвярдзеннем шыпячых у мове «Аповесці аб Трыстане» дастаткова паслядоўна адлюстравана зацвярдзенне дрыжачага [р]: *вморыт* [174], *закрычала* [174], *крычати* [175], *морыла* [174], *прывести* [179], *прыидеть* [175], *прыити* [176], *пры смерти* [175], *прышла* [173], *прышол* [176], *прыятелю* [176], *Трыщана* [174], *уморывши* [174]. Аднак і тут заўважым, што часам у тэксце захоўваецца мяккасць [р]: *вмерети* [179], *Перемонту* [176], *пришолъ* [176], *рек* [175], *рекла* [175].

У мове помніка перадаецца зацвярдзенне [ц]: *дѣвцэ* [174], *к ласцэ* [177], *палац* [180], *рыцэрство* [176], *Францыю* [176], *Францэи* [177], *хлопец* [176].

У помніку фіксуецца пераход пачатковага зычнага [в] у [у]. Гэтае змяненне з'яўляецца вынікам страты рэдукаваных *Ъ, Ь*. Пераход пачаў адбывацца, калі пасля знікнення слабых рэдукаваных *Ъ, Ь* парушыўся закон адкрытага склада і губна-зубны [в] апынуўся на канцы склада. У выніку ў беларускіх гаворках на месцы губна-зубнога (лабіяльна-дэнтальнага) [в] стаў развівацца губна-губны (білабіяльны) [ў]. У тэксце змяненне [в] → [у] перш за ўсё адлюстроўваецца ў прыназоўніках: *у великий палац* [180], *у головахъ* [173], *у зброи* [176], *у моєи ѡпецэ* [174], *у фляшу* [173], *у флѧшы* [174], *у Францыю* [176], хаця сустракаюцца асобныя выпадкі пераходу [в] → [у] і на пачатку слоў: *увошла* [178], *узвелиш* [177], *узѧла еси* [180], *усхочеш* [179]. У некаторых выпадках змяненне [в] на [у] абазначаецца ў помніку праз літару *ѡ*: *ѡзметь* [179], *ѡстала* [175].

У тэксце аповесці сустракаецца адлюстраванне змянення [у] → [ў], што на пісьме перадаецца праз літару *в*: *вбачыли* [174], *вбил* [176], *вгожаи* [174], *вдѧчне* [177], *вжэ* [180], *в королѧ* [174], *вмерети* [179], *вмерлое* [174], *вмолкла* [174], *вморыт* [173], *всхочет* [177], *всхочешъ* [179], *втерпети* [179], *вчынила* [174]. Пры гэтым выпадкі фіксацыі ўказанага пераходу адзначаюцца не толькі на пачатку слова, але і ў сярэдзіне: *сѧ навчыш* [176].

Літара *в* ужываецца і для абазначэння пратэтычнага [в], што «ўзнікае ў моўным патоку для ліквідацыі гіятуса на стыку прыназоўніка *у* і галоснага наступнага слова» [2, с. 265]. У такіх выпадках на месцы прыназоўніка *у* ў тэксце сустракаецца прыназоўнік *ув*: *ни ув-одномъ человецэ* [177].

Яшчэ адным наступствам страты рэдукаваных з'яўляецца дысіміляцыя (распадабненне) зычных, у выніку чаго на месцы старажытнарускіх спалучэнняў *кът, чьт* пасля знікнення слабога рэдукаванага ўтварыліся спалучэнні *хт, шт*. Указаная фанетычная з'ява асабліва яскрава назіраецца ў займенніках *хто, што* і вытворных ад іх, якія сустракаюцца ў мове аповесці: *ни за што* [177], *нихто* [177], *хто* [177], *што* [180], *штобы* [177].

У час з'яўлення перакладу «Аповесці аб Трышчане» для жывой беларускай гаворкі характэрным быў зычны [г] фрыкатыўны. Адрозны па якасці вымаўлення зычны [г] выбухны ўжываўся ў некаторых запазычаннях. У мове твора такое адрозненне ў вымаўленні зычных перадаецца, як і ў іншых старабеларускіх пісьмовых помніках, праз абазначэнне выбухнога [г] дыграфам *кг*: *зкгвалътовати* [178], *кгды* [174].

Асобныя моўныя з'явы, уласцівыя беларускай фанетыцы, адлюстраваліся ў вакалізме. Для ўсходнеславянскіх моў характэрным з'яўляецца поўнагалоссе. Поўнагалосныя спалучэнні пераважаюць у помніку: *ворожбитка* [176], *город* [176], *голосомъ* [178], *для молодости* [177], *золота* [177], *королевны* [173], *королевича* [173], *королевои* [175], *королевства* [177], *король* [175], *молод* [177], *оборонити* [176], *серебра* [177], *серебреную* [173]. Поўнагалосныя спалучэнні *оро, оло, ере* ўтварыліся на аснове праславянскіх **or, *ol, *er* у становішчы паміж зычнымі. Гэтыя спалучэнні ў розных славянскіх мовах мелі розны лёс. Ва ўсходнеславянскіх мовах пасля плаўных зычных развіўся галосны, такі самы, як быў перад зычным. У паўднёваславянскіх мовах адбывалася змена артыкуляцыі плаўнага зычнага і галоснага з адначасовым падаўжэннем галоснага, вынікам чаго сталі спалучэнні тыпу **trat, *tlat, *tret* (дзе *t* — умоўнае абазначэнне зычнага ўвогуле). Няпоўнагалосныя формы сустракаюцца ў мове помніка радзей і з'яўляюцца прыкметай уплыву мовы арыгінала: *младенца* [177]. Нагадаем, што на беларускую глебу твор перакладзены менавіта з сербскай мовы, якая, будучы паўднёваславянскай, утрымлівае няпоўнагалосныя варыянты ўсходнеславянскага поўнагалосся. Сустракаюцца ў мове аповесці таксама няпоўнагалосныя формы заходнеславянскага ўзору: *двухъ млоденцов* [179]. Наяўнасць падобных спалучэнняў можна растлумачыць інтэнсіўным уплывам польскай мовы на беларускую ў часы з'яўлення перакладу аповесці.

Для гісторыі беларускай фанетыкі ўласцівым з'яўляецца пераход *є* → *о*. Пераход адбываўся пасля спрадвечна мяккіх зычных перад

цвёрдымі. У творы змяненне *є* на *о* адлюстравалася толькі пасля зацвярдзелых (але спрадвечна мяккіх) зычных: *встережонъ* [176], *ничого* [175], *жона* [179], *мечомъ* [180], *плачом* [174], *пошол* [180], *у мачохи* [173], *чого* [174]. Адлюстраванне змянення *є* → *о* толькі пасля шыпячых і адсутнасць яго пасля іншых зычных абумоўлена адсутнасцю ў тагачаснай пісьмовай традыцыі літары *ё*. Пасля шыпячых *е* захоўваецца ў пазіцыі канца слова: *вжэ* [180].

Спецыфічнай адметнасцю старабеларускай літаратурнай мовы з'яўлялася ўскоснае адлюстраванне якання, калі перапісчыкі на месцы спрадвечнага *ѧ* і *я* ўжывалі на пісьме *е*. Спрацоўвала прывычка пісаць *е* на месцы [ʻа] пры вымаўленні слоў, дзе ў сувязі з яканнем на месцы старажытнарускага [ʻэ] стала вымаўляцца [ʻа]. У мове аповесці яканне не адлюстравалася. Але выпадкі замены *ѧ* літарай *е* сведчаць аб існаванні якання ў тагачасным жывым маўленні: *боечы сѧ* [179], *гледѣти* [179], *къ памети* [174], *ненавидечы* [174], *погледы* [174]. Пры гэтым неабходна заўважыць, што адзінкавыя выпадкі акання ў мове помніка сустракаюцца: *цаловати* [179].

Беларускія моўныя элементы адзначаюцца і ў граматычным ладзе помніка. У формах давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку назоўнікаў старажытнага скланення з асновай на **ā* на месцы спрадвечнага канчатка *-ѣ* адзначаецца канчатак *-э*: *в руцэ* [174], *к ласцэ* [177], *мовила дѣвцэ* [174], *у моєи ѡпецэ* [174]. Адметна, што ў канчатках тут ужываецца літара *э*, у адрозненне ад ранейшых помнікаў, дзе сустракаецца літара *є*. Неабходна заўважыць, што ў асобных выпадках форма меснага склону ўказаных назоўнікаў мае канчатак *-ы*: *в ложницы* [174], *у флѧшы* [173].

Уласцівым для беларускай мовы з'яўляецца канчатак *–и* ў форме меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў былога скланення на **ŏ* мяккай разнавіднасці: *пры короли* [175]. Канчатак *–и* для ўказанай формы з'яўляецца спрадвечным, аднак у сучаснай рускай мове па аналогіі з цвёрдай разнавіднасцю скланення назоўнікі з мяккай асновай сталі ўжывацца з канчаткам –е, які ўзнік на месцы старажытнага *-ѣ*. У беларускай мове замацаваўся спрадвечны канчатак. У назоўнікаў з асновай на заднеязычны ва ўказанай форме ў помніку захоўваюцца сляды другой палаталізацыі, але на месцы старажытнага *-ѣ* ўжываецца *э*: *ни ув-одномъ человецэ* [177].

Сярод назоўнікавых форм выдзяляюцца таксама формы клічнага склону: ***Дочко****, ты мѣи Трыштана* [180]; ***Государу ѡтче****, пусти ми*

*Трыщана* [179–180]; ***Королю**, для Бога буд ми милостив!* [175]; *Мои добрыи **прыятелю** и **сыну,** твоѧ мачоха тебе велми ненавидит* [176]; ***Пане**, албо пусти Трыщана, альбо хочу сама себе убити* [180]; ***Пане Говорнаре**, я милую твоєго Трыщана* [176]; ***Сыну**, хто тобѣ сеє радил?* [175]. Пашыранасць і частотнасць ужывання клічных форм назоўнікаў у творы абумоўлена зместам. Гэта мастацкі твор, дзе героі часта ўступаюць у дыялогі, размаўляюць, звяртаюцца адзін да аднаго. Падобныя клічныя формы дагэтуль ужываюцца ў беларускіх гаворках і выкарыстоўваюцца пісьменнікамі ў мастацкіх творах [4, с. 147].

Характэрнымі для беларускай мовы з'яўляюцца ў помніку формы займеннікаў. Так, сустракаецца форма давальнага склону адзіночнага ліку асабовага займенніка другой асобы: ***тобѣ** злого вчынила* [174]; *хто **тобѣ** сеє радил* [175]. Прыгадаем, што ў старажытнарускай мове для гэтай формы існавалі тры формы займеннікаў: ***тебѣ***, адзначаная кніжнаславянскім уплывам і захаваная ў рускай мове, *тобѣ*, з фанетычнымі зменамі захаваная ў беларускай і ўкраінскай мовах, і энклітычная форма *ти*. Кніжнаславянская форма *тебѣ* ў мове аповесці сустракаецца зрэдку, мае стылістычную афарбоўку і ўжываецца ў фразах, дзе неабходна перадаць узвышанасць і ўзнёсласць: *Король.. рек: я **тебѣ** честую якож ест явно всимъ людемъ* [178–179]. Энклітычны займеннік давальнага склону разам з іншымі энклітычнымі формамі асабовых займеннікаў таксама выкарыстоўваецца перакладчыкам: *ничого **ти** мною не заборонено* [175]; ***ми** сына вморыла* [174]; ***мѧ** хотѣлъ зкгвалътовати* [178]; *ты-с **ми** далъ королевое жывот* [175].

Асобнай увагі заслугоўваюць указальныя займеннікі, адлюстраваныя ў мове «Аповесці аб Трыстане». Як правіла, тут ужываюцца поўныя ўказальныя займеннікі: ***тая** трутизна* [174], ***тое** трутизны* [174], ***тую** трутизну* [174], ***тоє** видевшы* [179]. Гэтыя формы займеннікаў утварыліся шляхам аб'яднання двух старажытных указальных займеннікаў *тъ (та, то)* і *и (я, ѥ)*. Прычым такое зліццё адбывалася і ва ўскосных склонах, што пацвярджае тэкст аповесці.

У помніку зафіксавана і адметная, уласцівая беларускай мове, форма творнага склону адзіночнага ліку ўказальнага займенніка мужчынскага і ніякага роду: *мѣлъ с **тымъ** вчынити* [177], *убити **тымъ** мечомъ* [180]. Дадзеная форма ўзнікла на месцы старажытнарускага *тѣмь* і змянілася пад уплывам адпаведных склонавых форм займеннікаў мяккай разнавіднасці і поўных прыметнікаў [4, с. 181].

Беларускія моўныя адметнасці назіраюцца ў «Аповесці аб Трыстане» ў сістэме дзеяслова. У асобных выпадках адзначаецца інфінітыў без канцавога *–и: мушу Трыщана* ***вморыт*** [173], хаця пераважаюць інфінітывы на *–ти: быти* [175], *домышлѧти* [174], *мовити* [178], *несмѣти* [177], *пити* [174], *плакати* [173], *поведати* [174], *уморити* [175]. Пры гэтым трэба заўважыць, што суфікс *–ти* маюць у помніку нават інфінітывы зваротных дзеясловаў, ад якіх *сѧ* пішацца асобна па польскім узоры: *доведати сѧ* [179], *жаловати сѧ* [178], а таксама інфінітывы, вытворныя ад запазычанняў: *зкгвалътовати* [178].

Часам у мове аповесці сустракаюцца формы трэцяй асобы адзіночнага ліку цяперашняга або будучага простага часу дзеясловаў першага спражэння з адсутным канцавым *–т: може* [175]. Разам з тым пераважаюць формы на *–т: будет* [175], *всхочет* [177], *знат* [177], *мает* [176], *милуєт* [178], *прыидет* [176], *умрет* [179], *хочет* [176] і *-ть*: *будеть* [175], *прыидеть* [175], *ѡзметь* [173]. Варыянтнасцьканчаткаў назіраецца і ў дзеясловаў другога спражэння: *держыть* [178], *мусить* [178], *мыслить* [176], *ненавидит* [176], *не прызволить* [177], *не сквапит сѧ* [177], *не хыбит* [175].

Пры абазначэнні прошлага дзеяння ў помніку пераважаюць формы перфекта без звязкі: *бояре* ***видели*** [176], *ворожбитка* ***рекла*** [176], *дитѧ* ***почало*** [173], *дѣвка* ***закрычала*** [174], *королеваѧ ѡ****стала*** [175], *король*... ***былъ*** [173], *король* ***миловал*** [175], *ѡн*.. ***подѧковалъ*** [174], *ѡна*.. ***видѣла*** [173], *ѡни* ***ѡтказали*** [174], *панна* ***носила*** [173], *пани* ***была*** [173], ***прыехали*** *два рыцэры* [176], ***седѣлъ*** *король* [174], *Трыщан* ***плакал*** [176], *Трыщанъ* ***прышолъ*** [175], ***увидел*** *король* [176]. Дзеяслоўная звязка ў складзе перфекта сустракаецца ў формах першай і другой асобы: *Королевна тебе назбыт милуєт, єслибъ* ***єси*** *ее миловати* ***не хотѣлъ*** [178]; *я* ***есми загиб*** [179]. У некаторых выпадках звязка ў гэтых формах адсутнічае, што ўказвае на яе страту ў жывым маўленні, а выканальніка дзеяння называе асабовы займеннік: ***ты*** *єи* ***мыслил*** *вѣрую доброть* [175].

У аповесці сустракаецца і зменeная форма плюсквамперфекта: *А коли ѡна* ***была прышла****, в тот час было Трыщану сем лѣтъ* [173]. Плюсквамперфект тут заканамерна абазначае мінулае дзеянне, якое адбывалася раней за іншае мінулае. Спрадвечна трохслоўная форма ўтваралася шляхам складання перфекта дзеяслова *быти* і нескланяльнага дзеепрыметніка прошлага часу на *–л*. У «Аповесці аб Трыстане» зафіксавана форма даўномінулага часу са страчанай дзеяслоўнай звяз-

кай *єсть* (3 асоба адзіночны лік цяперашні час дзеяслова *быти*). Такія формы захаваліся ў сучаснай беларускай мове і зараз ужываюцца як у гаворках, так і ў літаратурнай мове.

Адметнымі з'яўляюцца ў помніку формы загаднага ладу. Канцавы *–и* ў форме другой асобы адзіночнага ліку захоўваецца пад націскам: *не проси* [175], *ѡзми* [175]. У дзеяслоўных формах з націскам на аснове канцавы *–и* не захоўваецца: *будь* [175]. У аповесці адлюстравана страта канцавога *–и* ў формах другой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу ў дзеясловах з асновай на каранёвы *–и: выпи* [175], *заби* [180], *пи* [174]. У такіх формах каранёвы [и] спрадвечна быў рэдукаваны, які на беларускай глебе ўзмацніўся і супаў са спрадвечным [и] поўнага ўтварэння. У формах першай асобы множнага ліку загаднага ладу адзначаецца форма на *–мо: поедмо* [176].

У мове аповесці выдзяляецца таксама ўжыванне былых кароткіх дзеепрыметнікаў назоўнага склону адзіночнага ліку жаночага роду ў функцыі дзеепрыслоўяў, якія «выступаюць як закончаная, цалкам аформленая катэгорыя дзеяслова» [2, с. 267]: ***вынѧвшы*** *мечы нихто не могъ того оборонити* [176]; *Говорнар..* ***ѡтведъшы*** *єго проч и рекъ* [176]; *дѣвка* ***видѣвшы*** *закрычала* [174]; *Трыщанъ прышолъ..* ***просечы*** [175]; *ѡна тоє* ***видевшы*** *не могла втерпети* [179]; *ѡна* ***прыскочывшы*** *и защытила єго рукою* [180].

У лексіцы помніка сустракаюцца шматлікія беларусізмы: *горшеи* [175], *господа* [177], *досыт* [173], *заборонено* [175], *помстити* [179], *почала* [173], *рада* [174], *хлопец* [176]. Нягледзячы на тое, што пераклад «Аповесці аб Трыстане» зроблены з сербскай мовы, у тэксце выдзяляюцца шматлікія паланізмы часоў самастойнага існавання беларускай мовы: *везене* 'зняволенне' [174], *жадного* 'ніводнага' [174], *зкгвалътовати* [178], *кгды* 'калі' [174], *когоколве* 'каго-небудзь' [174], *лов* 'паляванне' [176], *мушу* [173], *лечъ* 'але' [174], *пани* [173], *панство* [173], *трутизна* 'атрута' [174], *цудъна* [173].

Разгляд асобных беларускіх моўных элементаў «Аповесці аб Трыстане» сведчыць аб значным пранікненні ў літаратурна-пісьмовую мову ВКЛ асаблівасцей жывой беларускай гаворкі. Мова помніка ў фанетычным складзе, граматычным ладзе і слоўніку значна адрозніваецца ад старажытнарускай мовы і ў некаторых сваіх рысах набліжаецца да сучаснай беларускай мовы. Гэта ўказвае на дастаткова блізкую сувязь мовы старабеларускіх мастацкіх твораў з тагачаснай жывой беларускай гаворкай.

